ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ IX

№ 7

КРАСАВІК 1935 г.



ЗМЕСТ





Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000 даб. 80; адк. сакратара—12
гарадскі—21044.



# Прамова таварыша СТАЛІНА

## У Крэмлёўскім палацы на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі 4 мая 1935 года

Таварышы! Нельга адмаўляць, што за апошні час мы мелі вялікія поспехі як у галіне будаўніцтва, так і ў галіне кіравання. У сувязі з гэтым занадта многа гавораць у нас аб заслугах кіраўнікоў, аб заслугах правадыроў. Ім прыпісваюць усе, амаль усе нашы дасягненні. Гэта, вядома, няверна і няправільна. Справа не толькі ў правадырах. Але не аб гэтым я хацеў-бы гаварыць сёння. Я хацеў-бы сказаць некалькі слоў аб кадрах, аб нашых кадрах наогул і ў прыватнасці аб кадрах нашай Чырвонай арміі.

Вы ведаеце, што мы атрымалі ў спадчыну ад старога часу адсталую тэхнічна і поўжабрацкую, разбураную краіну. Разбураная чатырма гадамі імперыялістычнай вайны, паўторна разбураная трыма гадамі грамадзянскай вайны, краіна з поўграматным насельніцтвам, з нізкай тэхнікай, з паасобнымі аазісамі прамысловасці, тануўшымі сярод мора драбнейшых сялянскіх гаспадарак,—вось якую краіну атрымалі мы ў спадчыну ад мінулага. Задача заключалася ў тым, каб гэту краіну перавесці з рэек сярэдневякоўя і цемнаты на рэйкі сучаснай індустрыі і машынізаванай сельскай гаспадаркі. Задача, як бачыце, сур'ёзная і трудная. Пытанне стаяла так: АБО мы гэту задачу вырашым у найкарацейшы тэрмін і ўмацуем у нашай краіне соцыялізм, АБО мы яе не вырашым і тады наша краіна—слабая тэхнічна і цёмная ў культурных адносінах—растраціць сваю незалежнасць і ператворыцца ў аб'ект ігры імперыялістычных дзяржаў.

Наша краіна перажывала тады перыяд люцейшага голаду ў галіне тэхнікі. Не хапала машын для індустрыі. Не было машын для сельскай гаспадаркі. Не было машын для транспарта. Не было той элементарнай тэхнічнай базы, без чаго нямысліма індустрыяльнае пераўтварэнне краіны. Былі толькі паасобныя прадпасылкі для стварэння такой базы. Трэба было стварыць першакласную індустрыю. Трэба было накіраваць гэту індустрыю на тое, каб яна была здольна рэарганізаваць тэхнічна не толькі прамысловасць, але і сельскую гаспадарку, але і наш чыгуначны транспарт. А для гэтага трэба было пайсці на афяры і навесці ва ўсім самую жорсткую эканомію, трэба было эканоміць і на харчаванні, і на школах, і на мануфактуры, каб накапіць неабходныя сродкі—для стварэння індустрыі. Другога шляху для зжывання голаду ў галіне тэхнікі не было. Так вучыў нас Ленін, і мы ішлі ў гэтай справе па стапам Леніна.

Зразумела, што ў такой вялікай і труднай справе нельга было чакаць суцэльных і быстрых поспехаў. У такой справе поспехі могуць абазначацца толькі праз некалькі год. Вось чаму неабходна



было ўзброіцца моцнымі нервамі, большэвіцкай вытрыманасцю і ўпартым цярпеннем, каб перамагчы першыя няўдачы і няўхільна ісці наперад да вялікай мэты, не дапускаючы хістанняў і няўпэўненасці ў сваіх радах.

Вы ведаеце, што мы вялі гэту справу такім іменна чынам. Але не ва ўсіх нашых таварышоў хапіла нерваў, цярпення і вытрыманасці. Сярод нашых таварышоў знайшліся людзі, якія пасля першых-жа затрудненняў сталі клікаць да адступлення. Гавораць, што «хто старое памяне, таму вока вон». Гэта, вядома, верна. Але ў чалавека ёсць памяць, і нявольна ўспамінаеш аб мінулым пры падвядзенні вынікаў нашай работы (ВЯСЁЛАЕ АЖЫЎЛЕННЕ Ў ЗАЛЕ). Так вось, былі ў нас таварышы, якія спужаліся труднасцей і сталі клікаць партыю к адступленню. Яны гаварылі: «Што нам ваша індустрыялізацыя і калектывізацыя, машыны, чорная металургія, трактары, камбайны, аўтамабілі? Далі-б лепш пабольш мануфактуры, купілі-б лепш пабольш сыравіны для вырабу шырспажыву і пабольш-бы давалі насельніцтву ўсіх тых дробязей, чым красен быт людзей. Стварэнне індустрыі пры нашай адсталасці, ды яшчэ першакласнай індустрыі— небяспечная мара».

Вядома, мы маглі-б тры мільярды рублёў валюты, здабытых шляхам самай жорсткай эканоміі і страчаных на стварэнне нашай індустрыі,—мы маглі-б іх скарыстаць на імпарт сыравіны і ўзмацненне вырабу прадметаў шырокага спажывання. Гэта таксама свайго роду «план». Але пры такім «плане» мы не мелі-б ні металургіі, ні машынабудаўніцтва, ні трактароў і аўтамабіляў, ні авіяцыі і танкаў. Мы аказаліся-б бяззбройнымі перад знешнімі ворагамі. Мы падарвалі-б асновы соцыялізма ў нашай краіне. Мы аказаліся-б у палоне ў буржуазіі, унутранай і знешняй.

Відавочна, трэба было выбіраць паміж двума планамі: паміж планам адступлення, які вёў і не мог не весці к паражэнню соцыялізма, і планам наступлення, які вёў і, як ведаеце, ужо прывёў да перамогі соцыялізма ў нашай краіне.

Мы выбралі план наступлення і пашлі наперад па ленінскаму шляху, адцёршы назад гэтых таварышоў як людзей, якія бачылі сяктак толькі ў сябе пад носам, але закрывалі вочы на бліжэйшае будучае нашай краіны, на будучае соцыялізма ў нашай краіне.

Але гэтыя таварышы не заўсёды абмяжоўваліся крытыкай і пасіўным супраціўленнем. Яны пагражалі нам падняццём паўстання ў партыі супроць Цэнтральнага Камітэта. Больш таго: яны пагражалі таму-сяму з нас кулямі. Як відаць, яны разлічвалі запужаць нас і прымусіць нас звярнуць з ленінскага шляху. Гэтыя людзі, відавочна, забылі, што мы, большэвікі, — людзі асаблівага пакрою. Яны забылі, што большэвікоў не запужаеш ні труднасцямі, ні пагрозамі. Яны забылі, што нас каваў вялікі Ленін, наш правадыр, наш настаўнік, наш бацька, які не ведаў і не прызнаваў страху ў барацьбе. Яны забылі, што чым мацней шалеюць ворагі і чым больш упадаюць у істэрыку праціўнікі ўнутры партыі, тым больш накаляюцца большэвікі для новай барацьбы і тым імклівей ідуць яны ўперад.

Зразумела, што мы і не думалі зварочваць з ленінскага шляху. Больш таго, умацаваўшыся на гэтым шляху, мы яшчэ імклівей пайшлі ўперад, змятаючы з дарогі ўсе і ўсякія перашкоды. Праўда, нам прышлося пры гэтым па дарозе памяць бакі таму-сяму з гэтых таварышоў. Але з гэтым ужо нічога не паробіш. Павінен прызнацца,

што я таксама прылажыў руку да гэтай справы (БУРНЫЯ АПЛАДЫСМЕНТЫ, ВЫГУКІ «УРА»).

Так, таварышы, мы пайшлі ўпэўнена і імкліва па шляху індустрыялізацыі і калектывізацыі нашай краіны. І цяпер гэты шлях можна лічыць ужо пройдзеным.

Цяпер ужо ўсе прызнаюць, што мы дабіліся на гэтым шляху велізарных поспехаў. Цяпер усе прызнаюць, што мы маём ужо магутную і першакласную прамысловасць, магутную і механізаваную сельскую гаспадарку, транспарт, які разгортваецца і ідзе ўгару, арганізаваную і бліскуча аснашчоную Чырвоную армію.

Гэта значыць, што мы зжылі ўжо ў асноўным перыяд голаду ў галіне тэхнікі.

Але зжыўшы перыяд голаду ў галіне тэхнікі, мы ўступілі ў новы перыяд, у перыяд, я-б сказаў, голаду ў галіне людзей, у галіне кадраў, у галіне работнікаў, якія ўмеюць асядлаць тэхніку і рушыць яе наперад. Справа ў тым, што ў нас ёсць фабрыкі, заводы, калгасы, соўгасы, армія, ёсць тэхніка для ўсёй гэтай справы, але не хапае людзей, маючых дастатковы вопыт, неабходны для таго, каб выжаць з тэхнікі максімум таго, што можна з яе выжаць. Раней мы гаварылі, што «тэхніка вырашае ўсё». Гэты лозунг дапамог нам у тых адносінах, што мы ліквідавалі голад у галіне тэхнікі і стварылі найшырэйшую тэхнічную базу ва ўсіх галінах дзейнасці для ўзбраення нашых людзей першакласнай тэхнікай. Гэта вельмі добра. Але гэтага далёка і далёка недастаткова. Каб прывесці тэхніку ў рух і скарыстаць яе да дна, патрэбны людзі, аўладаўшыя тэхнікай, патрэбны кадры, здольныя асвоіць і скарыстаць гэту тэхніку па ўсіх правілах мастацтва. Тэхніка без людзей, аўладаўшых тэхнікай,—мёртва. Тэхніка на чале з людзьмі, аўладаўшымі тэхнікай, можа і павінна даць цуды. Калі-б на нашых першакласных заводах і фабрыках, у нашых соўгасах і калгасах, у нашай Чырвонай арміі мелася дастатковая колькасць кадраў, здольных асядлаць гэту тэхніку, краіна наша атрымала-б эфекта ў тры і ў чатыры разы больш, чым яна мае цяпер. Вось чаму ўпор павінен быць зроблен цяпер на людзях, на кадрах, на работніках, аўладаўшых тэхнікай. Вось чаму стары лозунг—«тэхніка вырашае ўсё», які з'яўляецца адлюстраваннем ужо пройдзенага перыяда, калі ў нас быў голад у галіне тэхнікі,—павінен быць цяпер заменен новым лозунгам, лозунгам аб тым, што «кадры вырашаюць усё». У гэтым цяпер галоўнае.

Ці можна сказаць, што нашы людзі зразумелі і ўсвядомілі поўнасцю вялікае значэнне гэтага новага лозунга? Я-б гэтага не сказаў. У праціўным выпадку мы-б не мелі тых агідных адносін да людзей, да кадраў, да работнікаў, якія наглядаем нярэдка ў нашай практыцы. Лозунг «кадры вырашаюць усё»—патрабуе, каб нашы кіраўнікі праяўлялі самыя клапатлівыя адносіны да нашых работнікаў, да «малых» і «вялікіх», у якой-бы галіне яны ні працавалі, вырошчвалі іх клапатліва, дапамагалі ім, калі яны маюць патрэбу ў падтрыманні, заахвочвалі іх, калі яны паказваюць першыя поспехі, высоўвалі іх уперад і т. д. А тым часам на справе мы маем у цэлым радзе выпадкаў факты бяздушна-бюракратычных і прама агідных адносін да работнікаў. Гэтым, уласна, і тлумачыцца, што замест таго, каб вывучаць людзей і толькі пасля вывучэння ставіць іх на пасты, нярэдка кідаюцца людзьмі як пешкамі. Цаніць машыны і рапартаваць аб тым, колькі ў нас ёсць тэхнікі на заводах і фабрыках,—навучыліся. Але я не ведаю ні аднаго выпадку, дзе-б з такой-жа ахвотай рапартавалі аб

тым, колькі людзей мы вырасцілі за такі-то перыяд і як мы дапамаглі людзям у тым, каб яны раслі і загартоўваліся ў рабоце. Чым гэта тлумачыцца? Тлумачыцца гэта тым, што ў нас не навучыліся яшчэ цаніць людзей, цаніць работнікаў, цаніць кадры.

Я ўспамінаю выпадак у Сібіры, дзе я быў адзін час у ссылцы. Справа была вясною, у час разводдзя. Чалавек трыццаць пашло на раку лавіць лес, унесены разбушаваўшайся велізарнай ракой. К вечару вярнуліся яны ў вёску, але без аднаго таварыша. На пытанне аб тым, дзе-ж трыццаты, яны спакойна адказалі, што трыццаты «астаўся там». На маё пытанне: «як-жа так, астаўся»?—яны з тым-жа спакоем адказалі: «чаго-ж там яшчэ пытацца, затануў, стала быць». І тут-жа адзін з іх стаў спяшацца кудысці, заявіўшы, што «трэба-б пайсці кабылу напаіць». На мой папрок, што яны жывёлу шкадуюць больш, чым людзей, адзін з іх адказаў пры агульным адабрэнні астатніх: «Што-ж нам шкадаваць іх, людзей-то? Людзей мы заўсёды зрабіць можам. А вось кабылу... паспрабуй-ка зрабіць кабылу» (АГУЛЬНАЕ АЖЫЎЛЕННЕ Ў ЗАЛЕ). Вось вам рыска, можа быць малазначная, але вельмі характэрная. Мне здаецца, што абыякія адносіны некаторых нашых кіраўнікоў да людзей, да кадраў і няўменне цаніць людзей з'яўляецца перажыткам тых дзіўных адносін людзей да людзей, якія сказаліся ў толькі што расказаным эпізодзе ў далёкай Сібіры.

Так вось, таварышы, калі мы хочам зжыць з поспехам голад у галіне людзей і дабіцца таго, каб наша краіна мела дастатковую колькасць кадраў, здольных рухаць наперад тэхніку і пусціць яе ў дзеянне,—мы павінны перш за ўсё навучыцца цаніць людзей, цаніць кадры, цаніць кожнага работніка, здольнага прынесці карысць нашай агульнай справе. Трэба, нарэшце, зразумець, што з усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры. Трэба зразумець, што пры нашых цяперашніх умовах «кадры вырашаюць усё». Будуць у нас добрыя і шматлікія кадры ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, на транспарце, у арміі,—наша краіна будзе непераможна. Не будзе ў нас такіх кадраў—будзем кульгаць на абедзве нагі.

Заканчваючы прамову, дазвольце агаласіць тост за здароўе і поспехі нашых акадэмікаў-выпускнікоў па Чырвонай арміі! Жадаю ім поспеху ў справе арганізацыі і кіраўніцтва абаронай нашай краіны!

Таварышы! Вы скончылі вышэйшую школу і атрымалі там першую загартаванасць. Але школа—гэта толькі падрыхтоўчая ступень. Сапраўдная загартаванасць кадраў атрымліваецца на жывой рабоце, па-за школай, на барацьбе з труднасцямі, на перамаганні труднасцей. Помніце, таварышы, што толькі тыя кадры добрыя, якія не баяцца труднасцей, якія не хаваюцца ад труднасцей, а наадварот—ідуць насустрач труднасцям для таго, каб перамагчы і ліквідаваць іх. Толькі ў барацьбе з труднасцямі куюцца сапраўдныя кадры. А калі наша армія будзе мець у дастатковай колькасці сапраўдныя загартаваныя кадры, яна будзе непераможна.

За ваша здароўе, таварышы! (БУРНЫЯ АПЛАДЫСМЕНТЫ ЎСЕЙ ЗАЛЫ. УСЕ ЎСТАЮЦЬ І ГУЧНЫМІ ВЫГУКАМІ «УРА» ВІТАЮЦЬ ТАВАРЫША СТАЛІНА).

---

Н. Ф Гікало

# Транспарт—на перадавыя пазіцыі*)

Партыя наша, наш ленінскі ЦК і асабіста тав. Сталін выключную ўвагу ўдзяляюць пытанням чыгуначнага транспарта. Партыя і ўрад прызначылі новым кіраўніком чыгуначнага транспарта буйнейшага арганізатара партыі, бліжэйшага саратніка таварыша Сталіна—сакратара ЦК ВКП(б)—Лазара Майсеевіча Кагановіча. Партыя і ўрад даюць транспарту лепшых людзей, прымаюць усе меры да ўзмацнення яго матар'яльна-тэхнічнай базы і палепшання матар'яльна-бытавога становішча рабочых і служачых чыгуначнага транспарта.

Транспарт—галоўны нерв краіны. Ад чоткай работы транспарта залежыць поспех развіцця ўсёй народнай гаспадаркі.

Тав. Сталін з вялікаю сілай ўскрыў ў сваім дакладзе на XVII з'ездзе партыі тое выключнае значэнне, якое мае транспарт ў справе разгортвання таваразвароту, далейшага ўздыму народнай гаспадаркі, пабудовы соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне.

> «Калі развіццё нашай эканомікі,—гаворыць тав. Сталін,—упіраецца ў развіццё таваразвароту, у развіццё совецкага гандлю, то развіццё совецкага гандлю ў сваю чаргу ўпіраецца ў развіццё нашага транспарта як чыгуначнага і воднага, так і аўтамабільнага. Можа здарыцца, што тавары ёсць, маецца поўная магчымасць разгарнуць таваразварот, але транспарт не паспявае за развіццём таваразвароту і адмаўляецца везці грузы. Як вядома, яно так і бывае ў нас скрозь і ўсюды. Таму транспарт з'яўляецца тым вузкім месцам, аб якое можа спаткнуцца, ды, бадай, ужо пачынае спатыкацца ўся наша эканоміка, і, перш за ўсё, наш таваразварот».

Нашы чыгуначныя арганізацыі не зрабілі для сябе адпаведных вывадаў з рашэнняў XVII з'езда партыі, з неаднаразовых ўказанняў тав. Сталіна. Яны не дабіліся па-сапраўднаму, па-большэвіцку выканання рашэнняў партыі і ўрада.

Мы мелі да апошняга часу вялікія прастоі паяздоў, слабое выкарыстанне вагонаў, вельмі марудны тэмп руху і звароту вагонаў, псаванне чыгуначнай маемасці, многа аварый і крушэнняў, што з'яўляецца зусім недапушчальным для нашага соцыялістычнага транспарта.

Транспарт ў сваёй рабоце на многа яшчэ адстае ад тэмпаў і якасці работы нашай соцыялістычнай прамысловасці, адстае ад работы сельскай гаспадаркі.

*) З прамовы на нарадзе пры ЦК КП(б)Б камандзіраў МББ чыгункі.

Многія чыгуначнікі стараюцца ўсе свае непаладкі вытлумачыць так званымі «аб'ектыўнымі» прычынамі. Гэта зусім няверна. Тав. Сталін з усёй чоткасцю ўскрыў на XVII з'ездзе партыі асноўныя прычыны адставання транспарта.

«Усе... віды транспарта,—гаворыць тав. Сталін,—маглі-б працаваць многа лепш, калі-б органы транспарта не хварэлі вядомай хваробай, называемай канцэлярска-бюракратычным метадам кіраўніцтва... Задача заключаецца ў тым, каб выкараніць у органах транспарта бюракратычна-канцэлярскія адносіны да справы і зрабіць іх больш аперацыйнымі».

Гэтага мы ўсё яшчэ не дабіліся.

Бюракратычная закаранеласць, руціна, панска-саноўныя метады работы, метады папяровага кіраўніцтва ўсё яшчэ заядаюць наш транспарт. Гэта з'яўляецца галоўнай прычынай дрэннай работы чыгуначнага транспарта, прычынай крушэнняў, аварый і агульнага недавыканання плана.

Тым часам зараз, як ніколі, трэба ўзмацніць і палепшыць работу транспарта. Кожны чыгуначнік, камандзір, спецыяліст павінен зразумець выключна вострую неабходнасць палепшання работы транспарта, дрэнная работа якога тармозіць развіццё нашай народнай гаспадаркі. Нам неабходна падняць транспарт і таму, што гэтага патрабуе задача ўмацавання абароны нашай краіны.

Тав. Варашылаў на XVII з'ездзе партыі сказаў:

«Транспарт—гэта родны брат Чырвонай арміі. Розніца паміж імі тая, што наша армія яшчэ толькі рыхтуецца дзейнічаць,—калі настане час абараняць граніцы...—а транспарт ужо зараз... дзейнічае і дзейнічае бесперапынна кожны дзень, кожную гадзіну, кожную мінуту».

Мы не можам далей цярпець адставання транспарта. Ні ўнутраная, ні міжнародная абстаноўка нам гэтага не дазваляе. Асабліва гэта датычыць БССР, як пагранічнай рэспублікі, якая знаходзіцца на рубяжы з капіталістычным светам.

«1935 год павінен быць годам сапраўднага пералому к лепшаму ў рабоце чыгуначнага транспарта».

Гэтыя словы тав. Молатава, сказаныя ім на VII з'ездзе советаў СССР, павінны стаць баявым лозунгам для ўсіх чыгуначнікаў, для ўсіх нашых арганізацый.

Што трэба зрабіць для таго, каб выцягнуць транспарт у перадавыя рады народнай гаспадаркі Совецкага саюза? Першая ўмова—гэта, каб кожны комуніст, кожны беспартыйны рабочы, кожны спецыяліст зразумелі ўсю вострасць пытання, зразумелі немагчымасць у далейшым цярпець адставанне транспарта, зразумелі, што партыя і ўрад не будуць больш цярпець адставання транспарта.

Усе чыгуначнікі павінны ўясніць сабе ўсю важнасць і адказнасць работы, на якой яны знаходзяцца. Гэта павінны зразумець усе, пачынаючы ад камандзіра і канчаючы кожным радавым рабочым і служачым. Трэба стварыць такую большэвіцкую атмасферу на транспарце, пры якой кожны працаўнік транспарта лічыў-бы сваім доўгам

і абавязкам змагацца за выкананне тых задач, якія пастаўлены партыяй і тав. Сталіным перад транспартам, бязлітасна выкарчоўваючы элементы дабрадушша, апартунізма і самасупакоенасці.

Другое—павысіць пільнасць работнікаў чыгуначнага транспарта. Пільнасць—гэта асноўная якасць кожнага бальшэвіка, кожнага рабочага, кожнага камандзіра. Нельга забываць ні на адну мінуту, што рэшткі эксплаататарскіх класаў у нашай краіне яшчэ існуюць, што недабіты класавы вораг спрабуе шкодзіць, паскудзіць нам. Чым большыя нашы поспехі, тым адчайней ён супраціўляецца, прыбягаючы да самых крайніх сродкаў барацьбы супроць партыі і савецкай улады. Класавы вораг, карыстаючыся аслабленнем пільнасці, пралазіць іншы раз на адказныя ўчасткі нашай работы, прабіраецца ў прыватнасці і на транспарт.

У мінулым годзе, у час чысткі партыі, мы выявілі многа бясчынства на гомельскім і віцебскім вузлах, у магілёўскім дэпо і т. д. Аказвалася, што класава-чуждыя элементы, прыкрываючыся партыйным білетам, шкодзілі нам, паскудзілі. А многія адказныя комуністы і камандзіры, працуючы разам з імі, не выяўлялі, не выкрывалі іх гнусную шкодніцкую работу.

Страта пільнасці, ратазейства, дрэнная работа партыйных і прафсаюзных арганізацый на транспарце—вось чым перш за ўсё трэба тлумачыць той факт, што на радзе ўчасткаў транспарта арудуюць класава-чуждыя элементы.

Пільнасць—рашучая ўмова ліквідацыі адставання транспарта, умацавання транспарта праверанымі, адданымі справе партыі кадрамі. Але бальшэвіцкую пільнасць трэба арганізаваць, трэба вытруціць з работы ўсякую расцяпнасць, усякае ратазейства.

Трэцяе, што патрэбна для таго, каб выцягнуць транспарт на перадавыя пазіцыі,—гэта неабходнасць працаваць так, як вучыць тав. Сталін, працаваць аперацыйна, канкрэтна, унікаючы ва ўсе дэталі, ведаць людзей, ведаць іх патрэбы.

Трэба ўмець падбіраць і ўмела расстаўляць людзей. Хіба на чыгунцы ў нас мала людзей? Толькі на адной МББ мы маем звыш 50 тыс. рабочых. Сярод гэтых 50 тысяч у нас не мала добрых ударнікаў, чэсных спецыялістаў, адданых справе майстроў, камандзіраў, якія ведаюць і любяць транспарт.

Нам патрэбна высоўваць добрага працаўніка, адданага справе социялізма, а не толькі за яго партыйны ці комсамольскі білет. Комуніста характарызуе перш за ўсё яго работа. Раз у цябе партбілет, дык будзь ласкаў—працуй лепш.

Але трэба ведаць, выявіць, вырасціць, прасунуць, арганізаваць, правільна расставіць лепшых людзей на барацьбу за ўздым транспарта, за ператварэнне яго ў адну з перадавых галін народнай гаспадаркі.

> «Да аздараўлення транспарта трэба падыйсці так,—гаворыць тав. Кагановіч,—як партыя ішла, ідзе ў перамаганні труднасцей на паасобных гаспадарчых участках. **Трэба згуртаваць масы, абаперціся на лепшых людзей—ударнікаў** транспарта, і перамога будзе забяспечана».

На падбор кадраў і расстаноўку людзей на транспарце павінна быць звернута самая сур'ёзная ўвага.

Не будзе зазорна для чыгуначнікаў, калі яны павучацца ў гэтых адносінах у работнікаў прамысловасці і нават у работнікаў соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Транспарт—гэта велізарнейшы гаспадарчы камбінат, які мае вялікія заводы, тэхнічна добра абсталяваныя, і яго работа павінна служыць прыкладам дысцыплінаванасці і чоткасці для ўсіх галін народнай гаспадаркі.

Транспарт мае справу са складанай тэхнікай, якая патрабуе выключнай дакладнасці, максімальнай дысцыпліны ў рабоце зверху і да нізу.

Трэба працаваць дысцыплінавана, добра ўсведамляючы адказнасць за свой участак работы. Інакш нельга. Мы павінны дабіцца дысцыплінаваных адносін да справы, каб транспарт працаваў, як гадзіннік. Разгільдзяйства, злачынная неахайнасць, безадказнасць, недысцыплінаванасць—вось што зрывае работу транспарта.

Работа на транспарце, як нідзе, патрабуе бязлітаснай барацьбы з верхаглядствам, з павярховымі адносінамі, патрабуе глыбокага вывучэння справы, ведання кожнай дробязі і дэталі, умення хутка і аперацыйна выпраўляць недахопы.

Паглядзіце, як партыя паспяхова вырашыла сельскагаспадарчыя справы ў нашай краіне. Для партыі гэта было адным з самых цяжкіх пытанняў, на якім, як лічыла буржуазія і ўсе яе падгалоскі—меншавікі, эсэры, контррэволюцыйныя трацкісты, правыя апартуністы—мы сабе шыю зломім. Партыя канкрэтна, аперацыйна ўзялася за гэтую справу і пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна дасягнула выключных, гіганцкіх поспехаў. Мы зараз маем самую буйную ў свеце соцыялістычную сельскую гаспадарку, якая з года ў год павышае сваю ўраджайнасць, забяспечвае заможнае жыццё калгаснікаў.

За апошнія тры гады КП(б)Б літаральна з дня ў дзень змагалася за соцыялістычную сельскую гаспадарку, за яе ўмацаванне, за рост і большэвізацыю нашых калгасаў, за ўздым ураджайнасці, за ўкараненне агратэхнічных культур. У гэтай барацьбе мы атрымалі вялікія перамогі.

За выдатныя поспехі на працягу раду гадоў у галіне сельскай гаспадаркі, а таксама і ў галіне прамысловасці, совецкі ўрад узнагародзіў нашу Беларусь ордэнам Леніна.

Уся партарганізацыя Беларусі канкрэтна, аперацыйна ўваходзіла ў кожную паасобную дробязь сельскай гаспадаркі, выцягвала адстаючыя ўчасткі, дапамагала па-большэвіцку наладзіць работу. Мы не абмяжоўваліся пасылкаю цыркуляраў, тэлеграм, тэлефоннай размовай. Мы вывучалі справу, выяўлялі прычыны адставання паасобных калгасаў, соўгасаў і дапамагалі ім выпраўляць недахопы.

У кожным паасобным пытанні дабіраліся да канца, да карэння і дабіліся канкрэтнага, дзелавога падыходу да кожнай дробязі ў рабоце нашых калгасаў.

Мы маем справу з мільёнамі сялян, якія ўступілі ў новае соцыялістычнае жыццё. Пабудаваць калгас—гэта значыць перабудаваць па-новаму жыццё людзей, па-новаму навучыць іх жыць і працаваць. Не гледзячы на тое, што мы маем справу з многамільённымі масамі сялянства, не гледзячы на шалёнае супраціўленне кулацтва і яго аген-



туры—нацдэмаў і розных апартуністаў, мы, канкрэтна займаючыся кожным паасобным калгасам, кожнай паасобнай брыгадай, канём, свіннёю, каровай, дабіліся вялікіх поспехаў у калгасным будаўніцтве.

Імenna ў выніку канкрэтнай, аперацыйнай работы, калгасы нашы ўзмацніліся і ў іх усё больш і больш уліваецца аднаасобнікаў. Каля трох чвертак сялянскіх гаспадарак Беларусі ўжо калектывізавана. Калгасы з года ў год растуць і мацнеюць, як расце і заможнасць калгаснікаў.

Чыгуначны транспарт знаходзіцца ў лепшых умовах, чым сельская гаспадарка. Транспарт мае шматтысячную арганізаваную пролетарскую масу, якая працуе больш кампактна, чым сялянства, раскіданае на сотні кілометраў. Наш транспарт—гэта грандыёзная армія рабочых, да канца адданая партыі, і зусім зразумела, што на транспарце мы дабіліся-б яшчэ большых поспехаў, чым у сельскай гаспадарцы, калі-б канкрэтна, па-дзелавому ім кіравалі. А для гэтага патрэбна, каб кожны камандзір, кожны спецыяліст, кожны комуніст, кожны рабочы транспарта змагаўся за высокую якасць работы, за добрасумленныя адносіны да грамадскага дабра, за захаванасць і эканомію транспартных сродкаў, за ўнікненне ў «дробязі», за большэвіцкую дысцыпліну на транспарце.

Адначасова з гэтым трэба змагацца за палепшанне матар'яльна-бытавых умоў, харчавання і снабжэння рабочых. Трэба наладзіць партыйна-масавую і культурную работу. У вас ёсць клубы, бібліятэкі. А як яны працуюць, хто там справай закручвае,—гэтым вы мала цікавіцеся. І часта бывае, што ў клубе, у бібліятэцы працуюць чуждыя нам людзі.

Усе дробязі рабочага быту, палепшанне матар'яльна-бытавых умоў рабочых, шырокая партыйна-масавая і палітыка-выхаваўчая работа павінны быць ў цэнтры ўвагі.

Тут выступала многа работнікаў: начальнікі аддзяленняў, дэпо, партыйныя работнікі. Але трэба з усёй вострасцю сказаць, што ў некаторых з іх быў настрой пабольш самакрытыкавацца, каб на гэтым супакоіцца. Тым часам камандзіры транспарта павінны былі шырока асвятліць пытанне, як яны думаюць ліквідаваць адставанне транспарта.

Вось выступаў тут начальнік палітаддзела оршанскага аддзялення. Ён вельмі многа гаварыў пра значэнне загаду наркома аб барацьбе з аварыямі. Безумоўна, загад гэты мае выключнае значэнне, як важнейшы дакумент, выкананне якога трэба забяспечыць самым суровым чынам. І ад таварыша трэба было чакаць, каб ён канкрэтна расказаў, як змагаўся за правядзенне ў жыццё гэтага загаду, якія канкрэтныя мерапрыемствы намеціў і як яны ажыццяўляюцца.

Гэта датычыць не толькі яго, але і раду іншых выступаўшых тут кіраўнікоў транспарта.

Вам прыдзецца яшчэ не мала працаваць над тым, каб выбіць у многіх работнікаў МББ любоў да балбатні, да размоў наогул, да прывітанняў і рэзалюцый.

Нельга забываць, што партыі непатрэбны толькі прывітанні ды рэзалюцыі. Партыя патрабуе, каб абяцанні і рэзалюцыі падмацаваны былі практычнаю справай, умацаваннем дысцыпліны, павышэннем адказнасці, большэвіцкім разгортваннем работы транспарта.

Жалезная дысцыпліна немысліма без ўсямернага ўмацавання адзінаначалля ва ўсіх звеннях транспарта знізу да верху. Аўтарытэт

кіраўніка, камандзіра трэба гіганцкі павысіць і ўмацаваць. Сапраўднае большэвіцкае кіраўніцтва, дружная работа ўсёй масы чыгуначнікаў, як пра гэта гаварыў тав. Молатаў на VII з'ездзе советаў, ёсць састаўная арганічная частка барацьбы за ўмацаванне адзінаначалля.

**Вялікая адказнасць за далейшае ўмацаванне і палепшанне работы транспарта ўскладаецца на нашы тэрытарыяльныя арганізацыі.** Аднак многія з іх не любяць выходзіць за межы сваёй тэрыторыі і мала ўнікаюць у работу транспарта.

Праўда, многія совецкія, партыйныя і гаспадарчыя арганізацыі Беларусі не мала зрабілі для транспарта, але, калі ўглядзецца глыбей, то выходзіць, што некаторыя з іх спрашчаюць свае задачы дапамогі транспарту. Яны па сутнасці адкупляюцца ад гэтай работы, калі, снабдзіўшы транспарт фарбай, цвікамі, фанерай, чырвонай матэрыяй, лічаць, што іх місія скончана, што яны дапамаглі чыгунцы.

**Такая дапамога нікуды не варта, такія адносіны да транспарта недапушчальны. Мы не дазволім, каб нашы тэрытарыяльныя, партыйныя і совецкія арганізацыі, нашы сакратары райкомаў такім спосабам адкупляліся ад большэвіцкай работы. Іх абавязак—заняцца пытаннямі транспарта па сутнасці.**

Нядаўна мы атрымалі ад тав. Кагановіча тэлеграму з просьбай дапамагчы транспартнікам лепш арганізаваць індывідуальныя гароды. Ужо адна гэтая тэлеграма гаворыць аб тым, як канкрэтна падыходзіць Лазар Майсеевіч Кагановіч—гэты буйнейшы арганізатар нашай партыі—да кожнага пытання дапамогі чыгуначнікам. Са свайго боку мы распрацавалі канкрэтныя мерапрыемствы аб пашырэнні пасеўнай плошчы індывідуальнага гародніцтва для чыгуначнікаў.

Транспарту трэба дапамагчы і фарбай, і фанерай, і іншымі матар'яламі. Але такую дапамогу мы разглядаем толькі **як маленькую частку задачы. За ёю павінна ісці агромная палітычная работа.** Начальнікі палітаддзелаў разам з работнікамі ЦК павінны распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы, выясніўшы дзе і як трэба дапамагчы, якія патрэбны людзі для работы ў гуртках, школах, для масава-агітацыйнай работы.

Нецярпіма такое становішча, калі нашы сакратары райкомаў або іх намеснікі, або члены бюро райкомаў, або старшыні РВК не лічаць сваім абавязкам на працягу раду гадоў з'яўляцца ў чыгуначныя дэпо і на іншыя ўчасткі транспарта. Трэба пабываць сярод чыгуначнікаў, пагаварыць з комуністамі, з рабочымі, дапамагчы ім у разгортванні партыйна-масавай работы і інш.

Трэба дабіцца, каб усе нашы тэрытарыяльныя арганізацыі адчувалі і разумелі, што калі і зараз транспарт будзе дрэнна працаваць, дык і мы, ЦК і СНК, адказны за гэта разам з вамі. Калі ў раёне дрэнна працуе ўчастак, станцыя, дэпо, адказнасць нясуць разам з чыгуначнікамі і райком партыі і райвыканком.

Па ініцыятыве тав. Сталіна на пост наркома шляхоў зносін прызначан сакратар ЦК ВКП(б) тав. Кагановіч—адзін з буйнейшых дзеячоў нашай партыі, адзін з бліжэйшых і лепшых саратнікаў тав. Сталіна. Прызначэнне тав. Кагановіча на пост народнага камісара шляхоў зносін паказвае, што партыя яшчэ цясней і бліжэй бярэцца за транспарт.

Гэта абавязвае ўсіх чыгуначнікаў, усе партыйныя арганізацыі аперацыйна, канкрэтна, па-большэвіцку працаваць, вытруціць са сваёй практыкі славесную дэкларацыйнасць, гніла-панскія адносіны да па-

трэб рабочых, працаваць так, як працуе добры соцыялістычны чырвоны паравоз.

Пад непасрэдным мудрэйшым кіраўніцтвам тав. Сталіна—тэтага вялікага кормчага краіны Советаў, які вядзе нас ад перамогі к перамозе, пад кіраўніцтвам новага наркома—Лазара Майсеевіча Кагановіча, большэвікі, беспартыйныя, спецыялісты нашага вельмі важнага ў пагранічных умовах участка чыгуначнага транспарта,—усе разам дакажам, што мы сапраўды ўмеем працаваць так, як гэтага патрабуе партыя, урад, што мы людзі справы.

Пад выпрабаваным і надзейным кіраўніцтвам вялікага Сталіна, пад кіраўніцтвам тав. Кагановіча ператворым чыгуначны транспарт ў перадавую галіну нашай народнай гаспадаркі.

# Кадры вырашаюць усё

Прамова тав. Сталіна—важнейшы дакумент нашай эпохі, яркі паказчык трыумфу соцыялізма, перамогі грамадскага ладу, аб якім марылі лепшыя розумы чалавецтва.

Соцыялізм адчыняе ўсе магчымасці для росквіту асобы, росквіту ўсіх яе здольнасцей.

Гісторыя капіталізма—гэта гісторыя зняволення асобы, прыгнечання і галечы мільёнаў.

«У буржуазным грамадстве капітал уладае самастойнасцю і індывідуальнасцю, у той час як працоўны індывідуум не самастойны і абязлічаны» **(Маркс і Энгельс).**

Капіталізм, разглядаючы асобу як тавар, расцэньваючы яе як аб'ект эксплаатацыі і зняволення, як прыдатак да машыны, усю годнасць асобы, усе яе якасці, усё яе грамадскае прызначэнне пераводзіць «на чыстаган».

Капіталізм ператварае асабістую годнасць чалавека ў менавую вартасць. Капіталізм выхоўвае людзей у духу асабістага эгаізма, прагавітасці, мізэрнага прыстасавання, дробных інтарэсаў і запатрабаванняў. Капіталізм—гэта турма народаў для пераважнай большасці чалавецтва.

І асабліва яскрава падаўленне асобы, бяспраўе мільёнаў нясе з сабою фашызм—гэты прадстаўнік манапалістычнага капітала ў яго найбольш рэакцыйнай, агрэсіўнай частцы.

Лепшыя людзі Германіі сядзяць у фашысцкіх турмах, у канцэнтрацыйных лагерах, але і тыя, што знаходзяцца «на свабодзе», задыхаюцца ў ціскох паліцэйскага хамскага папірання ўсіх і ўсялякіх праў чалавека і чалавечай годнасці.

Толькі соцыялізм стварае ўмовы для гарманічнага развіцця асобы, вядзе мільёны людзей к новаму жыццю, дае ім перспектыву. Толькі наша краіна стварае бясстрашных, адважных барацьбітоў і будаўнікоў новага грамадскага ладу.

Людзі нашай краіны, партыйныя і беспартыйныя, мужныя і адважныя героі Совецкага саюза, пераможцы стратасферы, пераможцы Арктыкі—нашы слаўныя чэлюскінцы, мільённая армія ўдарнікаў-будаўнікоў, перамагаючых усе і ўсялякія перашкоды—гэта той чалавечы матар'ял, якога выхоўвае і вырошчвае краіна соцыялізма, ленінска- сталінская партыя, правадыр сусветнага пролетарыята—тав. Сталін.

Перамога соцыялізма азначае рост актыўнасці мільённай масы будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства, іх свядомасці і культурнасці, нябачаны ў гісторыі рост чалавечай годнасці і гуманізма. Пролетарскі гуманізм—гэта любоў і ўвага к чалавеку-барацьбіту за справу соцыялізма.

У сваёй бліскучай прамове на вечары выпускнікоў Ваеннай акадэміі тав. Сталін абрысаваў шлях, пройдзены нашай краінай, шлях ператварэння нашай краіны з адсталай тэхнічна, жабрацкай і разбуранай у перадавую краіну, аснашчоную першакласнай тэхнікай. Гэта быў вельмі цяжкі шлях. Ён патрабаваў вялікіх афяр, эканоміі на ўсім. Але гэта быў адзіны шлях, які забяспечыў перамогу соцыялізма ў нашай краіне, ператварэнне нашай краіны у непрыступную крэпасць соцыялізма, здольную даць адпор усялякім хцівым спробам імперыялістычных дзяржаў.

Гэта перамога дасягнута намі дзякуючы таму, што партыя праводзіла ленінскую палітыку, што кіраваў гэтай грандыёзнейшай і нябачанай у чалавечай гісторыі будоўляй лепшы і таленавіцейшы паслядоўнік Леніна, правадыр сусветнага пролетарыята—тав. Сталін, які жалезным, сталінскім поступам вёў партыю, рабочы клас і ўсіх працоўных ад перамогі к перамозе, адольваючы труднасці, бязлітасна распраўляючыся з ворагамі, з апартуністамі ўсіх масцей.

Пад геніяльным кіраўніцтвам тав. Сталіна партыя разграміла контррэволюцыйных трацкістаў, правых апартуністаў, не верыўшых у перамогу соцыялізма ў нашай краіне, актыўна выступаўшых супроць лініі партыі на ператварэнне нашай краіны ў высока індустрыяльную, у краіну буйнай механізаванай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Партыя Леніна—Сталіна перамагла. Раней адсталая, жабрацкая краіна зараз радуе кожнага працоўнага сваёй магутнасцю, радуе сваёй першакласнай тэхнікай, радуе той паўнатою жыцця, якім пульсуе перамагаючы соцыялізм.

Барацьба за соцыялістычную рэканструкцыю нашай краіны на базе навейшай тэхнікі была ўвасоблена ў бліскучым, чоткім і ясным лозунгу тав. Сталіна: «Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё».

Гэты лозунг коратка і выразна адлюстроўваў тую эпоху будаўніцтва соцыялізма, калі партыя вырашала задачу ўздыму гаспадаркі нашай краіны на ўзровень сусветнай тэхнікі, калі мы змагаліся за ліквідацыю таго голаду ў галіне тэхнікі, які з'яўляўся вынікам адсталасці нашай краіны ад перадавых капіталістычных краін.

Мы дабіліся першакласнай тэхнікі. Краіна насычана першакласнымі машынамі, першакласнымі заводамі па вытворчасці сродкаў вытворчасці і прадметаў спажывання.

Але мы, зжыўшы голад у галіне тэхнікі, уступілі ў перыяд «голаду ў галіне людзей, у галіне кадраў, у галіне работнікаў, якія ўмеюць асядлаць тэхніку і рушыць яе наперад» **(Сталін).**

Пры капіталізме рост тэхнікі азначае яшчэ большую закабаленасць рабочага, яшчэ большае панаванне машыны над рабочым, яшчэ большую эксплаатацыю рабочага, рост беспрацоўя, галечы і голаду.

У нас-жа рост тэхнікі, якая знаходзіцца ў руках пролетарыята, вядзе няўхільна к росту матар'яльнага і культурнага палепшання становішча мільёнаў, вядзе к заможнаму жыццю шырокіх мас, забяспечвае яшчэ большы росквіт асобы і яе здольнасцей.

Калі капіталізм трымаецца на драпежніцкім пажыранні працы мільёнаў, дык для соцыялізма «з усіх каштоўных капіталаў, якія ёсць у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі» **(Сталін).**

Калі капіталізм трымаецца на зняволенні мільёнаў працоўных мас, дык соцыялізм знішчае зняволенне чалавека чалавекам.

Партыя і асабіста т. Сталін увесь час удзялялі велізарную ўвагу пытанням кадраў і асаблівую ўвагу падрыхтоўцы тэхнічных кадраў. Аднак цяпер, калі мы дастаткова насыцілі нашу краіну тэхнікай, ва ўсю шырыню, як ніколі, стаіць пытанне аб людзях, авалодваючых тэхнікай.

Перад намі стаіць важнейшая задача—максімальна выкарыстаць гэтую тэхніку, выкарыстаць усе яе магчымасці да дна. Але тэхніка без людзей, уладаючых гэтай тэхнікай,—мёртва. Толькі людзі, ауладаўшыя тэхнікай, могуць яе ажывіць, пусціць у ход гэты капітал.

Уся справа ў тым, што іменна зараз, як ніколі, патрэбны людзі, якія могуць рушыць наперад гэтую тэхніку, патрэбны кадры, якія вырашаць нашы далейшыя поспехі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Найглыбейшы сэнс лозунга тав. Сталіна «кадры вырашаюць усё» заключаецца іменна ў тым, што ў ім дана тое галоўнае, асноўнае і рашаючае для данага моманту, на што трэба зрабіць упор ва ўсёй нашай рабоце. Лозунг тав. Сталіна адлюстроўвае задачы новай эпохі, у якую мы ўступілі, знамянуе новую паласу развіцця ў пабудове соцыялізма ў нашай краіне. Гэты лозунг яшчэ больш натхняе на барацьбу за соцыялізм, яшчэ больш умацоўвае веру ў свае сілы, запальвае агнём энтузіязма мільёны мас, яшчэ цясней згуртоўвае іх вакол партыі і яе правадыра—таленавітага палкаводца тав. Сталіна.

Выключна вялікае значэнне мае падрыхтоўка кадраў у БССР.

БССР пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б вырасціла велізарную армію людзей з мясцовага карэннага насельніцтва. Аднак патрэбнасці ў кадрах, у новых кадрах, настолькі вялікі, што пытанне аб кадрах стаіць перад намі з усёй вострасцю.

> «Асабліва агромнае месца,—піша тав. Гікало,—павінна заняць у рабоце КП(б)Б вырошчванне і замацаванне на кіруючай партыйнай і совецкай рабоце большэвіцкіх кадраў з беларускага працоўнага насельніцтва».

Размах соцыялістычнага будаўніцтва настолькі вялікі, перамогі ў галіне насычэння нашай краіны тэхнікай так агромны, што пытанне кадраў патрабуе к сабе самай пільнай, максімальнай увагі, патрабуе ад кадраў таго ўзроўню, на якім стаіць наша першакласная і ўсё ўзрастаючая тэхніка, узроўню, на які ўздымаецца будынак соцыялізма.

Падрыхтоўка кадраў—гэта важнейшая палітычная задача дня. Нам патрэбны кадры, вылітыя са сталі, кадры—байцы, будаўнікі новага комуністычнага грамадства. Нам патрэбны такія кадры, «якія не баяцца труднасцей, якія не хаваюцца ад труднасцей, а наадварот ідуць насустрач труднасцям для таго, каб перамагчы і ліквідаваць іх. Толькі ў барацьбе з труднасцямі куюцца сапраўдныя кадры» **(Сталін)**.

Кадры нашай краіны выліты з асобага метала, бо яны выхоўваюцца пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, яны куюцца не толькі і не столькі ў школе, як у агні соцыялістычнай будоўлі, у барацьбе з класавымі ворагамі, у барацьбе з труднасцямі. Іменна такое выхаванне кадраў ёсць большэвіцкае выхаванне. Толькі такое выхаванне стварае нам кадры, якія ўмеюць спалучаць крапатлівую буднічную работу з вялікай перспектывай—перспектывай рэволюцыйнага пролетарыята.

Стварэнне кадраў—гэту агромнейшую і важнейшую задачу—партыя безумоўна вырашыць з такім-жа поспехам, з якім яна вырашыла ўжо не менш важныя і не менш складаныя задачы ліквідацыі тэхнічнай адсталасці, рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі.

Для вырашэння гэтай важнейшай задачы эпохі трэба ўважліва і любоўна адносіцца к людзям «малым і вялікім».

«Трэба берагчы кожнага здольнага і разумеючага работніка, берагчы і вырошчваць яго. Людзей трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае ім пладовае дрэва» **(Сталін).**

Каб вырашыць праблему кадраў, трэба вывучаць людзей, іх здольнасці, дапамагаць ім, калі ў гэтым яны адчуваюць патрэбу, уважліва і клапатліва адносіцца, заахвочваць, калі яны паказваюць поспехі, высоўваць далей, даваць перспектыву.

«Ці можна сказаць,—гаворыць тав. Сталін,—што нашы людзі зразумелі і ўсвядомілі поўнасцю вялікае значэнне гэтага новага лозунга? Я-б гэтага не сказаў. У праціўным выпадку мы-б не мелі тых агідных адносін да людзей, да кадраў, да работнікаў, якія наглядаем нярэдка ў нашай практыцы».

Факты нядбайных адносін да людзей ёсць яркая праява буржуазна-панскіх, канцэлярска-бюракратычных метадаў работы раду нашых партыйных і савецкіх арганізацый, калі з поля іх зроку знікае жывы чалавек з усімі яго запатрабаваннямі.

Перабудова метадаў партыйнай работы, перабудова работы савецкага апарата ў адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда партыі, указаннямі тав. Сталіна, рашэннямі Ленінградскага гаркома партыі і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б ёсць удар па рэштках бюракратызма і папяровага кіраўніцтва, набліжэнне партыйных і савецкіх арганізацый да жывога чалавека і яго запатрабаванняў.

Падыход да жывога чалавека, веданне яго інтарэсаў і т. д. ёсць пярвейшая і неабходнейшая ўмова забяспечання такіх метадаў работы партыйных і савецкіх арганізацый, пры якіх можна было-б усур'ёз змагацца за вырашэнне цэнтральнай задачы сёнешняга дня—выхоўванне і вырошчванне кадраў наогул і асабліва партыйных.

Тым часам у практыцы работы раду арганізацый ёсць факты бяздушных адносін да людзей, факты забыцця той ісціны, што жывыя людзі вырашаюць нашу справу—справу соцыялістычнага будаўніцтва, што без ведання гэтых людзей нельга забяспечыць правільнае іх вырошчванне і скарыстанне, нельга высоўваць новых людзей і кіраваць імі канкрэтна, як гэта адпавядае стылю большэвізма.

Забыццё чалавека і яго запатрабаванняў праяўляецца ў розных формах, але найбольш яскравай з'яўляецца няправільнае, безадказнае выкарыстанне кадраў. У гэтым факце адлюстроўваецца слабасць нашай работы з кадрамі, бесцарамонныя бюракратычна-чыноўніцкія адносіны да людзей, няўменне выхоўваць, вырошчваць, вылучаць людзей. Тым часам вырашэнне праблемы кадраў ставіць перад намі з усёй вострасцю пытанне правільнага, разумнага, рацыянальнага выкарыстання кадраў, якое-б садзейнічала іх росту, дапамагала ў рабоце, дало магчымасць узняцца вышэй.

Ніжэй змешчаны ў «Большэвіку Беларусі» ліст тав. Башкевіча адрасаваны сакратару ЦК КП(б)Б тав. Гікало, з'яўляецца яркай ілюстрацыяй да ўказанняў тав. Сталіна аб тым, што ў нас «часта кідаюцца людзьмі як пешкамі».

і сапраўды. Паглядзім, як безадказна выкарыстоўваўся тав. Башкевіч, удумаемся ў той паток заданняў і даручэнняў, якія атрымаў ён за невялічкі адрэзак часу.

19 красавіка т. Башкевіч атрымаў пуцёўку ад менскага гаркома—абследваць пастаноўку справы з хаваннем партыйных дакументаў у пярвічных партарганізацыях. **У гэты-ж дзень** ад менскага-ж гаркома атрымаў пуцёўку—зрабіць даклад аб барацьбе з беспрытульнасцю.

20 красавіка тав. Башкевіч атрымаў пуцёўку ад культпропа ЦК—абследваць краязнаўчыя арганізацыі.

21 красавіка—заданне ад Партвыдавецтва адрэдагаваць 2-гі том твораў К. Маркса.

23—заданне выехаць для чарговага дакладу ў прымацаваны раён.

23—у Наркамасветы нарада загадчыкаў кафедр ВНУ, на якой ён павінен зрабіць даклад аб рабоце кафедр.

25—заданне ад гаркома партыі выехаць у раён па пытаннях сяўбы. **У гэты-ж дзень** т. Башкевіч выклікаецца на нейкую нараду ў ЦК ЛКСМБ.

27—атрымлівае ад рэдакцыі Б. С. Э. (Беларускай Совецкай Энцыклапедыі) заданне адрэдагаваць матар'ял аддзела, рэдактарам якога ён з'яўляецца.

Вось «нагрузкі» тав. Башкевіча за перыяд 5—6 дзён. Акрамя таго, ён працуе членам парткома партарганізацыі Наркамасветы, з'яўляецца прымацаваным ад партарганізацыі Наркамасветы да комсамола. Зусім натуральна, што тав. Башкевіч, акрамя таго, мае сваю асноўную работу, што тав. Башкевіч з'яўляецца начальнікам кіраўніцтва ВНУ, тэхнікумамі і рабфакамі Наркамасветы.

Але быць можа гэта адзінічны факт безадказнага выкарыстання чалавека? Не ў адным толькі Башкевічу справа.

Тав. Башкевіч персаніфікуе іменна тую катэгорыю вельмі загружаных кадраў, якая выкарыстоўваецца (галоўным чынам менскім гаркомам) выключна нерацыянальна.

Даволі ўзяць нагрузку т. Дзьякава. Акрамя асноўнай работы—рэктара БДУ, выкладчыка ленінізма, кіраўніка семінара прапагандыстаў, члена парткома, члена камісіі па рэдагаванню класікаў марксізма—т. Дзьякаў за апошнюю шасцідзёнку красавіка атрымаў такія заданні:

правесці палітдзень аб 1 мая на менскім Дрожзаводзе;
аб 1 мая зрабіць даклад у БДУ;
наведваць штодзенна школу, куды ён прызначан класным настаўнікам;
абследваць хаванне партыйных дакументаў і стан уліку комуністаў;
зрабіць даклад аб Дні друку.

Акрамя адзначанага, т. Дзьякаў за гэты перыяд атрымаў рад заданняў і ад культпропа ЦК.

Хіба нагрузка тав. Слоніма—дырэктара Інстытута прамысловасці—не гаворыць прыблізна аб тым-жа. Тав. Слонім у красавіку зрабіў шэсць дакладаў, ён з'яўляецца кіраўніком двух гурткоў па гісторыі партыі, кіруе курсамі эканомпалітыкі ў Інстытуце народнай гаспадаркі. Ён—намеснік старшыні калегіі абаронцаў, адказны сакратар камісіі па садзейнасці рабочаму вынаходству пры СНК, член камісіі па распрацоўцы Прапойскага камбіната, член парткома Інстытута пра-

мысловасці, не лічачы паасобных заданняў і даручэнняў ад сваёй партарганізацыі.

Або возьмем навуковага работніка т. Саевіча, які за красавік правёў два абследванні: кафедры эканомпалітыкі і беларусізацыі ў школе. Зрабіў 8 дакладаў, атрымаў 4 даручэнні ад партарганізацыі ВКСГШБ, 3 разы выязджаў у раён і, акрамя таго, мае асноўную работу выкладчыка, якая займае 140 гадзін у месяц.

Аб чым гавораць гэтыя жывыя факты? Аб тым, што справа правільнага выкарыстання кадраў пастаўлена ў нас надзвычай дрэнна, што рад арганізацый практыкуе зусім неўласцівыя большэвізму, ленінска-сталінскаму стылю работы бюракратычна-галавацяпскія адносіны да людзей. Хіба не аб бяздушных адносінах да людзей гаворыць факт з комуністкай Манахавай у апараце Наркамзема? Хіба не аб гэтым, хоць і ў іншай сувязі, сведчаць факты вынясення масавых неабгрунтаваных вымоў (сенненская партарганіз.)?

Усё гэта гаворыць і сведчыць аб тым, што справа выхавання, уважлівых адносін да людзей часта падменьваецца загадам, адміністраваннем. Іменна на гэтыя «бяздушна-бюракратычныя, агідныя адносіны да людзей», да кадраў, на «няўменне цаніць людзей» з усёй завостранасцю ўказаў тав. Сталін.

Гэта гаворыць іменна аб тым, што ў радзе нашых арганізацый, замест дапамогі і падтрымання ў рабоце, абыходзяцца з чалавекам як з пешкай і нярэдка такое абыходжанне «спалучаюць» з балбатнёй аб увазе к жывому чалавеку.

Прыведзеныя факты сведчаць таксама аб тым, што для ўсякага роду партыйных заданняў выкарыстоўваецца абмежаванае кола актыва. Тым часам рад даручэнняў з вялікім поспехам маглі-б выканаць менш нагружаныя здольныя таварышы, тым больш, што многія з іх выказваюць такое жаданне. К прыкладу, сакратар парткома менскага завода імя Молатава т. Батвінік, сакратар парткома ф-кі «КІМ» т. Сухаліцкі выказваюць сваю незадаволенасць тым, што гарком не дае ім даручэнняў, што яны закрыты ў сценах свайго прадпрыемства. Тав. Батвінік зусім правільна ўказаў на акалічнасць, немалаважную для нас ў сувязі з закранутым пытаннем, што часта таварышы, прысылаемыя па пуцёўках гаркома для абследвання таго ці іншага ўчастка партыйнай работы (напрыклад, хавання партыйных дакументаў), не будучы самі на партыйнай рабоце, дрэнна разбіраюцца ў сваім заданні, якое з поспехам мог-бы выканаць менш нагружаны і больш кампетэнтны работнік.

Ад нас патрабуецца беражлівае, уважлівае выкарыстанне наяўных кадраў, удумчывае, дыферэнцыяванае прыцягненне і высоўванне новых работнікаў. Аднак у гэтай рабоце рад партыйных і совецкіх арганізацый маюць істотны прабел.

Выхаванне і вырошчванне кадраў—гэта велізарнейшай важнасці справа—адбываецца ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы. Трэба рашуча пакончыць з рэшткамі канцэлярска-бюракратычнага метада кіраўніцтва і заўсёды бачыць жывога чалавека, ведаць яго запатрабаванні, вучыць і выхоўваць, ствараць усе ўмовы для росту, для перспектывы ў рабоце.

Бачыць жывога чалавека—значыць павысіць большэвіцкую пільнасць: з аднаго боку, умець своечасова выкрыць ворага, з другога—акружыць увагай і клопатам будаўніка соцыялізма. Большэвіцкія

адносіны да людзей азначаюць іменна бязлітасную барацьбу з ворагам, чулыя, любоўныя, гуманныя адносіны да людзей, адданых справе соцыялізма.

Большэвіцкі размах у вырашэнні праблемы «кадры вырашаюць ўсё» патрабуе ад партыйных і совецкіх арганізацый бязлітасна выкрываць усякага, хто па-казённаму адносіцца да людзей, апартуністычна недаацэньваючы ўсю важнасць гэтай задачы—адной з цэнтральных і рашаючых задач пролетарскай рэволюцыі.

У барацьбе з апартунізмам, з буржуазнымі перажыткамі старых панска-саноўных адносін да людзей, смела высоўваючы новыя кадры, выхоўваючы іх у духу большэвізма ў барацьбе з труднасцямі, партыя з поспехам вырашыць праблему кадраў.

---





## Сакратару ЦК КП(б)Б тав. Гікало

*ПАВАЖАНЫ НІКАЛАЙ ФЕДАРАВІЧ!*

*Гэтым лістам я хацеў-бы звярнуць Вашу ўвагу на пытанне, якое датычыць перш за ўсё асабіста мяне, але якое, на мой погляд, мае і некатары агульны інтарэс.*

*Справа ідзе аб недапушчальным дзёрганні, проста такі драпежніцкім выкарыстанні некаторых членаў партыі. Каб не быць галаслоўным, я прывяду некаторыя даныя за апошнюю пяцідзёнку, якія датычаць асабіста мяне.*

*19/IV я атрымоўваю пуцёўку Гаркома абследваць хаванне партдакументаў. У той-жа дзень—пуцёўку рабіць даклад аб законе па барацьбе з беспрытульнасцю. 20/IV я атрымоўваю пуцёўку Культпропа ЦК абследваць стан краязнаўчай арганізацыі пры Акадэміі Навук. Тэрмін—25/IV. Пастановай бюро ЦК я вылучан палітрэдактарам Партвыдавецтва. На гэтай падставе 21/IV Партвыдавецтва даручае мне канчатковую рэдакцыю II тома выбраных твораў К. Маркса, усяго 35,5 друкаваных аркуша. Тэрмін—3 мая. 23/IV я атрымоўваю паведамленне аб неабходнасці к 29 выехаць у Рэчыцу для чытання даклада райпартактыву, куды я прымацаваны для сталай працы. Пастановай бюро ЦК я прызначан адным з рэдактароў Бел. Сов. Энцыклапедыі. Рэдакцыя апошняй даручае мне не пазней 27 IV адрэдагаваць мой аддзел. 25/IV я атрымоўваю пуцёўку Гаркома выехаць на пасеўную кампанію ў Халопеніцкі раён.*

*19/IV мяне выклікаюць к інструктару ЦК тав. Якубу, які вядзе са мной гутарку па пытанню аб прызначэнні пазаштатным інструктарам аддзела кір. парторганаў ЦК. І толькі што я зварочваюся на работу, як мяне выклікаюць у Культпроп да тав. Пасюкевіча. 25/IV мяне адначасова выклікаюць і ў Гарком за пуцёўкай і ў ЦК ЛКСМБ на нараду па невядомаму мне пытанню. Пры чым нікога не цікавіла, што 23/IV у мяне адкрылася ўсебеларуская нарада заг. кафедр педагагічных ВНУ, дзе я рабіў тэарэтычны даклад, што я застаўся адзін у апараце, бо мой намеснік і інспектары—на раёне, што я заняты складанейшай работай па перапрацоўцы вучэбных планаў, што ў мяне канчаецца навучальны год.*

*Я прывёў гэтую пяцідзёнку толькі ў якасці ілюстрацыі, але яна характэрна. І я не адзін у такім становішчы. Мне вядома, што рэктар БДУ, тав. Дзьякаў, дырэктар Пед'інстытута тав. Мельцэр нагружаюцца па такой-жа «сістэме». Я ўжо не гавару аб сваёй прамой рабоце, аб тым, што я з апаратам у чатыры чалавекі павінен абслужыць армію студэн-*

*таў у 22.000 чалавек, што з'яўляюся членам парткома НКП, прымацаваны да комсамола і т. д.*

*У выніку я пачынаю хаўтурыць, і ўрэшце гэта для мяне можа скончыцца сумна. Акрамя таго я знаходжу, што такая сістэма выкарыстання людзей знаходзіцца ў рэзкай супярэчнасці з устаноўкамі партыі.*

*В. БАШКЕВІЧ.*

*25/IV—35 г.*

*(Начальнік Кіраўніцтва ВНУ, тэхнікумамі і рабфакамі Наркамасветы).*

**Ліст тав. Башкевіча служыць яркім прыкладам няправільнага выкарыстання партыйных кадраў і сігналізуе аб зусім недапушчальнай практыцы дзёргання людзей, якая мае месца ў радзе парт-арганізацый, у прыватнасці ў менскай партыйнай арганізацыі.**

**Разгорнутая ацэнка ўсёй важнасці пытання, узнятага лістам тав. Башкевіча, у святле прамовы тав. Сталіна на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі 4 мая 1935 года, дана ў перадавым артыкуле гэтага нумара «Большэвіка Беларусі»—«Кадры вырашаюць усё».**

**РЭДАКЦЫЯ.**

Д. Конік

# Яшчэ мацней і астрэй адточым наш большэвіцкі друк*)

Сёння мы праводзім агляд аднаго з важнейшых участкаў нашай работы—большэвіцкага друку, астрэйшай і мацнейшай зброі нашай партыі ў барацьбе за соцыялізм.

Свята нашага друку—гэта свята ўсёй партыі, усіх працоўных, свята ўсіх большэвікоў, партыйных і непартыйных. Традыцыя нашага большэвіцкага друку ўкаранілася ў плоць і кроў кожнага члена партыі. Большэвіцкая «Правда», ленінская «Іскра», марксава «Новая Рэйнская газета»—гэта комуністычны сцяг, пад якім справа соцыялізма перамагла канчаткова і беспаваротна на 1/6 зямнога шара, гэта сцяг, вакол якога ядналіся і яднаюцца мільёны прыгнечаных у капіталістычных краінах для барацьбы за перамогу справы Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна ва ўсім свеце.

Споўнілася 87 год комуністычнага друку, бо марксава «Рэйнская газета» выходзіла яшчэ ў 1848 годзе.

Маркс—гэты геніяльнейшы мысліцель—на старонках «Рэйнскай газеты» у 1848 годзе заявіў, што капіталістычны друк здолен толькі на адно—служыць капіталізму, што яго лозунгам з'яўляецца: «праз палітыку да устрыц». І гэты велізарнейшы барацьбіт і рэволюцыянер ужо тады вызначыў баявую задачу «Рэйнскай газеты», як задачу, якая заключалася ў тым, каб «падкапаць усе асновы існаваўшага палітычнага ладу». Мэтай гэтай газеты было адно—**вызваленне рабочага класа.**

Велізарнейшы баец за ідэі Маркса, геніяльнейшы розум усіх эпох чалавецтва—вялікі Ленін у 1900 гадах стварае ленінскую «Іскру», адыграўшую выключную ролю ў фармаванні партыі новага тыпу, партыі большэвікоў, людзей асобага пакрою, людзей, якія тым больш загартоўваюцца, чым больш шалеюць ворагі, людзей, якія тым імклівей рухаюцца ўперад, чым больш упадаюць у істэрыку праціўнікі ўнутры партыі.

У 1912 г. вялікі Ленін разам са сваім бліжэйшым саратнікам—вялікім Сталіным—стварае большэвіцкую «Правду».

У 1912 г. таварыш Ленін на падставе скромных статыстычных даных бачыў, што 504 групы рабочых далі згоду падпісацца на большэвіцкую газету «Правда». І вось ён піша:

«Раз ёсць у наяўнасці такая свядомасць і актыўнасць у масах,—не страшны ніякія труднасці, ніякія перашкоды. Няма і

*) Даклад 9 мая 1935 г. на ўрачыстым сходзе, прысвечаным дню друку.

быць не можа такіх труднасцей і такіх перашкод, якія не адолела-б, так ці інакш, свядомасць, актыўнасць і зацікаўленасць рабочых мас» *).

«З цемры да святла, ад пасіўнасці да актыўнасці, ад дзеянняў адзіночак да дзеянняў мас»—такі лозунг Леніна пасля марксісцкага аналіза скромных лічб зборшчыкаў «Праўды».

«Праўда» расла і загартоўвалася разам з ростам нашай партыі ў бязлітаснай і рашучай барацьбе з усялякімі ўхіламі на ўсім шляху свайго развіцця. Да «Праўды» спрабавалі прымазвацца апартуністычныя элементы з мэтай павярнуць «Праўду» ад лініі партыі. Але гэта ім не ўдалося і не ўдасца. «Праўда» была, ёсць і будзе вернай лініі партыі, вернай сцягу Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. «Праўда» сваім большэвіцкім словам пякла каленым жалезам ворага і выпальвала з нашых радоў усе тыя элементы, якія перашкаджалі развіццю і росту нашай партыі.

«Праўда» была заўсёды на перадавых пазіцыях барацьбы нашай партыі за справу пралетарскай рэволюцыі, за таржаство соцыялізма.

Пасля перамогі соцыялістычнай рэволюцыі ў нашай краіне Ленін і Сталін далі нашаму друку новую праграму—праграму барацьбы за соцыялістычнае будаўніцтва, за арганізацыю соцыялістычнага спаборніцтва, за вырошчванне большэвіцкіх кадраў і атрыманне новых комуністычных перамог. У барацьбе за гэтыя перамогі асабліва вялікі роля і значэнне нашага большэвіцкага друку—гэтай зброі, з дапамогаю якой партыя штодзённа і штогадзінна гаворыць з рабочым класам на сваёй, патрэбнай ёй мове.

Комуністычны друк не вычэрпваецца натуральнымі фізічнымі граніцамі, акружаючымі Савецкі саюз. Комуністычны друк усеяў увесь зямны шар. Цяжка знайсці якую-небудзь калонію, не гаворачы ўжо аб вялікай капіталістычнай краіне, дзе-б не было комуністычнага друку. Іскра Леніна ўсюды знаходзіць сваё адлюстраванне, на любым пункце зямнога шара, дзе існуе капіталізм, дзе існуе прыгнечаны народ.

Калі вакол капіталістычнай прэсы ёрзаюць і мітусяцца прадажныя зграі газетных лгуноў і плеткароў, разнастайныя шарлатаны, дэкласаваныя брадзягі, палітычныя авантурысты і рэнегаты, дык вакол нашага комуністычнага друку зрасліся несакрушымай сцяною арміі рабочых карэспандэнтаў, сапраўдных пролетарыяў, заўсёды гатовых праліць кроў за справу вызвалення рабочага класа, за справу ленінізма, за справу комунізма. У гэтым велізарнейшая сіла і несакрушальнасць большэвіцкага друку.

Большэвіцкі друк знаходзіцца ў асноўных капіталістычных краінах у падполлі. Лепшыя большэвікі-ленінцы зараз, не шкадуючы сябе, вядуць рашучую барацьбу з фашызмам. Многія лепшыя таварышы гінуць у гэтай барацьбе—у барацьбе за трыумф большэвіцкага слова.

Большэвіцкі друк з кожным днём расце. Нашы газеты пачалі лепш працаваць, нашы кадры сталі граматней, нашы газеты становяцца многагранней. Многаграннасць нашых газет выражаецца і ў тым, што пытанні літаратуры і мастацтва, навукі, культуры, пытанні ўсіх галін нашага ідэалагічнага фронта ўсё больш адлюстроўваюцца на старонках нашага друку.

*) Ленін, „Аб рабочым друку".

У 1934 годзе тыраж газет Савецкага Саюза складаў 36,5 мільёна экз. (звыш 1.300 проц. да тыража рускага буржуазнага друку ў 1913 годзе).

Прадукцыя нашых выдавецтваў дасягнула ў гэтым-жа годзе 2,7 мільярда друкаваных аркушаў-адбіткаў, што складае звыш 2.200 проц. да 1913 года.

Творы Маркса і Энгельса ў мінулым годзе былі выданы ў колькасці 1.400 тыс. экз., у гэтым годзе выходзіць 1.500 тыс. экз. Творы Леніна ў мінулым годзе вышлі ў колькасці 4 млн. экз., у гэтым годзе будзе выпушчана 7.855.000 экз. Творы Сталіна ў мінулым годзе вышлі ў колькасці 13.320 тыс. экз., з іх «Пытанні ленінізма»—700 тыс. экз. У гэтым годзе «Пытанні ленінізма» выйдуць у колькасці 2 млн. экз. Калі да гэтага дадаць тое, што выпушчана ў нацыянальных рэспубліках, дык вышэйпаказаныя мільёны будуць яшчэ большымі. Даволі назваць гэтыя лічбы па Беларусі. Калі за 1924—28 гг. на беларускую мову перакладзена класікаў марксізма 28 назваў у колькасці 194 тыс. экземпляраў, дык за паўтара апошнія гады выпушчана 107 назваў з тыражом у 1 млн. 227 тыс. экземпляраў. Уся кніжная прадукцыя БССР у 1927 годзе складала 461 назву, а ў 1934 годзе ўжо 991 назву. Тыраж беларускіх кніг з 1,8 млн. экз. у 1927 г. узрос да 8,5 млн. у 1934 годзе.

У былой царскай Расіі **за 100 год** апошняга існавання самадзяржаўя было выдана **250** тыс. назваў кніг, а ў СССР **за 15 год— 378** тысяч! Такі рост у нашай краіне, у краіне соцыялізма.

Аднак, ці можам мы сказаць, што гэта задавальняе патрэбы нашых найшырэйшых рабочых і калгасных мас? Не, і яшчэ раз не. Цяга да ведаў, попыт на кнігі і газеты так агромны, што сказаць аб тым, што мы спраўляемся з гэтай задачай, нельга. Яшчэ слаба тэхнічная база нашых газет. Нашы газеты якасна яшчэ патрабуюць значнага палепшання.

Мы зараз, калі гаворым адносна работы нашага друку, павінны прадумаць цэлы рад мерапрыемстваў з тым, каб рашуча палепшыць нашу работу. Мы павінны больш рашуча паставіць пытанне адносна карэннай рэканструкцыі тэхнічнай базы нашых газет і выдавецтваў. Тое становішча, у якім знаходзіцца друкарня ЦО КП(б)Б—«Звязды», друкарня імя Сталіна, дзе друкуецца большасць нашых цэнтральных газет, патрабуе рашучых мер для таго, каб стварыць элементарныя ўмовы, пры якіх таварышы маглі-б нармальна працаваць і паляпшаць сваю газету.

Але разам з гэтым мы патрабуем рашучага палепшання работы саміх выдавецтваў пры наяўным іх тэхнічным абсталяванні. Мы патрабуем максімальнай адказнасці і выключнай пільнасці ад працаўнікоў, пастаўленых на гэты важнейшы ўчастак. Гэтага яшчэ нехапае ў нашых выдавецтваў, а таму яны яшчэ прадаўжаюць выпускаць цэлы рад кніг, якія ідуць у макулатуру.

Выдавецтва Беларускай Акадэміі Навук за 1933 і 1934 гг. выдала ў вялікім тыражы 7 кніг, якія пашлі ў макулатуру. Партвыдавецтва выдала 5 кніг, БДВ—12—15 кніг, якія таксама пашлі ў макулатуру. Гэта яскрава сведчыць аб тым, што тыя кадры, якія працуюць зараз у выдавецтвах, не заўсёды праяўляюць дастатковую пільнасць і часам дрэнна працуюць на гэтым важнейшым участку.

А тым часам безадказныя адносіны да работы ў выдавецтве, у рэдакцыі—гэта буйнейшае злачынства перад партыяй і ўсёй нашай краінай. Некаторыя рэдакцыі і выдавецтвы часам нядбайна адносяцца

да свайго чытача і здаюць яму сваю прадукцыю з недапушчальным спазненнем. Калі ўзяць часопіс «Комуністычнае выхаванне», дык студзеньскі нумар вышаў толькі 8 красавіка. «Соцыялістычнае будаўніцтва» у гэтым годзе не дало ні аднаго нумара. Нумар 1—2 «Большэвіка Беларусі» вышаў 24 сакавіка, «Штэрн»—11 сакавіка, «Полымя рэволюцыі»—16 сакавіка. Паўстае пытанне: для каго-ж тады гэтыя часопісы пішуцца? Для чытача, які ніяк не раўнаецца па спазняючыхся, або самі для сябе?

Гэта адносіцца і да газет. Часам нашы газеты выходзяць а 12-ай, а іншы раз а 2 і а 4 гадзіне дня. Гэта-ж ганьба, што часта заводы Менска атрымліваюць газеты «Звязда» і «Рабочий» не ў дзень іх выхаду, а на-заўтра. Тлумачыцца гэта тым, што некаторыя таварышы, рэдакцыйныя работнікі лічаць так, паколькі яны газету зрабілі і прачыталі, пастолькі няма чаго турбавацца. А тым часам вы дасканала разумееце, што газеты чытаюць не толькі выдаўцы, але і чытачы. Таму трэба арганізаваць сваю работу так, каб газеты ствараліся вамі і атрымліваліся чытачамі своечасова і ў тэрмін. Гэтага трэба ва што-б там ні стала дабіцца.

Нам трэба паставіць цэлы рад пытанняў у частцы павелічэння тыража кніг, у частцы палепшання прасоўвання кнігі. Наш непасрэдны абавязак—даць рабочаму і калгасніку патрэбную ім кнігу. Тым часам нашы раёны слаба забяспечваюцца літаратурай. Некаторыя кнігі пападаюць у раён адзінкамі. Тав. Стэцкі ў сваёй прамове раскрытыкаваў нас за дрэннае размеркаванне кніг, узяўшы для прыкладу адну кнігу пісьменніка Шолахава і каму яна папала. Сюды можна было-б далучыць і цэлы рад кніг, якія часта абмінаюць вёску і застраюць, пераважна, ў горадзе.

За 1934 г. чытачы Совецкай Беларусі атрымалі кніг на 15 млн. руб. Лічба значная. Але, калі паглядзець, як гэтыя кнігі размяркоўваюцца, застаецца пажадаць многа лепшага, бо бюракратызма ў нашай гандлёва-праводзячай кніжнай сеці так многа, што прасоўванне кніг к чытачам пастаўлена яшчэ зусім нездавальняюча.

З'езд рабселькораў прадэманстраваў цэлы рад дасягненняў па росту новых кадраў друку, лепшых людзей фабрык і заводаў, калгасных і соўгасных палёў, лепшых людзей чырвонаармейскай моладзі. Гэтыя людзі ва ўвесь голас адчытваліся ў сваёй рабоце. Яны паказалі, як іх выхавала і выпеставала наша партыя, наш большэвіцкі друк. Возьмем, напрыклад, рэдактара шматтыражкі фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» у Віцебску т. Фляунгбаўма, які з'яўляецца ініцыятарам сістэматычнай работы з рабкорамі, перадавіком у галіне асваення тэхнікі і выкарыстання ведаў старых рабочых маладымі. Ён умее акумуляваць гэтыя веды, перадаць іх моладзі не толькі змяшчэннем у друку артыкулаў, але і арганізацыяй працы з моладдзю. У выніку—высокі аўтарытэт шматтыражкі, а сама пастаноўка справы друку на фабрыцы займае адно з першых месц у нашай рэспубліцы.

Возьмем рэдактара насценнай газеты т. Рыкліна, Старобінскага раёна, які добра арганізоўваў работу на ферме. Такіх у нас тысячы. У Гомелі 20 агульназаводскіх газет, у Менску—таксама некалькі дзесяткаў. У іх рэдактарамі працуюць дасканалыя таварышы, якія з кожным днём растуць, але яны патрабуюць к сабе заслужанага імі клопату і беражлівасці. Клопаты аб людзях—гэта ключ да канчатковай перамогі нашай справы, справы нашай партыі, справы Леніна—Сталіна.

Правадыр нашай партыі тав. Сталін у сваёй прамове на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі 4 мая 1935 года сказаў:

«Цяпер усе прызнаюць, што мы маем ужо магутную і першакласную прамысловасць, магутную і механізаваную сельскую гаспадарку, транспарт, які разгортваецца і ідзе ўгару, арганізаваную і бліскуча аснашчоную Чырвоную армію»...

«Калі-б на нашых першакласных заводах і фабрыках, у нашых соўгасах і калгасах, у нашай Чырвонай арміі мелася дастатковая колькасць кадраў, здольных асядлаць гэту тэхніку, краіна наша атрымала-б эфекта ў тры і ў чатыры разы больш, чым яна мае цяпер. Вось чаму ўпор павінен быць зроблен цяпер на людзях, на кадрах, на работніках, аўладаўшых тэхнікай».

Нам трэба, выходзячы з гэтых указанняў правадыра нашай партыі тав. Сталіна, намеціць такія мерапрыемствы, якія-б забяспечылі сапраўды большэвіцкія адносіны да выхавання новых людзей і да тых кадраў, якія працуюць.

Ёсць паасобныя катэгорыі работнікаў нашага друку, як друкары, наборшчыкі, карэктары, машыністкі і інш., аб якіх нідзе не ўпамінаецца. Тым часам гэта людзі, якія цягнуць на сябе ўсю чарнавую і ў той-жа час выключна важную работу. Можна назваць цэлы рад іншых катэгорый работнікаў, якія не маюць к сабе дастатковай увагі. Такія адносіны існуюць яшчэ і таму, што частка работнікаў лічыць гэтых людзей нязначнымі. Зразумела, што гэта не мае нічога агульнага з тымі адносінамі да людзей, якіх патрабуе ад нас партыя. Тав. Сталін вучыць і патрабуе ад нас самых клапатлівых адносін к работнікам «малым» і «вялікім». У якой-бы галіне яны ні працавалі, мы павінны клапатліва вырошчваць іх, дапамагаць ім і падтрымліваць іх.

Наша партыя і савецкая ўлада праяўляюць асобую любоў к тым, якія адданы справе соцыялізма. Паглядзіце наш друк. З кожным днём ён адзначае лепшых людзей соцыялістычнай будоўлі. З кожным днём наша партыя і савецкая ўлада адзначаюць лепшых людзей нашай краіны. Даволі ўспомніць, з якой любоўю наша партыя і ўлада адзначылі гераізм лётчыкаў, выратаваўшых чэлюскінцаў. Даволі прывесці самы блізкі факт з нашай роднай Савецкай Беларусі, якая квітнее і разгортваецца з кожным днём, якая, як ведаеце, з прыгнечанай і адсталай, забітай краіны ў мінулым, стала адной з перадавых рэспублік нашага вялікага Савецкага саюза.

**Наша рэспубліка ўзнагароджана ордэнам Леніна**. Узнагароджаны таксама ордэнам Леніна лепшыя людзі нашай рэспублікі, арганізатары нашых перамог: баявы кіраўнік КП(б)Б, штодзённа арганізуючы нас на перамогу за перамогай—тав. Гікало і старшыня СНК—тав. Галадзед.

Наша краіна перашла ў новы, вышэйшы клас будаўніцтва соцыялізма. Рэзка змяніўся твар савецкіх рэспублік, нязмерна ўзраслі культурнасць і запатрабаванні мільёнаў працоўных—чытачоў нашых газет. Развіццё савецкага дэмакратызма і ўзросшыя задачы партыйна-масавай работы ўскладаюць на друк яшчэ больш важную і адказную ролю.

І трэба сказаць, што на сёння значная частка друку не задавальняе новых патрабаванняў, прад'яўляемых партыяй і чытачамі. Асноўная па колькасці група газет—раённыя, фабрычна-заводскія і, асаб-

ліва, соўгасныя—часта дэманструюць шэрыя, бледныя старонкі, якія ніяк не адпавядаюць ускладзеным на іх партыяй задачам.

Нельга абыйсці моўчкі зусім свежы факт, недапушчальны для большэвіцкай газеты. Рэдакцыя «Палескай праўды» (Гомель) дапусціла на старонках сваёй газеты агіднае скажэнне фактаў. У адной з перадавіц рэдакцыя гэтай газеты, захапляючыся і захлынаючыся, апісала «канферэнцыю хуліганаў» на фабрыцы «Везувій». І вось, калі аказалася, што гэта выдумка аднаго з газетчыкаў, і партком запратэставаў супроць такога расхвальвання, дык рэдакцыя катэгарычна адмовілася змясціць абвяржэнне. У гэтай-жа перадавіцы паведамлялася, што «член партыі Дзентэльскі дрэнна выхоўвае дзяцей», але Дзентэльскі дае даведку аб тым, што ён беспартыйны і членам партыі ніколі не быў.

Гэта безадказнасць, несур'ёзнасць падыходу да справы, неахайнасць і фальсіфікацыя фактаў—стыль не большэвіцкай газеты, і гэтаму трэба пакласці канец. **Газета патрабуе выключнай пільнасці і сугуба адказных адносін работнікаў да сваёй работы.** Тым часам гэтай асноўнай якасці большэвіцкага журналіста нехапае яшчэ ў часткі нашых газетных работнікаў.

Нярэдкі факты прамога пранікнення класавага ворага ў апарат нашых газет. Вораг, разумеючы, якую вострую зброю прадстаўляе наш друк, прыкідваецца рабселькорам, а потым пранікае нават і ў апарат той газеты, дзе няма неабходнай партыйнай, большэвіцкай пільнасці.

Прамова тав. Сталіна ў Крэмлёўскім палацы на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі 4 мая 1935 года яшчэ раз з усёй сур'ёзнасцю і ва ўсёй шырыні ставіць пытанне аб выхаванні кадраў, аб іх вырошчванні. У адпаведнасці з указаннем тав. Сталіна мы і павінны рашуча перабудаваць справу выхавання і вырошчвання газетных кадраў.

У Беларусі мы маем некаторы зрух у падрыхтоўцы газетных кадраў. Наш КІЖ абучае некалькі соцень таварышоў у сваіх сценках і да васьмісот чалавек, працуючых на месцах. Якасць гэтай падрыхтоўкі трэба штодзенна павышаць, каб з КІЖ'а выходзілі сапраўдныя снайперы большэвіцкага друкаванага слова. Але падрыхтоўкай газетных кадраў павінен займацца не толькі КІЖ, а і самі газеты.

Газеты іншы раз лічаць, што можна абмяжоўвацца склінаннем з'ездаў і нарад, не займаючыся штодзённа крапатлівай работай па вырошчванню работнікаў. Заўвага тав. Сталіна наконт таго, што мы рапартуем часта аб тым, што завод пабудован, цэх пушчан, план выканан, але ні разу не рапартавалі аб тым, колькі людзей мы вырасцілі, выхавалі,—выключна праўдзівая заўвага.

У чым адчуваюць зараз патрэбу, няхватку нашыя газеты? Перш за ўсё, і галоўным чынам, у людзях, палітычна бездакорных і газетна-кваліфікаваных работніках, якія любяць газету, разумеюць яе велізарнае значэнне прыводнага рэменя ад партыі к масам. Каб мець такія кадры, мы абавязаны, па-першае, добра іх вырошчваць, вучыць і выхоўваць, а, па-другое, праявіць да іх выключны клопат.

У нас яшчэ недастатковая ўвага да бытавых умоў работнікаў друку. Рад газетных работнікаў без кватэр, несвоечасова прымацоўваюцца да сталовак, размеркавальнікаў і т. д. Мы павінны прадумаць рад мерапрыемстваў, якія забяспечылі-б палепшанне матар'яльна-бытавых умоў работнікаў друку. За гэта адказваюць партарганізацыі. Пара ўжо, каб апарат газеты не лічыўся пасынкам, што яшчэ мае

месца ў некаторых раёнах. Увага да газеты, партыйнае кіраўніцтва ёю—**вырашаюць якасць, баявітасць і вострасць гэтай газеты.**

Вазьміце добра працуючыя, баявыя нашы газеты—«Большэвік Барысаўшчыны», «Ленінскі заклік» (Орша), «Шлях социялізма» (Менск), «Віцебскі пролетарый», «Комуніст» (Бабруйск) і інш. Чым тлумачыцца поспех іх работы? Тым, што партарганізацыі сапраўды па-большэвіцку кіруюць імі, штодзенна дапамагаюць ім.

У «Правде» быў змешчан матар'ял абследвання мовы нашых некаторых раённых газет. Было-б нядрэнна, калі-б наш КІЖ прарабіў гэту-ж работу. Трэба ўзяць дзве-тры раённыя газеты, усебакова іх вывучыць, прааналізаваць іх мову, загалоўкі, «шапкі», передавіцы, афармленне, а потым падсумаваць вывады гэтага выключна цікавага і важнага абследвання. Трэба было-б гэтым займацца і нашаму часопісу «Большэвіцкі друк», калі ён сапраўды хоча дапамагчы газетнаму работніку паляпшаць і ўзнімаць сваю газету, а да гэтага іменна і заклікан часопіс «Большэвіцкі друк».

Выключна вяліка ў гэтай справе роля нашай вядучай газеты ЦО КП(б)Б—«Звязда». Па сутнасці нашы нізавыя газеты раўняюцца па «Звяздзе». Значыць, ёй трэба быць узорнай газетай не толькі па зместу і афармленню, але і па мове—па культурнасці стылю, выразаў і т. д. Тым часам, вельмі многа скаргаў на мову «Звязды». Я не гавару ўжо аб «Рабочым». У мове газеты «Рабочий» трэба многае зрабіць, каб гэтая мова была граматнай, вострай мовай. Наша газета павінна быць іменна сапраўдным узорам чыстаты і культуры мовы.

Вялікім недахопам у рабоце нашага друку з'яўляецца слабая пастаноўка на яго старонках пытанняў прапаганды ленінізма, ідэалагічнага ўзбраення большэвікоў. ЦК нашай партыі і асабіста тав. Сталіным пастаўлены перад усімі намі патрабаванні глыбокага вывучэння гісторыі нашай партыі. Вопыт мінулых год, калі звычайна не заканчвалі прапрацоўкі гісторыі партыі, вельмі павучальны, але яшчэ не засвоен намі. І зараз ёсць пагроза зрыву належнага вывучэння гісторыі партыі ў радзе партарганізацый. Але друк наш чамусці маўчыць. Чаму не паглядзець той ці іншы гурток, школу, апісаць іх работу, указваючы і выпраўляючы памылкі і папулярызуючы добрае, станоўчае.

Скажэнні, якія ёсць ў галіне прапаганды ленінізма, недастаткова ўскрываюцца нашым друкам.

* * *

Якія чарговыя задачы стаяць перад нашым друкам? Гэтыя задачы з выключнай яснасцю сфармуляваны ў апошнім выступленні таварыша Сталіна. Бо задачы, якія ажыццяўляюцца нашай партыяй,—гэта і ёсць задачы нашага друку. Але для таго, каб паспяхова рухаць наперад ажыццяўленне гэтых задач, ад работнікаў друку патрабуецца ўсямернае павышэнне якасці іх работы. «Правда» патрабуе ад газетчыкаў **стаць снайперамі большэвіцкага друкаванага слова**. Трэба навучыцца пісаць стылем Леніна-Сталіна, гэта значыць: **пісаць проста, ясна, сцісла і смела, калі кожная фраза не гаворыць, а страляе.**

Трэба ўзняць сваю работу да ўзроўню поўнага задавальнення патрабаванняў, прад'яўляемых партыяй і чытачамі. Чытач патрабуе змяшчэння папулярных цікавых артыкулаў, чытач патрабуе, каб усе злободзённыя пытанні былі асветлены палітычна правільна, прынцыпова, завострана і выключна граматна, культурна, захапляюча. Без

гэтага ў вас будзе пагарджанне свайго чытача—жывых людзей, нашых кадраў, якія прадстаўляюць сабою самы каштоўны капітал з усіх капіталаў.

Дзень друку ў гэтым годзе праводзіцца пад знакам рашучага павароту ўсіх газет да пытанняў партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы. Партыйна-масавая работа павінна быць у цэнтры ўвагі ўсяго друку.

З дня ў дзень з усёй большэвіцкай палкасцю і напорыстасцю трэба змагацца за якасць партыйна-масавай работы, за павышэнне ідэйна-палітычнага ўзроўню гэтай работы, за павышэнне палітычнага ўзроўню членаў партыі, за ўзбраенне вучэннем Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна шырокіх мас працоўных. Гэта галоўнейшая задача ўсяго нашага друку.

У сучаснай міжнароднай абстаноўцы, у перыяд новага тура войн і пролетарскіх рэволюцый, роля нашага друку набывае асабліваг значэнне. Друк павінен узмацніць увагу да пытанняў абароны краіны. Трэба весці крапатлівую работу ў гэтым напрамку. Трэба вучыцца ў ленінскай «Праўды», як працаваць і як змагацца за канчатковае тар-жаство справы Леніна—Сталіна.

Пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК «Праўда» давала большэвіцкі адпор усім апартуністычным наскокам на лінію нашай партыі як з боку контррэволюцыйнага трацкізма, так і правага апартунізма. Вучыцеся ў «Праўды», як трэба ставіць пытанні барацьбы і бязлітаснага выкрыцця ахвосця контррэволюцыйнай каменеўска-зіноўеўскай групы, якая вырадзілася ў белабандыцкую, фашысцкую групу.

Застаючыся верным традыцыям большэвіцкай «Праўды», якая з'яўляецца ўзорам лепшай марксісцкай газеты, наш большэвіцкі друк Савецкай Беларусі, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з лепшым сталінцам—тав. Гікало, пакажа ўзоры лепшай работы ў барацьбе за канчатковую перамогу справы Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Г. Рубінштэйн

# На партыйныя тэмы

## Як арганізаваць работу інструктара

Тав. Кагановіч на нарадзе загадчыкаў аддзелаў кіруючых парторганаў, падкрэсліваючы асаблівую ролю інструктара ў разгортванні партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы, указаў, што «інструктары павінны стаць важнейшым звяном, калі так можна выразіцца, цэнтральнай фігурай партыйнага апарата». Аднак, гэта важнейшае палажэнне, высунутае т. Кагановічам, да гэтага часу не знайшло дастатковага адлюстравання ў рабоце партыйных арганізацый. РК і ГК да гэтага часу яшчэ не ўсвоілі, што інструктар з'яўляецца асноўным звязваючым звяном паміж райкомам і пярвічнай партыйнай арганізацыяй, і ад таго, як будзе арганізавана работа інструктара, будзе ў асноўным залежаць забяспечанне штодзеннага канкрэтнага кіраўніцтва і сувязь РК з пярвічнай партарганізацыяй і кожным комуністам, будзе залежаць арганізацыя практычнай дапамогі РК пярвічнай арганізацыі ў разгортванні партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы і забяспечанне кантролю за выкананнем партыйных рашэнняў. Іменна неразуменне гэтага і прывяло к таму, што інструктар займаецца абсалютна ўсім, толькі не партыйнай работай. Пытанні выхавання, вырошчвання комуніста, дапамогі пярвічнай партыйнай арганізацыі ў пастаноўцы партыйна-масавай работы—усё гэта у рабоце інструктара ў большасці выпадкаў аказалася адсунутым на задні план, і інструктар займаўся галоўным чынам пытаннямі промфінплана, сяўбы, загатоўкамі, мабілізацыяй сродкаў, дарожным будаўніцтвам і т. д.

Замест барацьбы з гэтымі фактамі, замест таго каб патрабаваць ад інструктара, каб ён заняўся партыйнай работай, арганізаваў дапамогу ў разгортванні партработы пярвічных партыйных арганізацый, дапамог комуністу-адзіночцы,—райкомы і гаркомы самі садзейнічалі таму, што інструктар адрываўся ад партыйнай работы. Не выпадковым, вядома, з'яўляецца той факт, што пры правядзенні гаспадарчых кампаній інструктары РК і ГК з'яўляюцца першымі, каго назначаюць упаўнаважанымі ў сельсоветы і калгасы для забяспечання гаспадарчых кампаній. Няма патрэбы даказваць, што гэта з'яўляецца прамым рэзультатам недаацэнкі радам РК і ГК пытанняў разгортвання партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы. РК і ГК павінны рашуча пакончыць з гэтай зусім недапушчальнай практыкай скарыстання інструктара, якая вядзе к таму, што важнейшае звяно ў разгортванні партыйна-масавай работы аказваецца выпаўшым.

Асноўнымі задачамі інструктара павінны быць дапамога пярвічнай партыйнай арганізацыі ў пастаноўцы партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы, кантроль за выкананнем рашэнняў РК і ГК, непасрэдная дапамога комуністу-адзіночцы ў яго рабоце над сабой і ў яго рабоце з беспартыйным актывам, пытанні ідэйнага ўзбраення комуніста, павышэння яго авангарднай ролі на вытворчасці і ў грамадска-палітычным жыцці, удзел у падборы і вылучэнні партыйных кадраў. Інструктар павінен быць вызвален ад усякай гаспадарчай і іншай работы, сканцэнтраваўшы ўсю сваю ўвагу вакол пытанняў партыйнай работы і ідэйнага ўзбраення комуніста.

Але для таго, каб забяспечыць выкананне інструктарам гэтых задач, трэба яго работу арганізаваць. Неабходна ліквідаваць самацёк, які да гэтага часу пераважае ў рабоце інструктара.

Першая ўмова, неабходная для паспяховай арганізацыі работы інструктара—гэта зусім чоткае вызначэнне тых партарганізацый, якія ён абслугоўвае і за работу якіх ён адказвае. У цяперашні час у сельскіх раёнах існуе зусім няправільны прынцып прымацавання інструктароў не да пярвічных партыйных арганізацый і да комуністаў-адзіночак, а да адміністрацыйнага ўчастка. Гэты зусім няправільны прынцып прыводзіць к таму, што інструктар павінен адказваць не за работу пярвічнай партыйнай арганізацыі і комуніста-адзіночкі, а за работу сельсовета, калгаса і т. д., хоць там і няма ні аднаго комуніста. Гэта таксама прыводзіць к таму, што інструктар, замест таго каб заняцца пытаннямі партыйнай работы, пытаннямі ідэйнага ўзбраення і выхавання комуніста, пытаннямі дапамогі пярвічнай партарганізацыі, займаецца па сутнасці пытаннямі работы сельсовета, соўгаса, калгаса, г. зн. гаспадарчымі пытаннямі.

Гэты няправільны прынцып у прымацаванні інструктара трэба неадкладна ліквідаваць. Інструктар павінен быць прымацован да пярвічнай партыйнай арганізацыі, да паасобнага комуніста-адзіночкі. Што-ж датычыць тых калгасаў, сельсоветаў, соўгасаў і іншых арганізацый, дзе няма пярвічнай арганізацыі і комуністаў-адзіночак, райком і гарком павінны выдзеліць групу кіруючых партработнікаў раёна, якіх яны прымацоўваюць ці то ў якасці парторгаў, зацверджаных РК і ГК, ці проста ў якасці прымацаваных, адказваючых за разгортванне палітычнай-масавай работы ў гэтых арганізацыях. Прымацаваныя нясуць адказнасць і робяць справаздачы аб сваёй рабоце непасрэдна перад РК і ГК. Інструктар-жа РК і ГК адказвае за пастаноўку партыйнай работы толькі прымацаваных да яго пярвічных партыйных арганізацый і комуністаў-адзіночак.

Важнейшай умовай, якая забяспечвае правільную арганізацыю работы інструктара, з'яўляецца наяўнасць у інструктара плана работы.

Інструктар абавязан мець дэкадны план-календар сваёй работы, узгоднены з сакратаром РК, ГК. У дэкадным плане-календары інструктар павінен прадугледзець, якія пытанні і ў якой пярвічнай партыйнай арганізацыі, або з якім комуністам-адзіночкай інструктар правярае, або якую работу ў якой пярвічнай партарганізацыі праводзіць. Для прыкладу можна было-б рэкамендаваць інструктару наступны план-календар на дзесяцідзнеўку: 1—2 чэрвеня правяраю работу са спачуваючымі такой-то пярвічнай партарганізацыі, 3 чэрвеня праводжу гутарку з такім-то комуністам-адзіночкай і дапамагаю яму правесці гутарку з беспартыйным актывам, 4—5 чэрвеня праводжу партыйны сход комуністаў-адзіночак, працуючых у сель-

советах, па пытанню аб тым, як рэалізуюцца рашэнні красавіковага пленума ЦК КП(б)Б, 6 чэрвеня—выхадны дзень, 7 чэрвеня праводжу палітдзень у такім-то калгасе па пытанню аб міжнародным становішчы і задачах умацавання абароназдольнасці СССР, 8 чэрвеня праводжу нараду растучых комуністаў у такой-то пярвічнай партыйнай арганізацыі па пытанню аб тым, як комуністы працуюць над сабой і як дапамагае ім у гэтым пярвічная партарганізацыя, 9 чэрвеня правяраю становішча ўліку ў данай пярвічнай партарганізацыі, 10—11 чэрвеня дапамагаю ў падрыхтоўцы такому-то комуністу-адзіночцы к дакладу на бюро РК аб рабоце соўгаса і рабоце над сваім палітычным ростам.

Гэты план-календар з'яўляецца, зразумела, вельмі арыентыровачнай схемай для плана-календара інструктара. Аднак, такая арганізацыя работы забяспечвае інструктару канцэнтрацыю ўвагі на важнейшых пытаннях, дае яму магчымасць канкрэтна дапамагаць пярвічнай партыйнай арганізацыі ў пастаноўцы партыйнай работы, не раскідвацца на дробязі, а ўзнімаць вузлавыя пытанні партыйнай работы. Зусім зразумела, што кожнае з пытанняў, якое інструктар намеціў сабе ў плане- календары, павінна быць адпаведна падрыхтавана, пытанні падабраны такія, якія ўзнімалі-б палітычны ўзровень комуніста, спрыялі-б яго росту.

Асноўнае, што трэба мець на ўвазе інструктару, гэта тое, што ён не павінен падмяняць пярвічнай партарганізацыі ва ўсіх гэтых пытаннях, а павінен дапамагаць пярвічнай арганізацыі разгортваць партыйную работу, вучыць сакратара або парторга пярвічнай партарганізацыі або партгрупы практыцы партыйнай работы. Інструктар, дапамагаючы комуністу-адзіночцы правесці гутарку з беспартыйным актывам, павінен з гэтым комуністам правесці сур'ёзную папярэднюю работу. Па-першае, на падставе гутаркі з комуністам-адзіночкай і паасобнымі актывістамі, выясніць, якія пытанні ў даны час больш за ўсё цікавяць актыў, што з'яўляецца для актыва найбольш злобадненым. Устанавіўшы гэта, інструктар дапамагае комуністу-адзіночцы падабраць літаратуру па гэтаму пытанню, разам з ім прачытвае гэту літаратуру, растлумачвае комуністу няясныя для яго пытанні, дае яму ўказанні, якія пытанні асабліва падкрэсліць у гутарцы, і толькі пасля гэтага комуніст-адзіночка праводзіць гутарку з беспартыйным актывістам. Пасля гутаркі інструктар растлумачвае комуністу-адзіночцы, якія недахопы меліся ў гутарцы, і складае разам з комуністам-адзіночкай план, як і на якую тэму правесці наступную.

З такой-жа стараннасцю інструктар падрыхтоўвае кожнае пытанне, уцягваючы ў падрыхтоўку комуністаў, выхоўваючы іх на гэтым. Інструктар павінен забяспечыць кожнаму комуністу канкрэтны план-заданне на 10—15 дзён, растлумачыўшы комуністу, як канкрэтна забяспечыць рэалізацыю плана-задання: колькі, як і на якія тэмы правесці гутаркі з беспартыйным актывам, якія кніжкі прачытаць за гэты тэрмін. Важнейшыя рашэнні партыі інструктар павінен асабіста растлумачыць комуністу-адзіночцы. Ён павінен таксама дапамагчы адзіночцы падрыхтавацца да чарговага партыйнага сходу, для чаго інструктар павінен загадзя ведаць, калі, дзе і па якому пытанню будзе праведзен партыйны сход.

Такая ўважлівая падрыхтоўка кожнага пытання, уцягненне інструктарам у падрыхтоўку пытанняў комуніста, канкрэтная дапамога парторгу групы або сакратару парткома ў пастаноўцы партыйнай

работы дасць магчымасць інструктару вывучыць кожнага комуніста, ведаць яго слабыя і моцныя бакі, своечасова дапамагчы яму папярэдзіць правал. Інструктар павінен спецыяльна ўлічыць растучых комуністаў, паставіўшы з імі асобую работу ў выглядзе дачы ім спецыяльных заданняў па азнаямленню і аказанню дапамогі паасобным пярвічным арганізацыям і паасобным комуністам, прыцягваць гэтых таварышоў да падрыхтоўкі пытанняў на агульна-партыйныя сходы і бюро РК і ГК, асоба арганізаваць партыйную вучобу гэтых таварышоў. Інструктар РК павінен на аснове вывучэння ім комуністаў, арганізацыі канкрэтнай дапамогі ў іх ідэйна-палітычным росце ставіць перад райкомам і гаркомам пытанне аб прасоўванні вырасшага таварыша, або наадварот—пытанне аб перасоўцы комуніста на менш адказны ўчастак работы, калі комуніст не спраўляецца з даручанай яму работай. Толькі забяспечыўшы канкрэтны падыход да кожнага комуніста, дапамагаючы на практычнай рабоце комуністу ў яго ідэйна-палітычным росце, выхоўваючы комуніста ў духу большэвіцкай прынцыповасці і партыйнай непрымірымасці, інструктар сапраўдыператворыцца ў цэнтральную фігуру партыйнага апарата.

Ва ўсёй рабоце інструктара сакратар райкома павінен забяспечыць штодзенную дапамогу і кантроль. Неабходна забяспечыць, каб сакратар РК і ГК не радзей, чым раз у пяцідзенку, гутарыў з інструктарам, ставіў перад ім важнейшыя пытанні работы партыйнай арганізацыі, правяраў выкананне інструктарам плана-календара, знаёміўся, як працуе інструктар, як ён кантралюе і арганізуе правядзенне рашэнняў райкома ў пярвічных партыйных арганізацыях.

Дапамагаючы інструктарам у рабоце, РК і ГК павінны прывіць інструктару пачуцце адказнасці за становішча партыйнай арганізацыі і работу комуністаў-адзіночак, да якіх інструктар прымацован.

Інструктар побач з парторгам, сакратаром парткома адказвае за работу пярвічнай партыйнай арганізацыі. На інструктароў такім чынам партыяй ускладзена важнейшая і адказнейшая работа. Інструктар—гэта асноўны касцяк партыйнага апарата, і пытанню арганізацыі работы інструктара павінна быць аддана сур'ёзнейшая ўвага.

## Як паставіць палітычную інфармацыю

Правільна пастаўленая палітычная інфармацыя з'яўляецца важнейшым звяном у палепшанні, канкрэтызацыі партыйнага кіраўніцтва. Толькі паставіўшы правільна палітычную інфармацыю, партыйны камітэт здолее забяспечыць пастаноўку пытанняў, цікавячых партыйныя масы, своечасова папярэдзіць прарывы ў рабоце, канкрэтна падыйсці да кожнай пярвічнай партыйнай арганізацыі, да кожнага комуніста. Тым часам гэта важнейшая работа недаацэньваецца большасцю партыйных арганізацый. Палітычная інфармацыя аб стане і рабоце партыйных арганізацый, аб настроі комуністаў і беспартыйных, аб запросах і запатрабаваннях партыйных мас, аб пытаннях, высоўваемых пярвічнымі партарганізацыямі перад райкомамі і гаркомамі,—атрымліваецца, як правіла, ад выпадку да выпадку. Гэту работу ніхто не арганізуе. Зусім зразумела, што пры такім становішчы недахопы ў рабоце партыйных арганізацый ускрываюцца тады, калі работа ўжо правалена, калі патрабуюцца ўжо рашучыя арганізацыйныя мерапрыемствы. Тым часам, пры правільна пастаўленай палітычнай інфармацыі правал у рабоце можна было-б папярэдзіць і захаваць партыйныя кадры.

Часта чуеш скаргі на тое, што комуністы не актыўна ўдзельнічаюць на партыйных сходах, не гледзячы на тое, што сходы падрыхтаваны. Аднак, варта толькі ўважліва вывучыць прычыны слабой актыўнасці, як выяўляецца, што ў радзе выпадкаў слабая актыўнасць вызначаецца тым, што пытанне на партыйны сход падабрана няўдала. Сам-жа няўдалы падбор пытання на партыйны сход вызначаецца тым, што партыйны камітэт не інфармаваны аб настроях партыйнай арганізацыі, не інфармаваны аб пытаннях, якія асабліва цікавяць комуністаў. Такім чынам, пытанне аб арганізацыі палітычнай інфармацыі з'яўляецца адной з рашаючых умоў разгортвання партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы.

Як-жа арганізаваць гэту важнейшую работу, каб яна дапамагала партыйнаму кіраўніцтву ў пастаноўцы партыйнай работы?

Важнейшым дакументам, з дапамогаю якога РК і ГК і партком інфармуюцца аб стане і рабоце партыйнай арганізацыі, з'яўляецца пратакол. У нас часамі складаецца зусім няправільная думка, што паколькі мы цэнтрам сваёй работы робім жывую сувязь, вывучэнне пратакола становіцца бескарыснаю, непатрэбнаю справай. Гэта зусім няправільны, непартыйны падыход да пытання. Мы не можам процістаўляць жывую сувязь вывучэнню партыйных дакументаў. Гэта два звяны аднаго і таго-ж ланцуга. Жывая сувязь і вывучэнне пратакола партыйнай арганізацыі павінны дапаўняць адно другога і разам дапамагаць партыйнаму кіраўніцтву ў наглядзе за работай пярвічнай партыйнай арганізацыі. Іменна гэта недаацэнка вывучэння пратакола прывяла к таму, што большасць ГК і РК зусім не прагледжваюць пратаколаў пярвічнай партыйнай арганізацыі, а парткомы зусім не знаёмяцца з пратаколамі цэхпартарганізацый. Гэта-ж недаацэнка прывяла к таму, што афармленне пратакола праходзіць зусім нездавальняюча. Выступленні і прапановы комуністаў не запісваюцца; пытанні, задаваемыя на сходах, не запісваюцца, рашэнні афармляюцца праз адзін-два месяцы пасля вынясення рашэнняў і т. д. Тым часам, калі заняцца сістэматычным сур'ёзным вывучэннем пратакола пярвічнай партыйнай арганізацыі і цэхпартарганізацыі, сур'ёзна вывучаць і абагульваць выступленні комуністаў на партыйных сходах,—райком і гарком на аснове гэтых абагуленых матар'ялаў аб запросах комуністаў, аб пытаннях, прапановах, якія высоўваюцца комуністамі, атрымоўвае магчымасць не толькі выявіць стан партыйнай арганізацыі і якасць кіраўніцтва партарганізацыі з боку парткома або парторга, але на аснове гэтых абагуленняў своечасова дапамагчы данай пярвічнай партыйнай арганізацыі перабудаваць работу, ліквідаваць недахопы, ускрытыя ў спрэчках і прапановах, забяспечыць правядзенне ўнесеных комуністамі прапаноў, паставіць перад партарганізацыяй найбольш вострыя пытанні работы данай партарганізацыі. Вывучэнне пратакола дасць магчымасць вывучыць настрой паасобнага комуніста і своечасова дапамагчы яму перасіліць труднасці ў вучобе, у выкананні партыйнай нагрузкі, у рабоце над сабой. Вывучэнне пратакола дае магчымасць своечасова папраўляць пярвічную партарганізацыю, адмяняючы няправільныя рашэнні, прынятыя пярвічнай партарганізацыяй, папярэджваць няправільную арыентацыю данай пярвічнай партарганізацыі. Сістэматычнае вывучэнне пратакола дае магчымасць кіруючым партыйным органам своечасова прасоўваць пытанні, якія ставіць пярвічная партыйная арганізацыя.

Такім чынам, вывучэнне пратакола, абагуленне выступленняў ко-

муністаў на партыйных сходах, вывучэнне прапаноў і пытанняў, высоўваемых комуністамі, з'яўляецца важнейшым звяном у пастаноўцы палітычнай інфармацыі, і гэту работу парткомы, гаркомы і райкомы павінны неадкладна-ж арганізаваць. У сувязі з гэтым стаіць пытанне: хто-ж у парткоме, райкоме, гаркоме арганізуе гэту работу, паколькі ў большасці РК і ва ўсіх парткомах няма спецыяльных работнікаў. Гэту работу павінен арганізаваць інструктар райкома.

Адною з важнейшых задач інструктара павінна быць сістэматычнае сур'ёзнае вывучэнне пратакола тых пярвічных партыйных арганізацый, да якіх ён прымацован, і інфармаваць сакратара РК. Абагуленне паасобных пытанняў павінна быць у кожным паасобным выпадку даручана аднаму з інструктароў, які, абагуліўшы пытанне па пратаколах пярвічных партыйных арганізацый, улічыўшы даныя інструктароў, непасрэдна звязаных з пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі, інфармуе гарком і райком і ўносіць практычныя прапановы па абагуленаму пытанню. У пярвічнай партарганізацыі сакратар парткома павінен сістэматычна знаёміцца з пратаколамі цэхпартарганізацый, абагуленне-ж паасобных пытанняў можа быць даручана паасобным членам парткома.

Другім важнейшым звяном у пастаноўцы палітычнай інфармацыі з'яўляецца вывучэнне запісак, паданых як на партыйных сходах, так і на сходах беспартыйных, а таксама вусных пытанняў, запісваемых прэзідыумам сходу. Вывучэнне і абагуленне запісак і пытанняў дае магчымасць партыйнаму кіраўніцтву паставіць перад партыйнай арганізацыяй рад актуальных пытанняў. Практыка вывучэння і абагулення запісак і пытанняў, задаваемых на сходах, паказвае, што раду партыйных арганізацый, у выніку вывучэння і абагулення, удалося ўскрыць, што рад актуальнейшых пытанняў засталіся няяснымі для партыйнай арганізацыі і для беспартыйных. Гэтыя арганізацыі ў выніку абагулення запісак і пытанняў высунулі перад партыйнай арганізацыяй рад важнейшых пытанняў, якія павінны быць растлумачаны ў данай партыйнай арганізацыі. Вывучэнне запісак і пытанняў дае магчымасць выявіць рад адмоўных настрояў і паставіць у сувязі з гэтым спецыяльную работу; выявіць цікавячыя комуністаў і беспартыйных пытанні і разгарнуць у сувязі з гэтым неабходную работу.

Побач з гэтым, вывучэнне запісак у радзе выпадкаў дае магчымасць выявіць рад хваравітых з'яў, недапушчальных фактаў работы паасобных работнікаў. Не гледзячы на важнейшае значэнне гэтай формы палітычнай інфармацыі, гэтай работай амаль не займаюцца. Неабходна ліквідаваць недаацэнку гэтай формы палітычнай інфармацыі, а райкомам, гаркомам і парткомам гэту работу арганізаваць.

Важнейшым элементам у пастаноўцы палітычнай інфармацыі з'яўляецца вывучэнне матар'ялаў розных нарад, склікаемых як парткомамі, так і райкомамі. У гэтых адносінах вопыт аддзела партыйных кадраў Менскага гаркома заслугоўвае выключнай увагі. Аддзелам парткадраў была склікана нарада спачуваючых. У выніку вывучэння гэтых матар'ялаў інфармацыя аддзела партыйных кадраў Менскага гаркома паставіла на сакратарыяце рад канкрэтных пытанняў: аб парадку афармлення спачуваючых, аб партвучобе спачуваючых, аб нагрузках і т. д. Пры чым, прапановы, унесеныя інфармацыяй на аснове вывучэння матар'ялаў нарады, насілі выключна канкрэтны характар, які адносіўся да пэўнай партыйнай арганізацыі, да пэўнага спачуваючага.

Гэты першы вопыт аддзела парткадраў Менскага гаркома павінен быць шырока выкарыстан усімі РК і ГК.

Побач з сістэматычным вывучэннем партыйных дакументаў і пастаноўкі, на аснове вывучэння гэтых дакументаў, палітычнай інфармацыі, пастаноўка палітычнай інфармацыі патрабуе арганізацыі жывой сувязі партыйнага камітэта з цэхпартарганізацыямі, РК і ГК, з пярвічнымі партыйнымі арганізацыямі як праз інструктароў, так і непасрэдна сакратаром парткома і цэхпарторга. Трэба ўвесці ў практыку, каб пасля кожнага партыйнага сходу цэхпарторг неадкладна-ж асабіста інфармаваў сакратара парткома аб тым, як прашоў партыйны сход, якія пытанні былі высунуты на партыйным сходзе і т. д. Такую-ж інфармацыю павінен забяспечыць кожны сакратар парткома непасрэдна сакратару РК і ГК або інструктару.

Аднак, нельга абмяжоўваць сувязь пярвічнай партыйнай арганізацыі з вышэйстаячымі партыйнымі арганізацыямі толькі інфармацыяй аб тым, як прашоў партыйны сход, паседжанне парткома, актыў і т. д. Неабходна дабіцца таго, каб цэхпарторг, парторг, сакратар парткома, як правіла, неадкладна інфармаваў вышэйстаячыя партыйныя арганізацыі аб жыцці і рабоце пярвічнай партыйнай арганізацыі. Намі да гэтага часу амаль не выкарыстоўваюцца такія важнейшыя звенні ў сістэме палітычнай інфармацыі, як *палітбяседчык*, прапагандыст, чытчыкі газет і т. д. Тым часам, рэгулярнае скліканне гэтых таварышоў, рэгулярная гутарка інструктара райкома, сакратара РК і парткома з гэтымі таварышамі дасць магчымасць атрымаць парткому, райкому і гаркому выключна цікавыя, важнейшыя факты аб жыцці і настроях не толькі партарганізацыі ў цэлым, але і паасобных комуністаў і на аснове гэтай палітычнай інфармацыі паставіць канкрэтнае, дыферэнцыяванае кіраўніцтва і дапамагчы пярвічнай партыйнай арганізацыі і кожнаму комуністу паасобку. Палітычная інфармацыя мяркуе не толькі інфармацыю знізу ўверх, але і зверху ўніз. Парткомы, райкомы, гаркомы павінны забяспечыць шырокую інфармацыю актыва аб рашэннях партыі, забяспечыць інфармацыю партыйнай арганізацыі аб рашэннях райкома і гаркома. Для гэтага павінны быць усямерна скарыстаны члены парткомаў, гаркомаў і райкомаў. Для шырокай інфармацыі партыйнай арганізацыі павінен быць шырока выкарыстан раённы друк. Важнасць работы па пастаноўцы палітычнай інфармацыі для разгортвання партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы патрабуе, каб партыйныя арганізацыі па-большэвіцку ўзяліся за арганізацыю палітычнай інфармацыі.

## Як стварыць рэзерв і арганізаваць у ім работу

Стварэнне рэзерва і работа з ім з'яўляецца адным з важнейшых пытанняў выхавання, вырошчвання і вылучэння партыйных кадраў. Няведанне людзей, адсутнасць работы з імі прыводзіць часам к таму, што вылучэнне на работу паасобных работнікаў праходзіць выпадкова. З другога боку, таварышоў, якія працуюць над сабой, растуць на рабоце, своечасова не вылучаюць і такім чынам пазбаўляюць іх перспектывы росту. Стварэнне рэзерва і арганізацыя работы з ім дае нам магчымасць вылучаць на работу таварышоў, якіх мы сістэматычна на практычнай рабоце вывучаем, ведаем, і, такім чынам, мы ў значнай ступені гарантуем сябе ад выпадковага вылучэння. Разам з тым, вывучэнне работніка, уключэнне яго ў рэзерв дае ўпэўненасць таварышу, што пры добрай яго рабоце, калі ён

будзе працаваць над сваім ростам, ён атрымае магчымасць прасунуцца па рабоце і такім чынам забяспечыць сабе магчымасць далейшага росту.

Вылучэнне рэзерваў азначае, што партыйная арганізацыя бярэцца за канкрэтную дапамогу ў росце паасобнага комуніста, за ўважлівую крапатлівую работу з актывістам, за выкоўку і падрыхтоўку бальшэвіцкіх кадраў, за забяспечанне важнейшых участкаў работы вытрыманымі, праверанымі бальшэвікамі. Не гледзячы на выключна важнае значэнне гэтай работы, неабходнасць сур'ёзнага прадуманага падыходу да яе, некаторыя РК і ГК падышлі да гэтай работы, як да тэхнічнага мерапрыемства, не зразумеўшы ўсёй палітычнай важнасці гэтай справы. Такі падыход да вылучэння рэзерва стварае небяспеку змазвання і абюракрачвання важнейшай справы вырошчвання, выхавання і вылучэння актыва.

Вылучэнне рэзерва—адказнейшая, важнейшая справа. Да яе нельга падыходзіць як да адначасовай работы, як да кампаніі. якой нельга падыходзіць як да адначасовай работы, як да кампаніі. Для таго, каб забяспечыць правільнае вылучэнне рэзерва, РК і ГК павінны ў першую чаргу вызначыць, які рэзерв яны ствараюць. Нельга ствараць рэзерв наогул. РК і ГК павінны дакладна ўстанавіць, што яны ствараюць са столькіх-то чалавек рэзерв сакратароў парткомаў, столькіх-то—рэзерв цэхпарторгаў, столькіх-то—рэзерв інструктароў РК, ГК і т. д. Устанавіўшы такім чынам, які рэзерв РК і ГК лічаць неабходным стварыць, райком прыступае да вывучэння і падбору кандыдатур для выдзялення ў рэзерв. Кандыдатуры падбіраюцца на пэўную работу: на сакратара парткома, на цэхпарторга, на інструктара РК і т. д. Вопыт вылучэння комуністаў у рэзерв гаворыць аб тым, што ў аснову вылучэння павінна быць пакладзена прасоўванне комуніста. На падставе сістэматычнага і сур'ёзнага вывучэння цэхпарторга адбіраецца група найбольш актыўных, растучых цэхпарторгаў, якія вылучаюцца ў рэзерв для прасоўвання на работу сакратароў парткомаў. У рэзерв для вылучэння на інструктара РК адбіраецца лепшая, найбольш актыўная частка сакратароў парткомаў. Лепшыя інструктары РК становяцца рэзервам на сакратароў РК. Такі прынцып стварэння рэзерва, вядома, не выключае, што ў рэзерв на інструктара можа быць вылучан цэхпарторг, або іншы актывіст раёна, растучы, правераны на практычнай рабоце. Перш чым вылучыць комуніста ў рэзерв, ён павінен быць добра праверан як з пункту погляду ўсіх аб'ектыўных даных, так з пункту погляду таго, як даны комуніст, намечаны для вылучэння ў рэзерв, змагаецца за генеральную лінію партыі, працуе над сваім палітычным ростам і забяспечвае выкананне задач, пастаўленых перад партарганізацыяй. Перад кожным вылучэннем комуніста ў рэзерв павінна праводзіцца асабістая гутарка сакратара РК, ГК з даным комуністам, усебаковае высвятленне сакратаром РК здольнасці данага комуніста пры адпаведнай падрыхтоўцы справіцца з работай, на якую данага комуніста мяркуецца вылучыць. Толькі пасля такой дасканалай праверкі і асабістай гутаркі сакратара РК і ГК, комуніст залічваецца ў рэзерв на пэўную работу (цэхпарторга, сакратара парткома і т. д.). Вылучаны рэзерв павінен быць РК і ГК узят на спецыяльны ўлік, у якім была-б адлюстравана ўся работа данага комуніста, рэзервіста, яго біяграфічныя даныя. Гэтыя біяграфічныя даныя на рэзервіста павінны сістэматычна папаўняцца данымі асабістага знаёмства сакратара РК, інструктара з работай рэзервіста, з тым, як ён удзельнічае ў партый-

ным жыцці, працуе над сваім палітычным ростам. Пасля залічэння комуніста ў рэзерв райком павінен арганізаваць сістэматычнае вывучэнне, нагляд і дапамогу рэзервісту ў яго рабоце.

Важнейшым элементам выхавання рэзервіста павінна з'явіцца яго прыцягненне да работы райкома, гаркома як шляхам дачы пастаяннай партыйнай нагрузкі (пазаштатны інструктар, парторг калгаса, прапагандыст і т. д.), або паасобныя заданні, як падрыхтоўка паасобных пытанняў на бюро, пасылка для правядзення пэўнай работы ў пярвічную партыйную арганізацыю, работа з комуністамі- адзіночкамі і т. д. Вывучаючы работу рэзервіста, райком (ці гарком) павінен забяспечыць яму канкрэтную дапамогу ў правядзенні той работы, якую яму партыя даручыла. Для гэтага на інструктара РК павінна быць ускладзена канкрэтная задача дапамогі пэўнай групе рэзервістаў, да якіх інструктар павінен быць прымацован. Для кожнага рэзервіста РК павінен скласці індывідуальны план работы па павышэнню палітычнага ўзроўню.

Індывідуальны план па павышэнню палітычнага узроўню рэзервіста павінен быць асабіста прагледжан сакратаром РК, а райком павінен прыняць рад практычных мерапрыемстваў па аказанню дапамогі рэзервісту ў выкананні ім індывідуальнага плана павышэння яго палітычнага ўзроўню. Райкомы павінны арганізаваць спецыяльныя гурткі для рэзервістаў па вывучэнню гісторыі партыі, ленінізма і т. д. Для гэтых таварышоў РК павінен паставіць спецыяльны курс лекцый па партыйнаму будаўніцтву, забяспечыць выпіску ім часопіса «Партийное строительство», «Большэвік Беларусі» і іншых часопісаў, якія асвятляюць вопыт партыйнай работы. Для ўцягнення найбольш растучых актыўных рэзервістаў у партыйную работу РК павінен практыкаваць прыцягненне паасобных таварышоў з рэзерва на паседжанні бюро РК, на нарады, склікаемыя РК.

Гэтыя таварышы павінны быць прыцягнуты да падрыхтоўкі правядзення партыйных дзён, палітдзён і т. д. Аднак, уцягненне рэзервістаў у актыўную практычную партыйную работу не павінна павесці да перагрузкі рэзервіста. РК і ГК павінны так арганізаваць работу рэзервіста, каб ён меў час для сістэматычнай сур'ёзнай работы над павышэннем свайго палітычнага ўзроўню.

РК і ГК павінны арганізаваць папаўненне рэзерва ў тых выпадках, калі рэзервіст будзе вылучан на кіруючую партыйную работу шляхам сістэматычнага вывучэння актыва і адбору лепшых і правераных актывістаў у рэзерв замест вылучаных на партыйную работу. Сістэматычнае сур'ёзнае вывучэнне рэзервістаў на практычнай рабоце, праверка таго, як ён выконвае партыйныя заданні, як працуе над сваім палітычным ростам павінна забяспечыць райкому своечасовы адвод з рэзерва тых комуністаў, якія не апраўдалі сябе на практычнай рабоце, паказалі сваю няздольнасць змагацца за ажыццяўленне генеральнай лініі партыі. Стварэнне рэзерва і яго выхаванне патрабуе сур'ёзнай, крапатлівай, удумчывай работы РК і ГК з кожным комуністам, вылучаным у рэзерв. Рэзерв павінен з'явіцца тым праверaным актывам, на які апіраецца райком, гарком пры правядзенні важнейшых палітычных кампаній. Але для таго, каб выкаваць моцны большэвіцкі рэзерв, РК і ГК павінны не фармальна, а на справе заняцца кожным актывістам, кожным рэзервістам, забяспечыўшы гэтым таварышам палітычны рост як на практычнай рабоце, так і арганізацыяй з гэтай групай таварышоў работы па іх узбраенню марксісцка-ленінскай тэорыяй.

## Як падрыхтаваць і правесці партыйны сход комуністаў-адзіночак

Калі правядзенне партыйнага сходу ў пярвічнай партыйнай арганізацыі з'яўляецца важнейшаю справай, якой павінна быць удзелена выключная ўвага, то тым больш гэта адносіцца да падрыхтоўкі і правядзення партыйнага сходу комуністаў-адзіночак, якія раскіданы на вялікай тэрыторыі, не маюць сістэматычнай сувязі з пярвічнай партыйнай арганізацыяй, не знаходзяцца пад штодзенным кантролем і ўплывам пярвічнай партыйнай арганізацыі. Рэгулярнае скліканне партыйнага сходу комуністаў-адзіночак павінна запоўніць той немінучы прабел, які ёсць у выхаванні комуніста-адзіночкі, дзякуючы яго адарванасці ад партыйнай арганізацыі. Тым часам гэта ў большасці выпадкаў забываецца. Райкомы падыходзяць да пытання падрыхтоўкі правядзення партыйнага сходу комуністаў-адзіночак фармальна. Раз у месяц комуністы-адзіночкі ўсяго раёна збіраюцца ў раённы цэнтр, дзе яны заслухоўваюць даклад на агульную тэму, прымаюць агульную рэзалюцыю і раз'язджаюцца да наступнага месяца.

Наколькі фармальна падыходзяць да гэтай важнейшай работы, відаць хоць-бы з таго, што нават тэрмін «партыйны сход» не прывіўся. Райкомы і гаркомы збіраюць не партыйны сход комуністаў-адзіночак, а нараду комуністаў-адзіночак. Да пытання аб правядзенні партыйнага сходу комуністаў-адзіночак райкомы і гаркомы павінны аднесціся, як да важнейшай часткі работы з комуністам-адзіночкай, бо ў залежнасці ад таго, як гэты сход будзе падрыхтаван і праведзен, будзе ва многім залежаць палітычны рост комуніста-адзіночкі.

Рашэнне пленума ЦК КП(б)Б абавязала РК і ГК збіраць партыйныя сходы комуністаў-адзіночак не па тэрытарыяльнаму а па вытворчаму прызнаку. Аднак, гэта рашэнне да гэтага часу ў жыццё не праводзіцца. Прычым асноўным матывам, які тут высоўваецца,—гэта тое, што ў маштабе інструктарскай зоны, групы комуністаў, працуючых у сельсоветах, соўгасах і т. д.—нязначныя, складаючы 5—6 чалавек, і што такі маленькі калектыў збіраць не варта. Гэтай зусім няправільнай пазіцыі павінен быць дан рашучы адпор, бо людзі, абараняючыя гэту пазіцыю, на справе не зразумелі зместу перабудовы партыйнай работы, не зразумелі таго, што ў цэнтры перабудовы павінен быць пастаўлен комуніст, работа па яго выхаванню. Нежаданне склікаць сходы комуністаў-адзіночак па вытворчаму прынцыпу з'яўляецца паказчыкам таго, як РК і ГК адмахваюцца ад штодзённай крапатлівай работы па выхаванню паасобнага комуніста, бо, вядома, лягчэй раз у месяц сабраць усіх комуністаў-адзіночак, чым сур'ёзна падрыхтаваць партыйны сход комуністаў-адзіночак па вытворчаму прынцыпу. Для таго, каб падрыхтаваць і правесці партдзень з комуністамі-адзіночкамі, неабходна, каб падрыхтоўка да гэтага партдня пачалася мінімум за 4—5 дзён да склікання партсходу комуністаў-адзіночак. Зусім зразумела, што адзін інструктар, улічваючы раскіданасць комуністаў-адзіночак на вялікай тэрыторыі, не ў стане сам забяспечыць падрыхтоўку і правядзенне партдня ў сваёй зоне. Райком, гарком павінны для правядзення партдня з комуністамі-адзіночкамі выдзеліць кожнаму інструктару 3—4 актывістаў, якія разам з інструктарам і пад яго кіраўніцтвам падрыхтавалі-б і правялі партыйны сход комуністаў-адзіночак.

Адным з важнейшых элементаў падрыхтоўкі партыйнага сходу комуністаў-адзіночак з'яўляецца выбар абвесткі дня. У падборы пытанняў, падлягаючых абгаварэнню на партыйным сходзе комуністаў-

адзіночак, павінны ўдзельнічаць самі комуністы-адзіночкі. Каб забяспечыць найбольш шырокі ўдзел комуністаў-адзіночак у падрыхтоўцы абвесткі партыйнага сходу, інструктар павінен строга вызначыць, хто з пераданага яму раённага актыва якую работу па падрыхтоўцы да партсходу будзе праводзіць. Аднаму павінна быць даручана падрыхтоўка і правядзенне партыйнага сходу комуністаў-адзіночак, якія працуюць у сельсоветах; другому—арганізацыя і правядзенне партсходу комуністаў-адзіночак, працуючых у калгасах і т. д. Размеркаваўшы паміж сабою такім чынам работу, інструктар і пераданыя яму таварышы аб'язджаюць усіх комуністаў-адзіночак і праводзяць з кожным комуністам-адзіночкай і беспартыйным актывам гутарку, выясняючы, якія пытанні ў даны момант з'яўляюцца для данай групы комуністаў-адзіночак найбольш актуальнымі і злобадзеннымі, якія пытанні на абгаварэнне партыйнага сходу высоўваюць самі комуністы-адзіночкі. Сабраўшы, такім чынам, пытанні, якія высоўваюцца комуністамі-адзіночкамі на абгаварэнне партыйнага сходу, інструктар выбірае з іх найбольш важныя, найбольш вострыя. Астатнія-ж пытанні, якія не патрабуюць абгаварэння на партыйным сходзе, інструктар вырашае аперацыйна праз совецкія, гаспадарчыя і іншыя арганізацыі. Выбраўшы пытанні для абгаварэння на партыйным сходзе комуністаў-адзіночак, інструктар даручае даклад па гэтаму пытанню таму комуністу-адзіночцы, які данае пытанне высунуў. Сам-жа інструктар разам з комуністам-адзіночкай—дакладчыкам на партыйным сходзе—падрыхтоўвае пытанне, дапамагаючы комуністу-адзіночцы падрыхтавацца к дакладу. Пра абвестку дня комуністы-адзіночкі павінны быць абвешчаны за 2—3 дні да сходу так сама, як і аб месцы і часе сходу, які павінен быць старанна прадуман, каб максімальна аблегчыць яўку комуніста-адзіночкі на партыйны сход. Паведамленне комуністаў-адзіночак пра абвестку дня, месца і час партыйнага сходу павінна суправаджацца падрыхтоўкаю комуністаў-адзіночак да партыйнага сходу. Інструктар павінен указаць кожнаму комуністу-адзіночцы, якую работу ён павінен правесці ў парадку падрыхтоўкі да партсходу, з якімі матар'яламі азнаёміцца.

Калі на партыйны сход комуністаў-адзіночак будзе пастаўлена самасправаздача комуніста-адзіночкі, то інструктар выдзяляе 2—3 комуністаў-адзіночак для вывучэння работы таго комуніста, які робіць справаздачу, з тым каб выдзеленыя для азнаямлення з работай комуніста-адзіночкі выступалі-б на партыйным сходзе з судакладамі аб яго рабоце. Інструктар абавязан асабіста дапамагчы выдзеленым для азнаямлення комуністам-адзіночкам у падрыхтоўцы іх судаклада на партыйным сходзе. Першым пунктам абвесткі партыйнага сходу павінна быць інфармацыя інструктара аб тым, якія пытанні былі высунуты комуністамі-адзіночкамі для абгаварэння на партыйным сходзе, як аперацыйна рэалізаваны пытанні, якія не падлягаюць абгаварэнню на партыйным сходзе і, нарэшце, як рэалізуюцца рашэнні, прынятыя папярэднім партыйным сходам.

На партыйным сходзе павінны быць забяспечаны выбары прэзідыума, запіс выступленняў і прапаноў, якія ўносяцца комуністамі-адзіночкамі, канкрэтнасць рашэнняў з абавязковым улікам прапаноў, якія ўносяцца комуністамі-адзіночкамі на партыйным сходзе.

Важнейшай задачай з'яўляецца арганізацыя кантролю за выкананнем прынятых партыйным сходам комуністаў- адзіночак рашэнняў. Гэту работу павінен узяць на сябе інструктар РК, які на падставе ра-

шэнняў, прынятых на агульным сходзе комуністаў-адзіночак, павінен дапамагчы кожнаму комуністу-адзіночцы скласці канкрэтны план—як і ў якія тэрміны рэалізаваць прынятыя на агульным сходзе рашэнні.

Станоўчыя вынікі ў радзе арганізацый дало скліканне спецыяльных сходаў комуністаў-адзіночак па пытанню праверкі таго, як выкананы комуністамі важнейшыя рашэнні папярэдняга сходу. Пры чым інструктар РК да партыйнага сходу арганізуе шырокае ўзаемаабследванне комуністаў-адзіночак, як імі рэалізаваны рашэнні папярэдняга сходу.

Такія партыйныя сходы маюць вялікае выхаваўчае значэнне, значна ўзнімаюць ролю партыйнага сходу, умацоўваюць дысцыпліну комуніста і ўцягваюць яго ў актыўную партыйную работу. Аднак, падрыхтоўка і правядзенне такога сходу патрабуе асобай стараннасці, асобай увагі.

У скліканні сходаў комуністаў-адзіночак неабходна дабіцца сістэматычнасці, не перагружаючы аднак комуністаў частымі сходамі. Падрыхтоўка і правядзенне партыйнага сходу комуністаў-адзіночак з'яўляецца важнаю і складанаю справай. Неабходна, каб РК і ГК падышлі да яе з найбольшай сур'ёзнасцю, мабілізавалі-б для гэтай работы раённы актыў, абавязкова падагульвалі, як прашоў кожны партдзень комуністаў-адзіночак. Сходы комуністаў-адзіночак не абавязкова праводзіць адначасова ва ўсім раёне. Неабходзен канкрэтны ўлік умоў работы кожнага калгаса, сельсовета і т. д. з тым, каб выбар часу забяспечыў-бы 100% удзел комуністаў-адзіночак у партыйным сходзе.

РК і ГК павінны зразумець асаблівую важнасць гэтай работы, не адмахвацца ад яе, а па-большэвіцку ўзяцца за яе арганізацыю, маючы на ўвазе, што правільна падрыхтаваны і праведзены партсход комуністаў-адзіночак з'яўляецца **важнейшым рычагом** у справе выхавання і вырошчвання партыйных кадраў.

## Прывесці ў парадак партыйную гаспадарку

Тав. Кагановіч у сваім дакладзе на XVII з'ездзе партыі з асаблівай сілай падкрэсліў, што «улік членаў партыі трэба паставіць з усёй строгасцю». Тым часам, стан уліку ў партарганізацыях КП(б)Б аказаўся настолькі запушчаным, што ўлік не толькі не дапамагае партыйнаму кіраўніцтву ў вывучэнні, падборы і вылучэнні партыйных кадраў, але часам няправільна арыентуе і затрудняе кіраўніцтва партарганізацыі. Такі стан уліку комуністаў з'яўляецца прамым вынікам ігнаравання парткіраўніцтвам пастаноўкі гэтай важнейшай галіны работы, неразуменне таго, што без правільна наладжанага ўліку складу комуністаў нельга правільна расставіць партыйныя кадры, нельга па-сур'ёзнаму ўзяцца за вывучэнне, падбор і вылучэнне партыйных кадраў.

Гаворачы аб павышэнні пільнасці, рад партыйных арганізацый не зразумелі таго, што правільная пастаноўка ўліку комуністаў, уважлівыя адносіны да хавання і выдачы партыйных дакументаў ёсць важнейшы элемент, які дае нам магчымасць выявіць і выкрыць чуждыя элементы, якія прабраліся ў партыю шляхам ашуканства, і што да пастаноўкі гэтай работы неабходна аднесціся з асаблівай уважлівасцю і сур'ёзнасцю. Лозунг—«кадры вырашаюць усё», даны т. Сталіным у сваім гістарычным выступленні на выпуску акадэмікаў Чырвонай арміі, указанне правадыра нашай партыі, што «толькі тыя кадры добрыя, якія не баяцца труднасцей, якія не хаваюцца ад труднасцей,

а наадварот—ідуць насустрач труднасцям для таго, каб перамагчы і ліквідаваць іх»—датычыць у першую чаргу нашых партыйных кадраў. Гэта ўказанне т. Сталіна, яго паспяховае выкананне патрабуе таго, каб партыйныя арганізацыі заняліся кожным чалавекам, акружылі-б нашы кадры ўвагай, заняліся крапатлівай работай па выхаванню комуністаў. Але гэта задача можа быць з поспехам вырашана толькі тады, калі мы будзем ведаць нашы кадры, іх сістэматычна вывучаць, ліквідуем факты бяздушна-бюракратычных адносін да работнікаў, калі замест таго, каб вывучаць людзей і толькі пасля вывучэння ставіць іх на пасты, нярэдка кідаюцца людзьмі, як пешкамі.

Правільна пастаўлены ўлік заклікан у дапамогу партыйнай арганізацыі ў вырашэнні гэтай важнейшай задачы. Адным з важнейшых уліковых дакументаў з'яўляецца асабовая картка комуніста. І ад таго, як гэта картка вядзецца, як яна захоўваецца, залежыць многае ў правільнай пастаноўцы ўліку. Асноўнаю задачай уліку з'яўляецца тое, каб асабовая картка комуніста правільна адлюстроўвала даныя аб жывым чалавеку, адлюстроўвала-б рух комуніста па рабоце, па вучобе, атрыманыя ім спагнанні ад партыйнай арганізацыі і т. д. Улік павінен правільна адлюстроўваць колькасны і якасны стан партыйнай арганізацыі, яе рух і змены. Для гэтага РК, ГК павінны дабіцца таго, каб пярвічныя партыйныя арганізацыі і асабіста сакратар парткома дакладна ўлічвалі-б усякую змену ў даных комуніста, неадкладна ўносілі яе як у арыгіналы ўліковых картак, так і ў копіі, якія захоўваюцца ў пярвічнай партыйнай арганізацыі.

Неабходна ўстанавіць парадак, пры якім сакратар парткома, парторг нясуць партыйную адказнасць перад ГК і РК за несвоечасовую інфармацыю ГК і РК аб змене ў даных комуніста, за несвоечасовае ўнясенне гэтых змен ва ўліковую картку. Не менш разу ў месяц РК і ГК разам з сакратарамі пярвічных партыйных арганізацый павінны рабіць прагляд усіх картак і зверку адпаведнасці даных уліковых картак з данымі аб комуністах. Вынікі штомесячнай зверкі павінны быць абгавораны на бюро РК і ГК і ў рэзультаце ва ўліковыя карткі комуністаў павінны быць унесены выяўленыя змены.

Адсутнасць сістэматычнай праверкі ўліковых даных і дакладнага нагляду за тым, каб даныя ўліковыя карткі адлюстроўвалі сапраўдныя даныя аб комуністе, наша часам злачынная неахайнасць у праверцы комуніста, у пастаноўцы ўліку прыводзіць часта к таму, што класава-чуждыя, варожыя нам элементы атрымліваюць магчымасць выкарыстаць партыйныя дакументы ў сваіх контррэволюцыйных кар'ерысцкіх мэтах.

Нядаўна ў Оршы арыштован аферыст Шумячэр, які, дзякуючы адсутнасці пільнасці ў Горацкай арганізацыі, пралез у партыю і атрымаў кандыдацкую картку. Гэты аферыст, дзякуючы злачыннай нядбайнасці оршанскага РК, адарваўшы вугал карткі і ўнёсшы сам папраўкі ў яе, атрымаў па ложнай аб'яве ў газеце партбілет і толькі праз значны час быў выкрыт і асуджан за падробку дакументаў.

Праверкай, якая праводзілася АКПО ЦК КП(б)Б, устаноўлена, што ў партарганізацыі Бел'ДРЭС па 48 уліковых картках ёсць рад пытанняў, якія патрабуюць неадкладнага расследвання. Так, напрыклад: не наклеены маркі на 3 картках, не адзначан партстаж на 3 картках, выпраўлен партстаж на 2 картках, разыходжанне ў нумарах партбілетаў у картцы і партбілеце, разыходжанне імя, прозвішча і т. д. і т. п.

Такія факты мы маем абсалютна па ўсіх партарганізацыях КП(б)Б. Усе гэтыя факты могуць мець месца толькі таму, што ў партарганізацыях мелася недаацэнка важнасці пастаноўкі ўліковай работы, а часам злачынна-нядбайныя адносіны да важнейшага ўчастку партыйнай работы.

Партыйныя арганізацыі павінны ліквідаваць практыку, калі асабовыя карткі выехаўшых з арганізацыі комуністаў высылаюцца РК і ГК па месцу работы. Каб зняцца з уліку, комуніст павінен асабіста з'явіцца ў РК і ГК. Усякае зняцце з уліку павінна праводзіцца райкомам і гаркомам толькі пасля рашэння парткома, пярвічнай партыйнай арганізацыі. Такі-ж парадак павінен быць устаноўлен і пры ўзяцці на ўлік комуніста. Комуніст, каб ўзяцца на ўлік, павінен асабіста з'явіцца ў РК і ГК, атрымаць афіцыяльнае накіраванне ў пярвічную арганізацыю. Пярвічная арганізацыя, атрымаўшы накіраванне РК і ГК, павінна паставіць пытанне аб узяцці на ўлік комуніста ў партыйным камітэце, інфармаваць партком аб новапрыбыўшым у партарганізацыю таварышу. Сакратар пярвічнай партарганізацыі павінен асабіста гутарыць з кожным новапрыбываючым комуністам перш, чым ставіць пытанне на парткоме. Сакратары пярвічных партыйных арганізацый павінны несці партыйную адказнасць за прынящце на ўлік комуніста без накіравання РК і ГК, за зняцце з уліку комуніста без рашэння парткома.

Тэхніка пастаноўкі ўліку мае важнейшае значэнне. Тэхнічна правільна пастаўлены ўлік аблягчае партарганізацыі вывучэнне комуністаў. Тым часам, у нас іншы раз тэхніка ўліку ігнаруецца. Гэта, бяспрэчна, з'яўляецца меншавіцкай адрыжкай у арганізацыйна-партыйнай рабоце. РК і ГК павінны забяспечыць, каб месца, дзе хаваюцца ўліковыя карткі, адпавядала патрабаванням тэхнікі ўліку. Кожная пярвічная партыйная арганізацыя павінна мець асобы яшчык у шафе, унутры кожнай пярвічнай арганізацыі ўліковыя карткі павінны быць раскладзены па алфавіту, павінны быць спецыяльныя яшчыкі для картак новапрыбыўшых у арганізацыю і выбыўшых з арганізацыі. Шафа, дзе хаваюцца ўліковыя карткі, павінна пасля работы запячатвацца.

Неабходна з выключнаю ўвагай падыйсці да падбору ўчотчыкаў. Неабходна ўлічыць, што ўчотчык—гэта не толькі тэхнік, а што ўчотчык выконвае важнейшую партыйную работу, займаючыся штодзенным вывучэннем комуністаў, дапамагаючы партарганізацыі і ў канкрэтным вывучэнні кожнага чалавека.

Асаблівая ўвага павінна быць удзелена выдачы комуністу партбілета ў выпадку згублення комуністам партбілета або пераводу кандыдата ў члены партыі. Уручэнне комуністу партбілета ёсць важнейшы акт афармлення данага таварыша у радах вялікай партыі Леніна—Сталіна. Уручэннем партбілета, афармленнем у радах партыі аказваецца велізарнейшае давер'е, і перш чым даны таварыш будзе афармлен, перш чым яму будзе ўручан партбілет, перш чым яму будзе выражана гэта велізарнейшае давер'е, ён павінен быць старанна праверан, каб не заставалася ніякага сумнення ў тым, ці варты ён насіць вялікае званне члена большэвіцкай партыі. Партбілет павінен быць уручан комуністу асабіста сакратаром РК або ГК, пры чым гэта—не фармальнае ўручэнне, а важнейшая партыйная справа, важнейшы момант у жыцці. Аднак, гэтага ў нас усё яшчэ няма. Комуніст атрымлівае партбілет у трэцяступеннага працаўніка

апарата, з комуністам пры ўручэнні партбілета не гутараць і такім чынам па сутнасці змазваюць гэту важнейшую работу.

Побач з пастаноўкаю ўліку комуністаў ГК і РК павінны зараз-жа заняцца прывядзеннем у парадак партыйных дакументаў і, галоўным чынам, пратаколаў бюро і пленумаў РК і ГК КП(б)Б.

Пратаколы ГК і РК КП(б)Б ёсць важнейшы дакумент. Рашэнне ГК і РК—гэта дакумент, па якому вучыцца і працуе партыйная арганізацыя. Тым часам, да афармлення гэтых дакументаў, да фармулёўкі сваіх рашэнняў, на якіх выхоўваецца партарганізацыя, ГК і РК падыходзяць выключна нядбайна. Каб бачыць, наколькі нядбайна падыходзіць РК да фармулёўкі і рэдагавання сваіх рашэнняў, даволі прывесці рашэнне бюро Бешанковіцкага РК па дакладу раду парторгаў калгасаў ад 17/XII-34 г. Па дакладу гэтых парторгаў бюро прымае наступнае рашэнне: «Прызнаць, што ў рэзультаце штодзённай работы ў калгасе, ёсць значныя зрухі ў арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў, палепшанні матар'яльнага становішча калгаснікаў. Наяўныя поспехі ў калгасах гавораць аб **недастатковай** (?) палітыкамасавай выхаваўчай рабоце сярод калгаснікаў у брыгадах.» Патрыкаўскі РК 24/IV, слухаючы дакладную запіску інструктара РК т. Такленко, канстатаваўшы, што Такленко не давёў да канца пытання аб выяўленні контррэволюцыйнага трацкіста Казякіна, піша, што «усё гэта сведчыць аб палітычнай **завостранасці** (?) і наяўнасці фактаў прытуплення рэволюцыйнай пільнасці, за што аб'явіць такому-то таварышу вымову». Рашэнне бязграматнае. Не можа быць, што па факту недавядзення да канца пытання аб контррэволюцыйным трацкісце, т. Такленко ў адзін і той-жа час ставіў пытанні палітычна завострана і аказаўся комуністам з прытупленай пільнасцю.

Гэтыя факты можна было-б умножыць. Зусім відавочна, што такія рашэнні не могуць мабілізаваць партарганізацыю, на іх партарганізацыя вучыцца не можа. Побач з фактамі нядбайных адносін да афармлення сваіх рашэнняў, якія прыводзяць часам да палітычна памылковых рашэнняў, ГК і РК зусім не звярачаюць увагі на парадак хавання сваіх рашэнняў. Каб знайсці рашэнне РК, трэба патраціць шмат часу. Доступ к партыйным дакументам не абмяжован, што часам аблягчае класава-варожым элементам выкарыстанне гэтых партыйных дакументаў у сваіх контррэволюцыйных мэтах.

Прывядзенне ў парадак уліку комуністаў, выдачы партбілетаў, афармленне і хаванне партыйных дакументаў, увогуле наладжванне партыйнай гаспадаркі з'яўляецца адным з важнейшых пытанняў партыйнай работы ГК і РК павінны забяспечыць такую пастаноўку работы, каб яна дапамагала разгортванню ўсёй партыйнай работы, пастаноўцы работы па вырошчванню і вылучэнню партыйных кадраў.

---

Г. Касцюковіч

# Там, дзе партыйнае жыццё ў загоне

*(аб рабоце партарганізацыі Дзяржплана БССР)*

Большэвіцкае планаванне, як і ўсякі іншы ўчастак соцыялістычнага будаўніцтва, з'яўляецца арэнай жорсткай класавай барацьбы. І невыпадкова гэта, бо за кожным разлікам, за кожнаю калонкай лічбаў нашых планаў заўсёды стаяць класавыя інтарэсы. За гэтыя лічбы і вакол іх класава-варожыя элементы заўжды разгортвалі шалёную барацьбу. Партыі вядомы шкоднікі, правыя апартуністы і контррэволюцыйныя трацкісты, якія ў распрацоўцы планаў бралі арыентацыю на рэстаўрацыю капіталізма.

Партыя пад кіраўніцтвам тав. Сталіна рашуча разграміла шкоднікаў, апартуністаў і контррэволюцыянераў з іх спробаміператварыць нашы планы ў прыдатак дробна-буржуазнай стыхіі. Партыя дала рашучы адпор тым, хто спрабаваў паставіць нашы планы на службу рэстаўрацыі капіталізма ў нашай краіне. У барацьбе з імі партыя значна ўзмацніла ролю плана, як моцнай зброі дыктатуры пролетарыята, як дырэктывы пролетарскай дзяржавы.

Планы пры дыктатуры пролетарыята, паводле меткага азначэння тав. Сталіна:

> «Ёсць не планы-прагнозы, не планы-дагадкі, а планы-дырэктывы, якія абавязковы для кіруючых органаў і якія вызначаюць напрамак нашага будаўніцтва ў будучым маштабе ўсёй краіны».

Пад кіраўніцтвам т. Сталіна за гады першай большэвіцкай пяцігодкі наша краіна дабілася велізарнейшых дасягненняў, роўных якім няма і быць не можа ў капіталістычным свеце.

За гады першай пяцігодкі рабочы клас пад кіраўніцтвам партыі стварыў усе прадпасылкі і моцную базу для паспяховай рэалізацыі другога пяцігадовага плана, плана пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадства.

Сістэма планавых органаў, армія планавых работнікаў і ў першую чаргу партарганізацыі планавых органаў нясуць вялікую адказнасць за паспяховае вырашэнне гістарычных задач другой пяцігодкі. Патрэбна канкрэтная, выключна чоткая і высокаякасная арганізацыя работы планавых органаў, рашучае выкарчоўванне канцэлярска-бюракратычных метадаў планавання, рашучая барацьба з усякага роду спробамі працягнуць праз план небольшэвіцкія арыентыроўкі, барацьба за чыстату генеральнай лініі ў пытаннях плана.

Перад сістэмай планавых органаў паўстае адказная задача—паднязць узровень планавання да ўзроўню палітычных і гаспадарчых задач другой пяцігодкі. Пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б нашы плануючыя арганізацыі дабіліся ў сваёй рабоце вялікіх дасягненняў. Канкрэтнае кіраўніцтва ЦК КП(б)Б справай планавання народнай гаспадаркі, барацьба за рэалізацыю планаў, ператварэнне іх у жыццё забяспечылі велізарныя дасягненні БССР у справе соцыялістычнага будаўніцтва.

Агромныя задачы, якія ставіць партыя перад органамі планавання народнай гаспадаркі наогул, а тым больш на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, неабходнасць рашуча пакончыць з трацкісцкімі і нацдэмаўскімі шкодніцкімі спробамі скажэння нашых планаў, што асабліва праяўлялася ў перыяд работы **Галендо** ў Дзяржплане,—абавязваюць нас удзяліць максімальную ўвагу рабоце планавых органаў, пытанню стварэння кадраў планавікоў.

* * *

У пярвічнай партарганізацыі Дзяржплана Беларусі—21 комуніст і 2 кандыдаты. На сходах і ў гуртках прапрацоўваліся рашэнні XVII партз'езда і нават праведзена праверка таго, у якой ступені засвоіў іх кожны член партыі. Аднак, работа гэта праведзена фармальна. За ўвесь 1934 год партком выгадаў час толькі для аднаго тав. Харытонава. Заслухаўшы індывідуальную справаздачу Харытонава і ўстанавіўшы, што ў яго рабоце не было сістэмы, чоткасці і якасці, што ён над сабой не працаваў, партком не паклапаціўся выясніць прычыны і нават не палічыў патрэбным дапамагчы яму выправіць недахопы.

Гэта адзіны выпадак, калі партком, хоць і няўдала, займаўся сваёй работай, у большасці-ж ён падменьваў ролю кіраўнікоў Дзяржплана.

З расхлябанасцю ў апараце партком змагаўся загадамі, не выяўляючы канкрэтных носьбітаў гэтага зла. Па інфармацыі начальнікаў кіраўніцтва аб выкананні плана работы за 1 кв. партком пастанавіў:

«Прапанаваць начальнікам усіх сектароў да 31 сакавіка скласці планы работы на II квартал, паклаўшы ў аснову іх пытанні, звязаныя з прапрацоўкай 2-й пяцігодкі...»

Не выясніўшы і не ведаючы сапраўдных прычын зрыву работы за IV квартал 1934 г., партком абавязаў:

«Начальнікаў сектароў, МК і бюро ячэйкі ІТР шырока абгаварыць вынікі работы над планам IV квартала і вызначыць канкрэтныя мерапрыемствы па ліквідацыі адзначаных недахопаў і павышэнню якасці работы над планам».

Захапіўшыся адміністраваннем, партком стаў на шлях непасрэднай падмены кіраўніцтва, што відаць з яго наступнага рашэння:

«Выходзячы з таго, што пастанова СНК БССР аб прадстаўленні наркаматамі матар'ялаў да плана 1935 года ў Дзяржплане к 5/X сарвана, даручыць тав. Чорнаму паставіць аб гэтым пытанне ў СНК.

Прапанаваць усім начальнікам сектароў і кіраўніцтваў прыняць меры да паступлення і прапрацоўкі матар'ялаў наркаматаў і т. д.».

Партком узяўся за такія пытанні, якія маглі разглядацца толькі ў кіруючых совецкіх органах. Партком па сутнасці быў адарваны ад членаў партыі. Яго дырэктывы і ўказанні даходзілі да членаў партыі праз начальнікаў сектароў і кіраўніцтваў. Такою сістэмай работы партком падмяніў сабою прэзідыум Дзяржплана, пераняўшы стыль і характар яго пастаноў.

Партком не займаўся ідэйным узбраеннем членаў партыі, не вёў «агітацыйнай і арганізацыйнай работы ў масах за партыйныя лозунгі і рашэнні» (з статута партыі). Партком не зразумеў усёй важнасці партыйнага дня, падрыхтоўкі і ўдзелу ў ім членаў партыі, не ўсвядоміў указання тав. Кагановіча, што:

> «Комуністы, збіраючыся ў вызначаны дзень, накіроўваюць лепшае, што ў іх ёсць,—свае думкі, прапановы на вырашэнне вызначаных пытанняў... Падрыхтоўка такога дня—святая справа».

Адзін толькі раз партком заслухаў на сваім паседжанні пытанне аб партдні. Паколькі гэта было 5 сакавіка, а партдзень прызначан быў на 7-е, то вынік атрымаўся такі:

> «З прычыны недастатковай прапрацоўкі пытання і непадрыхтаванасці прысутных сход перанесці на другі дзень» (пастанова агульнага сходу па прапрацоўцы даклада тав. Кагановіча).

Гэта абсалютна правільнае рашэнне партком не ўлічыў і памылкі сваёй не выправіў.

Паседжанні парткома часта ператвараліся ў сходы, 29/І з быўшых у той час у партарганізацыі 13 членаў і кандыдатаў партыі на паседжанні парткома прысутнічала 12 чалавек, а на сходзе 2/ІІ (праз тры дні пасля парткома)—11 чалавек; 5-V на парткоме—9 чалавек, а на сходзе 7/V—13 чалавек і т. д.

Для павышэння ідэйнай узброенасці членаў партыі і засваення імі асноў марксізма-ленінізма партком стварыў гурток павышанага і палітгурток паніжанага тыпу. Але бяда ў тым, што вучоба не пастаўлена на прынцыповую вышыню, не ўлічаны інтарэсы і ўзровень паасобных членаў партыі, а галоўнае—няма кантролю, няма належнай увагі да работы гуртка. Гурток павышанага тыпу налічвае 38 чалавек. Сярод іх 16 з вышэйшай адукацыяй, 6 таварышоў зусім не наведваюць заняткаў, 5 бываюць вельмі рэдка. Але горш за ўсё тое, што на заняткі прыходзяць абсалютна непадрыхтаванымі.

На занятках 28 снежня ўдзельнікі гуртка паказалі сваю непадрыхтаванасць і поўнае няведанне рашэнняў XVII партз'езда. Ніхто толкам не мог вытлумачыць розніцы паміж сельскагаспадарчай арцеллю і комунай. Цікава, што ні ў аднаго з удзельнікаў заняткаў не было кнігі з дакладам тав. Сталіна.

Вучоба ў гуртках строга ізалявана ад непасрэднай работы Дзяржплана, яго матар'ялы не ўвязаны з палітычнымі заданнямі. У гуртках пануе школьная форма работы.

Усё гэта не магло не адбіцца на прытупленасці большэвіцкай пільнасці, на палітычным ўзроўні членаў партыі. Партком, звязваючыся з членамі партыі праз начальнікаў сектароў і не маючы парторгаў, не мог вывучаць і ведаць асабовы склад апарата і ў першую чаргу комуністаў. Такая пастаноўка справы ў партарганізацыі Дзяржплана прывяла к таму, што трацкіст Галендо больш года змог спакойна

праводзіць сваю контррэволюцыйную работу ў галіне планавання, што прапрацоўваемы апаратам план часта не толькі не адлюстроўваў лініі партыі, дырэктыў XVII з'езда, але ў пэўнай меры яўна вырысоўваў лінію контррэволюцыйных трацкістаў і апартуністаў. Не заўважыць гэтага—значыць страціць усякую здольнасць па-бальшэвіцку рэагаваць на скажэнні дырэктыў партыі і ўказанні тав. Сталіна. Тым больш, што ў Галендо не раз праяўляліся рэцыдывы контррэволюцыйнага трацкізма, адрыў ад партыйнага жыцця, ад работы, саноўна-панскія адносіны да людзей, у тым ліку і да працаўнікоў апарата. На парткоме ніхто з комуністаў апарата не паставіў пытання аб Галендо, як члене партыі, не выкрыў яго контррэволюцыйны трацкісцкі твар.

Прытупленне пільнасці ясна выявілася і ў тым, што на работу ў апараце Дзяржплана лёгка мог паступіць кожны напісаўшы заяву, для гэтага зусім не патрабавалася якіх-небудзь дакументаў.

Вось партрэты некаторых такіх «спецыялістаў»:

Рабіновіч—сын гандляра канцэлярскімі прыладамі і саўдзельнік папяровага прадпрыемства да 1926 г., па спецыяльнасці бухгалтар. Працаваў у Наркамгасе, але выгналі за рвацтва. У Дзяржплан прынялі ў лістападзе 1934 года па заяве без усякіх даведак, і ўжо не бухгалтарам, а старшым эканамістам з акладам 400 руб. замест 350, якія ён меў у Наркамгасе.

Саенко—працуе інжынерам у кіраўніцтве матар'яльных фондаў. Да гэтага працаваў у кіраўніцтве Дома ўрада і Белжылсаюзе. Знят з работы, як непадрыхтаваны інжынер, скончыўшы толькі курсы па перакваліфікацыі тэхнікаў у інжынеры. Саенко ўсё-ж працуе ў Дзяржплане інжынерам, не маючы гэтага звання. Ён дапусціў несумяшчальны са званнем совецкага спецыяліста ўчынак, прысвоіўшы работу інжынера Бабіча (закрэсліў подпіс Бабіча і паставіў сваё прозвішча). Сам склаў праект гаража, на што як работнік Дзяржплана не меў права, па гэтаму-ж праекту даў заключэнне ад Дзяржплана, а Галендо зацвердзіў. Мінулае Саенко таксама не праверана (у 1919-20 гг. быў у Кіеве і ў Крыме ў белых).

За апошнія два месяцы ў апарат прынята 12 чалавек, з іх прадставілі дакументы 5 чалавек, а астатнія прыняты па адных заявах.

Падбор кадраў у Дзяржплане—абязлічаны ўчастак, ім займаюцца ўсе і ў той-жа час ніхто. Прымаюць людзей у апарат з ведама і без ведама начальніка кіраўніцтва, старшыні або яго намесніка.

У рабоце Дзяржплана пануе паўнейшая безадказнасць. Справы заблытаны так, што нельга знайсці першакрыніцу, ці асобу, якая прапрацоўвала пытанне. Калі паўстане пытанне аб адказнасці таго ці іншага работніка за дрэнна і антыпартыйна выкананую справу, ён зараз-жа адказвае, што гэта, моў, «варыянт» і пры тым «варыянт» № 1, а потым будзе варыянт 2, 3 і так бясконца. Усё гэтыя «варыянты» звычайна не падпісваюцца.

Нярэдкі выпадкі, калі сектар пасылае ў СНК матар'ял без ведама кіраўніцтва, якое, даведаўшыся, пасылае ад сябе ўздагон новы варыянт, не папярэдзіўшы аб гэтым сектар, паслаўшы першы варыянт.

Возьмем прыклады. Прамысловае кіраўніцтва распрацавала і ад сябе паслала ў СНК на зацверджанне план прамысловасці БССР на 1935 год, дзе прадугледжваўся рост прадукцыі ў параўнанні з 1934 годам на 6%, тым часам як па дырэктыве СНК БССР ён па-

вінен быць 8,9%, Зводна-планавы сектар, даведаўшыся пра гэта, пасылае за подпісам Чорнага другі варыянт у адмену першага і папраўляе рост на 8,9%, але аб гэтым не ведае Промкіраўніцтва.

Або такі прыклад. У працэсе работы выявілася, што вытворчасць сілікатаў на 1934 год запланавана больш фактычнай патрэбнасці. Калі Промкіраўніцтва паставіла пытанне аб пераглядзе плана, нам. старшыні Дзяржплана Чорны і нач. зводна-планавага сектара Чудноўскі катэгарычна запярэчылі і забаранілі па гэтаму пытанню гаварыць. Праз два месяцы той-жа Чудноўскі і Чорны, не папярэдзіўшы Промкіраўніцтва, уваходзяць у СНК з прапановай перагледзець план вытворчасці сілікатаў.

На такую сістэму работы і нездаровых ўзаемаадносін унутры апарата партком не звярнуў увагі. Гэта заблытанасць работы, безадказнасць за «варыянты» ўведзены былі трацкістам Галендо для таго, каб не так лёгка можна было выявіць і выкрыць яго. Гэтага не бачылі ні партком, ні члены партыі, ні кіраўнікі паасобных участкаў Дзяржплана (Касцюкевіч, Валасевіч, Панкоў, Пінскі, Штыфман і інш.). Не бачылі таму, што не клапаціліся аб ідэйным ўзбраенні членаў партыі, прытупілі сваю партыйную і класавую пільнасць. А ў выніку трацкіст Галендо мог доўгі час праводзіць сваю антыпартыйную контррэвалюцыйную работу, дапускаючы ў апарат Дзяржплана чужых нам людзей, не маючых ніякіх адносін да планавай работы.

Пры такой пастаноўцы партмасавай работы, пры засмечанасці апарата і прытупленні класавай пільнасці справа планавання знаходзілася ў ненадзейных руках.

Узяць, напрыклад, планаванне прамысловасці.

Тав. Сталін у сваім дакладзе на XVII з'ездзе ўказаў:

> 6) «Разгарнуць вытворчасць тавараў шырокага спажывання па ўсіх гаспадарчых наркаматах.
>
> 7) Развязаць мясцовую совецкую прамысловасць, даць ёй магчымасць праявіць ініцыятыву ў справе вытворчасці тавараў шырспажыву і аказаць ёй магчымую дапамогу сыравінай і сродкамі».

Гэта канкрэтная задача ўжо ў другім квартале 1934 года была практычна праведзена ў жыццё саюзным урадам. 1 чэрвеня СНК СССР канчаткова вызначыў для Беларусі суму капітальных затрат у 4.240 тыс. руб. з тым, каб атрымаць дадаткова прадукцыі на 3.500 тыс. руб.

На справе аказалася, што 4.240 тыс. руб. не былі скарыстаны па прамому прызначэнню, і дырэктыва XVII з'езда аб праяўленні мясцовай прамысловасцю ініцыятывы ў справе выпуску дадатковай прадукцыі шырспажыву засталася нявыкананай выключна па віне Дзяржплана і ў першую чаргу трацкіста Галендо і блытаніка Чорнага.

І невыпадкова гэта. Дзяржплан у практыцы сваёй работы заняў яўную пазіцыю ігнаравання развіцця галін прамысловасці на мясцовай сыравіне, а значыць—ігнаравання дырэктыў XVII з'езда партыі і вынікаючых з іх указанняў ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб плане 2-й пяцігодкі:

> «Развіццё прамысловасці ў БССР павінна забяспечыць няўхільнае павышэнне яе вядучай ролі ў соцыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі і спецыялізацыю прамысловасці БССР у народна-гаспадарчым комплексе ўсяго Совецкага саюза.

У адпаведнасці з гэтым асабліва інтэнсіўна павінны развівацца вядучыя, ва ўмовах БССР, галіны прамысловасці, у першую чаргу, тыя, якія базуюцца на мясцовай сыравіне (хімічная прамысловасць, тарфяная, металаапрацоўчая, будматар'ялы, ільнапенька-тэкстыльная прамысловасць і прамысловасць па перапрацоўцы прадуктаў сельскай гаспадаркі)».

Гэтае зусім яснае ўказанне партыі было завуалявана апаратам Дзяржплана ў першых варыянтах такім чынам, што на пярэдні план высоўвалася задача развіцця швейнай прамысловасці, вакол якой сканцэнтравана была ўся ўвага, вяліся спрэчкі аб сыравіне, тэмпах і т. д. Безумоўна, што гэтая галіна прамысловасці, якая займае звыш 30% у выкананні плана па кошту прадукцыі і базуецца галоўным чынам на завезенай сыравіне, павінна прыкаваць да сябе нашу ўвагу, але ні ў якім разе не затушоўваць ролю і значэнне прамысловасці на мясцовай сыравіне. Наша задача—і яна павінна быць асноўнай у рабоце Дзяржплана—даць шырокую перспектыву развіццю прамысловасці (а таксама шырспажыву) на мясцовай сыравіне: будматар'ялаў, шкляной, торфахімічнай і т. д.

Дзяржплан не толькі не зразумеў палітычнай сутнасці гэтай задачы, але паказаў твар апартуністаў, якія спрабавалі аўтаматычна перанесці тэмпы і аб'ём развіцця прамысловасці на мясцовай сыравіне на прамысловасць, якая карыстаецца сыравінай прывознай.

Не жадаючы бачыць розніцы паміж галінамі прамысловасці, якія працуюць на мясцовай і прывознай сыравіне. Дзяржплан сваімі прагнозамі не раз прадказваў зрыў планаў па мясцовай прамысловасці. Ён не хацеў згадзіцца з магчымасцю загрузіць прадпрыемствы неабходнаю сыравінай, не хацеў згадзіцца з тым, што план ёсць канцэнтраваная воля мільёнаў працоўных, невычэрпная энергія якіх ператварае план ў нашу рэчаіснасць. Ён з першага квартала 1934 г. не ўпэўнен быў у выкананні плана, аб чым гавораць факты:

| Галіна прамысловасці | Гадавы план у тысяч. руб., прыняты ўрадам | Фактычнае выканан. за першае паўгоддзе | Чэркаваласі вык. за год (лічбы па асн. прагно аў Дзяржплана ўжо ў III кварт) | Або ў процантах | На самай справе план выканан на | Або ў процантах |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Будаматар'ялаў . . | 3473,7 | 1398,3 | 3377,1 | 94,0 | 3561,9 | 102,6 |
| Шкляная . . . . | 9,473 | 4.422 | 8.806 | 97,0 | 9346,7 | 99,0 |
| Баваўн.-папяров. . | 4.000 | 1.840 | 3.788 | 94.7 | 4.040 | 101,0 |
| Рыбная. . . . . | 832,2 | 324,2 | 823,4 | 99,0 | 845.6 | 101.6 |
| Шарсцяная . . . | 1.150 | 583 | 1.103 | 96,0 | 1159,2 | 100,8 |
| Уся прам. БССР. . | 330832 | — | 301400 | 91,3 | 308400 | 93,4 |

На падставе такіх «прагнозаў» Дзяржплан і будаваў квартальныя планы прамысловасці, якія далёка разыходзіліся з планам, прынятым урадам на 1934 год:

| Галіны прамысловасці | Гадавы план, прыняты ўрадам на 1934 г. (у тыс. руб.) | План на 1934 г., які атрымліваецца ў рэзультаце складання сум кварт. планаў, намечаных Дзяржпланам | Разыходжанні ў бок змяншэння на: |
|---|---|---|---|
| 1. Торф . . . . | 6.162 | 6.048 | 114 |
| 2. Шкляная . . . | 9.443 | 9 005 | |
| | | 1 кв. 2.356 | |
| | | 2 кв. 2.203 | |
| | | 3 кв. 1.922 | |
| | | 4 кв. 2.524 | |
| 3. Скур.-абутковая · | 48.100 | 45 235 | 2.865 |
| | | 1 кв. 12 460 | |
| | | 2 кв. 12 425 | |
| | | 3 кв. 9 250 | |
| | | 4 кв. 11.100 | |
| 4. Галантарэйная . . | 5.500 | 4 550 | 950 |
| 5. Макаронная . . . | 3.545 | 3.462 | 83 |
| 6. Баваўн.-папяров. . | 4.000 | 3.961 | 39 |
| 7. Швейная . . . | 117 340 | 105.806 | 11.534 |
| | | 1 кв. 26.400 | |
| | | 2 кв. 24.276 | |
| | | 3 кв. 27.360 | |
| | | 4 кв. 27.770 | |

Адсюль становяцца яснымі прычыны зніжэння плана прадукцыі прамысловасці і на 1935 г. Дзяржплан чакаў, што план 1934 г. будзе выканан у размеры 301,4 млн. руб. Выходзячы з гэтай зніжанай лічбы, Дзяржплан вызначыў рост прадукцыі прамысловасці на 6,6% або 327,8 млн., які ўстаноўлен для БССР саюзным урадам. На справе-ж план выканан на 308,4 млн. Значыць 8,9% павінны складаць план 335,8 млн., а не 329,5 так званых «канчаткова» прынятых Дзяржпланам.

Гэтай спробе апартуністаў з Дзяржплана навязаць мінімальны выпуск тавараў шырспажыву, не маючы нічога агульнага з рашэннямі XVII з'езда партыі, партарганізацыя Дзяржплана не дала бальшэвіцкага адпору.

Калі-ж узяць паасобныя галіны прамысловасці і ў прыватнасці галіны, якія выпускаюць тавары шырокага спажывання, дык тут Дзяржплан зрабіў наступныя наметкі *):

| Галіны прамысловасці | Выпушчана прадукцыі (у млн. руб.) у параўнанні з 1932 г. | | | Запланавана на 1935 г. |
|---|---|---|---|---|
| | у 1932 г. | у 1933 г. | у 1934 г. | |
| Абутковая . . . . . | 26,5 | 24,13 | 19,83 | 19,42 |
| У % % да 32 г. . . . | 100 | 91,1 | 74,8 | 73,3 |
| Шарсцяная . . . . . | 1,28 | 1,28 | 1,16 | 1,1 . |
| Швейная . . . . . | 142,6 | 110,3 | 103,0 | 104,15 |
| У % % да 32 г. . . . . | 100 | 77,4 | 72,3 | 73 |

Такім чынам спроба Дзяржплана запланаваць на 1935 год паніжаныя лічбы па шырспажыву і той факт, што ў плане недастаткова выпячана была торфахімічная прамысловасць, якая мае агромныя перспектывы ў БССР, не было чоткай установкі ў металаапрацоўцы, вяліся гутаркі аб адсутнасці сыравіны і т. д.—усё гэта паказвае наяўны факт простага ігнаравання канкрэтных указанняў XVII з'езда партыі аб лепшым скарыстанні сыравіны.

Апартунізм Дзяржплана сказаўся не толькі ў вызначэнні выпуску прадукцыі, але і ў росце прадукцыйнасці працы. СНК СССР, разглядаючы пытанне аб плане на 1935 год, вызначыў для БССР рост прадукцыйнасці працы на 4,2%. Дзяржплан-жа сваімі варыянтамі вызначыў рост толькі на 3,3%. Сабекошт патрабавалася знізіць на 1,7%, а Дзяржплан намеціў толькі 1,6%.

Аналагічнае становішча і ў планаванні тавараз вароту.

Тав. Сталін на XVII з'ездзе, гаворачы аб разгорнутым таваразвароце паміж гарадам і вёскай, указаў:

«Неабходна, каб у гэтую справу былі ўцягнуты і дзяржаўная гандлёвая сецькааперацыйная гандлёвая сецьмясцовая прамысловасць, і калгасы, і аднаасобныя сяляне.

Гэта і называецца ў нас разгорнутым **савецкім гандлем,** гандлем **без** капіталістаў, гандлем **без** спекулянтаў.

...Таму задача заключаецца ў тым, каб разгарнуць далей савецкі гандаль, уцягнуць у гэтую справу мясцовую прамысловасць, узмацніць калгасна-сялянскі гандаль і дабіцца новых рашаючых поспехаў у галіне ўздыму савецкага гандлю».

У варыянце Дзяржплана ўвесь таваразварот па БССР на 1935 год намечан у 1.433.961,0 тыс. руб. або рост у параўнанні з 1934 годам на 16%. Аднак, у гэтай лічбе недаўлічана маса тавараў шырспажыву, цяжкай прамысловасці, а па астатніх галінах узята не таварная маса, а толькі падсумаваныя паказчыкі прыросту валавой прадукцыі. Акрамя

*) Гэтыя лічбы Дзяржплана пасля праверкі камісіяй урада выпраўлены і тавары шырспажыву запланаваны ў размеры 89% росту ў параўнанні з 1934 годам.

таго, зусім не прыняты пад увагу рух таварных мас у БССР з іншых раёнаў Саюза і наадварот. Гэтыя патокі тавараў прымаюцца за эквівалентныя, што парушае рэальнасць таваразвароту.

Такім чынам, не ўлічана і не выканана ўказанне тав. Сталіна і дырэктыва XVII з'езда аб тым, каб уцягнуць у гэтую справу мясцовую прамысловасць і калгасна-сялянскі гандаль і к канцу 1937 года павялічыць таваразварот у тры разы ў параўнанні з 1932 годам.

У свой час камісія па чыстцы партыі адзначыла:

«Сельскагаспадарчы сектар на чале з Бондарам апынуўся ў ролі штампоўшчыка шкодных антысовецкіх дакументаў, не выканаў дырэктыў партыі і ў радзе пытанняў скаціўся да махровага апартунізма».

Адзначыўшы далей асноўныя шкодныя моманты ў практыцы сельскагаспадарчага сектара (праектаванне зніжанай плошчы зернавых, зніжэнне пагалоўя рагатай жывёлы, высокі процант падзежу конскага пагалоўя), камісія прапанавала:

«Умацаваць сельскагаспадарчы сектар адпаведнымі большэвіцкімі кадрамі, забяспечыўшы большэвіцкае кіраўніцтва апошнімі, і карэнным чынам змяніць метад планавання сельскай гаспадаркі».

На справе аказалася, што сельскагаспадарчы сектар да сярэдзіны 1934 года заставаўся фактычна пустым месцам у Дзяржплане і толькі ў жніўні крыху ўмацаваўся групаю маладых спецыялістаў з ліку скончыўшых інстытут летам 1934 года. З наяўных 6 чалавек штата— 4 члены і кандыдаты партыі і 2 комсамольцы.

Асноўныя недахопы работы сельскагаспадарчага кіраўніцтва:

адсутнасць якой-бы там ні было работы па планаванню соўгаснага будаўніцтва;

кіраўніцтва зусім не займаецца кантролем і аналізам выканання планаў сельскай гаспадаркі;

кіраўніцтва не здолела паставіць ні аднаго пытання па сутнасці ў галіне сельскай гаспадаркі, распрацаваць яго і дабіцца адпаведнага вырашэння;

кіраўніцтва ўсё яшчэ не справілася з асноўнай работай, якая стаіць перад ім у апошні час,—складаннем комплекснага плана сельскай гаспадаркі БССР на 1935 год.

* * *

За чатыры гады свайго існавання райпланы выраслі, умацаваліся і сталі важнейшым звяном у адзінай планавай сістэме СССР. Многія райпланы ўжо зрабіліся сапраўднымі арганізуючымі цэнтрамі планавай работы на месцы. Яны накапляюць вопыт планавання, вывучаюць спецыфіку раёнаў у цэлым і кожнага прадпрыемства, соўгаса, калгаса паасобку, даследуюць натуральныя багацці раёна і распрацоўваюць канкрэтныя мерапрыемствы для іх найбольш рацыянальнага выкарыстання.

Аднак райпланы ўсё яшчэ адстаюць ад агульнага гаспадарчага і культурнага росту краіны. Вінаваты ў гэтым апарат Дзяржплана і яго партарганізацыя.

Тав. Кагановіч на XVII з'ездзе партыі ўказаў:

«Пара ўжо зразумець, што галоўнае ў рэарганізацыі совецкага дзяржаўнага апарата заключаецца ў тым, каб павярнуць

кіруючыя органы да нізавога звяна, перайсці да цеснай, жывой сувязі з нізавымі звеннямі: заводам, фабрыкай, калгасам, вёскай, МТС, соўгасам і т. д.»

За ўвесь 1934 год працаўнікі сектара райплана былі фактычна толькі ў 8 раёнах, з якіх 5 раёнаў наведалі па пытаннях дапамогі, праверкі і арганізацыі работы (сектар укамплектован 6-ю работнікамі).

У разуменні Дзяржплана райпланавыя камісіі не з'яўляюцца органамі, якія параджаюць план, складаючы яго касцяк, а толькі афармляюць па галінах тое, што створана ў Дзяржплане. Адсюль і недахопы: райпланы не ўдзельнічалі ў складанні заявак на 1935 год; атрыманыя з Дзяржплана намёткі размяркоўвалі габінетна, не прыцягваючы да гэтай работы масы, актыў сельсовета, калгас і т. д.

Шкоднасць такой арганізацыі работы ў рэзультаце дрэннага кіраўніцтва Дзяржплана ясна выявілася пры праверцы работы некаторых райпланаў. Так, полацкі і бярэзінскі райпланы працуюць бессістэмна, не складаюць квартальных і месячных вытворчых планаў, гомельскі горсовет, разглядаючы гаспадарчыя пытанні, не патрабуе і не цікавіцца заключэннем Дзяржплана.

Райпланы, як і сам Дзяржплан Беларусі, зусім не займаліся пытаннямі кантролю за выкананнем планаў, не сігналізавалі партыі і ўраду аб прарывах і т. д.

Такім чынам Дзяржплан не здолеў звязаць работу райпланаў непасрэдна з калгасамі і сельсоветам, уцягнуць іх у першую стадыю работы над планам—складанне заявак, на падставе якіх распрацоўваюцца галінныя планы па рэспубліцы.

Высунутая Чудноўскім у Інстытуце народнай гаспадаркі і падтрыманая Чорным тэорыя аб наяўнасці ў СССР «аўтаматычнага рэгулятара» ёсць паслядоўнае завяршэнне іх практычнай работы ў Дзяржплане. Дарэмна Чудноўскі і Чорны спрабуюць паказаць, што яны выпадкова падтрымалі славуты буржуазны тэзіс аб аўтаматызме ў СССР, дарэмна спрабуюць яны даказаць правільнасць сваіх пазіцый у практычнай рабоце,—жывыя факты пацвярджаюць, што зараджэнне ў іх асяроддзі і падтрыманне гэтага тэзіса ёсць паслядоўная і неадрыўная частка іх практычнай работы, карэнні якой выпіраюць самі напаверх.

І сапраўды. Хіба гэта не аўтаматызм, калі Чорны і Чудноўскі на практыцы змяншалі планавыя лічбы, тэмпы развіцця прамысловасці, арыентуючыся на старыя планы без уліку новага абсталявання. Хіба гэта не аўтаматызм, калі яны зусім не клапаціліся аб дзейнасці плана, не забяспечылі кантролю за выкананнем, не мабілізавалі мільёны працоўных на барацьбу за план, абмежаваўшыся толькі яго складаннем.

Гэта-ж факт, што план у разуменні Чорнага, Чудноўскага і іншых работнікаў Дзяржплана ёсць упісаныя іх рукамі лічбы і што выкананне гэтых лічбаў павінна ісці самацёкам, без іх удзелу, кантролю і т. д.

Гэта-ж факт, што апартуністычныя прагнозы ярка адлюстроўвалі аўтаматызм, надзею на самацёк у выкананні плана, ігнараванне дырэктыў партыі, асабліва ў галіне разгортвання мясцовай прамысловасці, яе загрузкі і т. д. Ясна, што гэтыя развжанні і практыка работы нічога агульнага не маюць з нашай тэорыяй, з лініяй нашай партыі.

Практыка барацьбы за план даўно разбурыла гэтыя славутыя тэорыі, пацвердзіўшы тое палажэнне, што «перамога ніколі не прыходзіць сама», што «планы выконваюцца ў барацьбе з труднасцямі, у ходзе перамагання труднасцей» **(Сталін).**

Адсюль відаць, што перамога соцыялізма—гэта не аўтаматычнае выкананне плана, а цвёрдая, непахісная воля і барацьба большэвікоў, праграма работы нашай партыі, кіруемай любімым правадыром—тав. Сталіным.

Перад імі стаіць задача: безадкладна з коранем выкарчаваць сляды грубых скажэнняў лініі партыі і так арганізаваць барацьбу за план, каб ордэнаносная БССР—фарпост Совецкага саюза—сапраўды заняла пачэснае месца ў сістэме соцыялістычнага планавання.

У задачы райпланаў і планавых органаў павінна ўваходзіць не толькі складанне гадавых і квартальных планаў. Важнейшая і рашаючая частка іх работы—пільны, штодзенны, сугуба канкрэтны кантроль за ажыццяўленнем плана.

> «Трэба паставіць работу так, каб не адрывацца ад той велізарнай баявой творчай работы, якая сёння вядзецца на палях калгасаў і соўгасаў, у МТС, зямельных органах, сярод аднаасобнікаў і т. д.» (з выступлення тав. Гікало на 1 усебеларускім з'ездзе работнікаў плана).

У святле гэтых задач павінна нязмерна ўзняцца роля партарганізацыі і паасобных яе членаў. Пад кіраўніцтвам партыі і яе правадыра—лепшага тэарэтыка тав. Сталіна—якасць работы ўсёй планавай сістэмы ў другой пяцігодцы павінна і будзе якасна ўзнята на яшчэ вышэйшую ступень.

---

**Г. Малярэвіч**

Сакратар парткома ф-кі
„Герой працы". Добруш

# Партыйную работу на Добрушы паставіць узорна.

Стары Добруш—вотчына князя Паскевіча-Эрыванскага, зданая ім у эксплаатацыю свайму вернаму сатрапу Стульгінскаму і К°—гэта Добруш жабрацтва, невуцтва і цемры.

У маленькіх, нізенькіх, поўразваленых халупках туліліся жыхары Добруша—ў асноўным рабочыя фабрыкі «святлейшага» князя.

У цёмным, вільготным, брудным памяшканні фабрыкі працавала некалькі сот рабочых—«вольных рабоў» Стульгінскіх.

Панавала самая суровая, самая жорсткая эксплаатацыя. Рабочаму дню не было канца, умовы працы жудасныя.

Працавалі жанчыны і моладзь, працавалі старыя і дзеці. Працавалі з раніцы да цёмнай ночы за мізэрныя грошы. Раслі галеча, голад, хваробы сярод рабочых. З голаду пухлі сотні, затое тлусцелі адзінкі.

А тых, хто спрабаваў бунтаваць, баставаць—выкідалі на вуліцу, кідалі ў турмы.

Так жыў стары Добруш з 1882 года (год заснавання фабрыкі) да Окцябра 1917 года.

* * *

Не стала старога Добруша з яго нізенькімі, поўразваленымі халупкамі. На месцы Добруша-сяла вырас Добруш-горад з каменнымі пабудовамі, рабочымі пасёлкамі, двума дзесяцігодкамі, дзе вучацца 2.300 школьнікаў; горад з 16-тысячным насельніцтвам, вялікім рабочым клубам, рэспубліканскаю школай ФЗУ папернікаў, бальніцай, з чатырма дзіцячымі ўстановамі, фабрычным радыё-вузлом, рабочым начным прафілакторыем, сеткай гандлёвых устаноў; Добруш з яго папяровай фабрыкай саюзнага значэння; Добруш, які зараз пастановай партыі і ўрада стаў горадам—раённым цэнтрам.

Агульны ўздым соцыялістычнага будаўніцтва ў краіне Советаў, індустрыялізацыя краіны ў корані змянілі твар Добрушскай папяровай фабрыкі.

Фабрыка сёння—гэта буйнейшы папяровы камбінат саюзнага значэння. Гэта цэлая сістэма буйнейшых складаных цэхаў і агрэгатаў. Гэта—два торфзаводы, як паліўная база фабрыкі: «Шлях к соцыялізму» і «Закрашынскі мох» (Васілевічы), з праграмай у 110 тыс. тон торфу. Гэта—лесазавод, канатная падвясная дарога і інш.

За гады першай пяцігодкі на фабрыцы ўстаноўлена шостая папяровая машына з сутачнай вытворчасцю 40—45 тон паперы (40,5% су-

тачнай праграмы фабрыкі), пабудаваны новы саломена-цэлюлозны завод (СЦЗ) з вытворчасцю 28 тон цэлюлозы ў суткі, дрэўна-масны завод (ДМЗ) з вытворчасцю ў суткі 10 тон дрэўмасы, новая сілавая станцыя з турбінай магутнасцю ў 3500 кілават, канатная падвясная дарога працягласцю каля сямі кілометраў, па якой падаецца торф з торфзавода ў бункеры новай сілавой станцыі, свой унутрызаводскі транспарт, чыгуначныя шляхі, паравозы, цягавыя адзінкі і інш.

Заканчваецца будаўніцтва новай установкі для варкі цэлюлозы па сістэме прафесара Жэрабава, і ў гэтым годзе прыступаем да пабудовы вялікага цэха мяшочнай тары з агульным капіталаўкладаннем у 7,5 мільёна рублёў.

Для характарыстыкі работы фабрыкі і выканання ёю сутачнай праграмы можна сказаць, што фабрыка за суткі скарыстоўвае: драўлянай беленай цэлюлозы 8 тон, драўлянай нябеленай цэлюлозы 33 тоны, саломы 81 тону, торфу 250 тон, дроў 100 кубаметраў, вады 58 тыс. кубаметраў, хлорнай вапны 5 тон, дрэўмасы 14 тон, макулатуры адсартаванай 8,5 тоны, каніфолі 1 800 кгр., кааліна (або крэйды) 18 тон, гліназёму стандартнага (або мутта)—3,2 тоны, нягашанай вапны 14 тон, соды (кальцыянаванай, або каустычнай) 5 тон, сульфата 5 тон, вугалю 50 тон, трапкі 5 тон і баланса 4 кубаметры.

Сыравінай, поўфабрыкатамі і хімікатамі фабрыка забяспечваецца з розных куткоў БССР, саломаю з УССР, БССР, Курскай і Заходняй абласці, драўлянай цэлюлозай з Паўночнага краю, сульфатам з Кара-Бугаза, гліназёмам з Уральскай абласці і т. д.

Гэтыя асноўныя лічбы даюць некаторае ўяўленне аб фабрыцы «Герой працы».

* * *

Як-жа працавала фабрыка апошнія гады, як працуе зараз і як яе партыйная арганізацыя, узначальваючы барацьбу ўсяго рабочага калектыва і ІТР, змагаецца за дырэктыву партыі: «Наша папера павінна быць самай лепшай і самай таннай у свеце»?

Работа фабрыкі і яе партыйнай арганізацыі на працягу чатырох апошніх год была ганебнай. Так, у 1931 годзе план выпуску паперы быў выканан на 34,4%, у 1932 годзе—на 50,4%, у 1933 годзе—на 70,6% і ў 1934—на 89,8%.

ЦК КП(б)Б даў суровую ацэнку сапраўднага становішча на фабрыцы:

> «Фабрыка на працягу раду год і да апошняга часу (пастанова ЦК КП(б)Б ад 2/VI-34 года) ідзе з буйнейшымі прарывамі, не выконвае колькасных і якасных паказчыкаў промфінплана, становішча на фабрыцы не палепшылася за апошні год, дзякуючы таму, што гаспадарчае кіраўніцтва на працягу года не толькі не рэалізавала важнейшых рашэнняў партыі, але па-драпежніцку адносілася да буйнейшага тэхнічнага ўзбраення і абсталявання прадпрыемства, увяло функцыяналку, абязлічку, ураўнілаўку ў сістэме кіраўніцтва і арганізацыі працы, парушаючы элементарныя правілы эксплаатацыі абсталявання, і дашло да злачыннага разбазарвання дзяржаўных сродкаў і прадукцыі, стала на шлях прамога ашуканства пралетарскай дзяржавы, даўшы сутачную праграму па СЦЗ—18 тон, замест устаноўленых па плану 32 тон. Партыйная арганізацыя фабрыкі не забяспечыла сапраўднай перабудовы партыйнай і комсамольскай работы, не

наладзіла работы з кожным комуністам і комсамольцам, не ўзняла іх авангарднай ролі на вытворчасці.

Не гледзячы на вялікую праслойку старых высокакваліфікаваных кадраў рабочых, працуючых на рашаючых працэсах вытворчасці, партарганізацыя не толькі не арганізавала сістэматычнай вытворчай і палітычна-масавай работы з гэтымі кадрамі рабочых, але фактычна апынулася адарванай ад гэтых кадраў».

ЦК КП(б)Б у гэтай-жа пастанове даў разгорнутую праграму работы для ліквідацыі прарыву на фабрыцы.

Пастанова ЦК аб рабоце фабрыкі патрабавала ад нас большай чоткасці ў рабоце, значнага павышэння якасці барацьбы за выкананне вытворчай праграмы, за выпуск такой паперы, якая-б поўнасцю задаволіла спажыўца.

Аднак, трэба прызнаць, што гэта барацьба ў 1934 годзе была яўна недастатковай. Комуністы фабрыкі ў патрэбнай ступені не ўзначалілі масы ў барацьбе за выкананне плана, і вытворчая праграма за 1934 г. была выканана па танажу на 89,8% (план 27 403 тоны—фактычна выканана 24 618 тон і ў цэнах 26-27 гг. на 79,7%). Прарыў праграмы ў першым квартале, у жніўні і верасні, адсутнасць належнай барацьбы партарганізацыі фабрыкі за выкананне промфінплана прывялі да ганебных гаспадарчых вынікаў за ўвесь 1934 год, хоць план IV квартала па танажу быў выканан на 100,7%.

Пры чоткай рабоце цэха СЦЗ фабрыка атрымала-б неабходную сыравіну. Аднак трыкутнік фабрыкі не звярнуў патрэбнай увагі на работу цэха СЦЗ, не забяспечыў выканання плана. У рэзультаце цэх недавыпрацаваў 3007 тон поўфабрыкатаў—саламянай цэлюлозы, чым садзейнічаў прарыву ўсёй фабрыкі.

З шасці папяровых машын сваю вытворчую праграму за 1934 год выканала толькі машына №2 на 100,9% (брыгадзіры-сетачнікі Бізюк, Шышкін, Люсоўскі) і машына №3 на 100,3% (брыгадзіры-сетачнікі Дзедкоў, Агееў і Міхалькоў).

Усё вышэйпаданае сведчыць аб тым, што ў мінулым годзе фабрыка працавала кепска, што толькі ў IV квартале яна пачынае нагаляць упушчанае, але поўнасцю не выходзіць з прарыву.

Канец 1934 года асабліва паказаў, што фабрыка мае ўсе ўмовы для таго, каб поўнасцю выканаць план, што справа залежыць выключна ад жывых людзей, ад умення арганізаваць масы на барацьбу за выкананне плана.

Да зімовага перыяда была праведзена адпаведная падрыхтоўчая работа, створаны нармальныя запасы паліва, торфу, саломы, капітальна адрамантавана старая сілавая станцыя, пабудавана новая вадаачыстка, праведзена рэвізія новай сілавой турбіны. У Окцябрскія дні дасканала адрамантавана цэлая група агрэгатаў.

Усе гэтыя асноўныя мерапрыемствы забяспечылі ўздым фабрыкі з першага квартала 1935 года.

За першы квартал фабрыка дала: паперы (вага нето) 100,3%, сшыткаў 100,6% і валавой прадукцыі (у цэнах 26-27 гадоў) 103,3%. Такіх паказчыкаў фабрыка не мела на працягу апошніх пяці год.

Калі за ўвесь 1934 год вытворчую праграму выканалі дзве машыны, дык у першым квартале выконваюць план тры машыны: 1, 3 і 4. Значна падцягнуўся і СЦЗ, выканаўшы квартальны план на 94,8%. Першы квартал гэтага года даў фабрыцы першы за апошнія 6 гадоў прыбытак у 180.000 рублёў.

Работа фабрыкі ў красавіку сведчыць аб тым, што квартальны план па ўсіх відах прадукцыі будзе выканан. СЦЗ працуе бесперапынна. За 18 сутак работы, пры плане ў 612 тон, ён даў 680 тон поўфабрыкатаў. Дрэўмасы выпрацавана 184 тоны супроць планавых 180 тон, сшыткаў дана 2 900 000 штук пры плане ў 2 700 000, сшыткавай паперы выпрацавана 345 тон пры плане ў 265 тон, паперы 1 396 тон супроць 1 365 тон планавых. Валавой прадукцыі атрымана на 1 187 тысяч рублёў пры плане ў 1089 тысяч рублёў.

* * *

Партыйная арганізацыя фабрыкі налічвае 167 чалавек, з іх 44 кандыдаты. Партпраслойка—5,6% да агульнай колькасці рабочых. Самы высокі процант партпраслойкі ў механічным цэху (7,8%) і самы нізкі ў аддзеле капітальнага будаўніцтва (1,6%).

Структура партыйнай арганізацыі прадстаўляе сабой 20 партыйных груп, з якіх 9 цэхавых і 11 зменных, непасрэдна падпарадкаваных і кіруемых парткомам. Зменныя групы арганізаваны ў энергацэху, папяровым аддзеле, пакамерным цэху, якія працуюць пазменна. Са жніўня мінулага года вылучана 12 парторгаў, частку якіх мы падрыхтавалі праз семінары парторгаў. Зараз чатырох парторгаў камандыравалі для перападрыхтоўкі на курсы парторгаў пры ЦК КП(б)Б.

Прыведзеныя лічбы сведчаць аб нізкай партпраслойцы на фабрыцы. Пры кругласутачнай рабоце фабрыкі перад партыйнай арганізацыяй стаяць асабліва складаныя задачы ўплыву на ўсе колы рабочых.

Пасля пастановы ЦК праведзена значная работа па перасоўванню комуністаў у цэхі, да станкоў. Аднак дзве змены СЦЗ усё яшчэ не забяспечаны комуністамі; на лесазаводзе фабрыкі 110 рабочых, але там працуюць толькі двое комуністаў і няма самастойнай партыйнай групы. Таму перад намі зараз паўстае задача—забяспечыць партсіламі ўказаныя звенні.

З мэтай вывучыць пастаноўку партыйна-масавай работы на іншых прадпрыемствах папяровай прамысловасці і пераняць іх лепшы вопыт трыкутнік фабрыкі ў канцы сакавіка арганізаваў пасылку 15 чалавек (у тым ліку 9 парторгаў і 2 прапагандыстаў) на Балахнінскі папяровы камбінат. Гэтая паездка, а таксама ўсесаюзная нарада партпрацаўнікоў папяровай прамысловасці, скліканая па ініцыятыве пасланай рэдакцыяй газеты «Лясная прамысловасць» брыгады, поўнасцю сябе апраўдалі. Паездка была свайго роду курсамі для нізавых работнікаў і павялічыла іх практычны багаж. Некаторыя з парторгаў нашай фабрыкі пачынаюць прымяняць у сябе лепшы вопыт работы Балахнінскага камбіната. Так, зменпарторг т. Бізюк праводзіць палітдні ў сваёй змене, парторг СЦЗ т. Самонаў—зменныя зарадкі; зменны парторг пакамернага цэха т. Крывашэева—паліт-інфармацыі.

Мы і ў далейшым мяркуем арганізаваць абмен вопытам работы як з партарганізацыямі папяровай прамысловасці, так і перадавымі прадпрыемствамі БССР.

Апошні пленум ЦК КП(б)Б падкрэсліў асаблівую важнасць правядзення партсходаў і звярнуў увагу ўсёй партарганізацыі на тое, што «партыйныя сходы ўсё яшчэ не ператварыліся ў важнейшую школу ідэйна-палітычнага выхавання комуністаў».

Партыйныя дні не сталі яшчэ ў нас важнейшаю школай ідэйна-палітычнага выхавання. Закрытымі ў нас былі толькі 4 партсходы,

усе астатнія—адкрытыя. Адкрыты партсход у значнай ступені ператвараўся ў звычайны профсаюзны, што не давала магчымасці камуністам актывізавацца (механічны, пакамерны і вытворчы цэхі), а пасобныя профсаюзныя кіраўнікі (Журбенкоў—праформ вытворчага цэха, Каранцова—праформ пакамернага цэха) не лічылі патрэбным абгаварваць пытанні, якія разглядаліся на партсходзе, дзе прысутнічалі ўсе рабочыя.

Агульнымі пытаннямі партыйных дзён для ўсёй партыйнай арганізацыі за апошнія 8 месяцаў былі: аб абавязках камуністаў (§ 2 статута партыі), аб якасці прадукцыі, аб парткіраўніцтве камсамолам і рабоце КСМ арганізацыі, аб партвучобе ў 1934-35 навучальным годзе, аб вытворчым паходзе імя VII з'езда советаў і падрыхтоўцы да Окцябрскіх свят, аб справаздачна-перавыбарчай кампаніі советаў, аб контррэволюцыйнай белабандыцкай трацкісцка-зіноўеўскай групе, аб авангарднай ролі камуністаў на вытворчасці, аб пастановах лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б), аб ходзе выканання пастановы ЦК ВКП(б) па гомельскай арганізацыі, аб стане партыйна-масавай работы (з разборам прамовы тав. Кагановіча на нарадзе загадчыкаў аддзелаў кіруючых парторганаў), аб стане шэфработы і практычнай дапамогі калгасам у правядзенні веснавой сяўбы і аб выхаванні дзяцей камуністамі.

Пастановы пленума Ленінградскага гаркома ВКП(б) і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б прапрацоўваюцца і зараз у нізавых звеннях партыйнай арганізацыі.

Не гледзячы на праведзеную работу, нашы партыйныя сходы ўсё яшчэ не сталі школай выхавання камуністаў, як гэта ўказана ў рашэннях пленума ЦК КП(б)Б і Ленінградскага гаркома. Партсходы трэба так перабудаваць, каб яны з'явіліся важнейшаю справай у жыцці партарганізацыі. Трэба ўвесці ў сістэму інфармацыю сакратара парткома на кожным чарговым партсходзе аб выкананні рашэнняў, прынятых папярэднім сходам. Гэта ўнясе ў работу тую чоткасць, якая патрэбна для далейшага ўмацавання арганізацыі партыйных дзён.

Перад намі ва ўсю шырыню паўстала пытанне аб рабоце са спачуваючымі і арганізацыі на фабрыцы моцнага рэзерва для росту парт-арганізацыі. У групу спачуваючых безумоўна ідзе перадавая частка ўдарнікаў, знатных людзей фабрыкі. Аб гэтым сведчаць іх заявы. Брыгадзір першай папяровай машыны, герой першай пяцігодкі т. Зюзькоў, піша: «Прашу партгрупу прыняць мяне ў спачуваючыя, каб яшчэ бліжэй стаць да партыі, каб у далейшым быць дастойным членам партыі. Я—рабочы-сетачнік, сын батрака. Мой вытворчы стаж 47 гадоў». Аналагічныя па сэнсу заявы аб прыёме ў спачуваючыя паступілі і ад іншых рабочых. У адказ на зладзейскае забойства тав. Кірава паступіла пяць заяў аб прыёме ў спачуваючыя ад перадавых рабочых фабрыкі: Сухарукава Адама, Васілеўскага Нікалая, Плаўскага Сямёна і інш.

Работа са спачуваючымі ў нас пастаўлена дрэнна. Склікалі нараду ўсіх спачуваючых разам з парторгамі. Правялі адзін партдзень па пытанню аб рабоце са спачуваючымі, які паказаў, што партгрупы і партарганізацыя фабрыкі слаба займаецца імі. Выявіліся факты адрыву ад партарганізацыі паасобных спачуваючых, пераведзеных па чыстцы, няведанне імі сваіх правоў і абавязкаў: спачуваючыя Шараева і Грыгор'ева лічылі, што яны не маюць права ўдзельнічаць нават у адкрытым партсходзе.

Работу са спачуваючымі мы пачалі найперш з прапрацоўкі сярод зменных і цэхавых парторгаў статута партыі аб групах спачуваючых і адпаведных матар'ялаў аб рабоце са спачуваючымі, змешчаных у ЦО—«Правда». Следам за гэтым праверылі стан работы са спачуваючымі па цэхах. Потым адбыўся агульнафабрычны партсход з дакладам парткома аб стане работы са спачуваючымі. Судаклады зрабілі парторгі вытворчага і пакамернага цэхаў. Зрабілі справаздачы аб рабоце і вучобе трое спачуваючых. Гэты партдзень з'яўляўся штуршком у росце радоў спачуваючых.

У нас аформлена шэсць груп спачуваючых—у вытворчым, пакамерным, СЦЗ і механічным цэхах, а таксама адзіночак-спачуваючых у партгрупах энергацэха, прыгараднай гаспадаркі, адзела капітальнага будаўніцтва, фабрычнага кіраўніцтва і будаўніцтва «Жэрабаўкі», якія яднаюць 40 чалавек спачуваючых: 9 з іх пераведзены па партчыстцы і 31 новапрынятых.

Новапрынятыя спачуваючыя—лепшыя ўдарнікі вытворчасці. Сярод іх чатыры героі першай пяцігодкі: Лашкевіч В. Б., Зюзькоў І. Е., Васілеўскі Н. Г., Васілеўскі Н. І. Вытворчы стаж спачуваючых: да 5-ці год—1 чалавек, да 10 год—7 чалавек, да 15 год—10 чал., да 20 г.—6 чал. і звыш 20 год—7 чал.

Вельмі дрэнна арганізавалі работу па ўцягненню ў спачуваючыя партгрупа транспартна-складскай гаспадаркі і аддзела шырспажыву. Пры недастатковай увазе парткома яны не правялі належнай работы з блізкімі нам людзьмі і не маюць ніводнага спачуваючага.

Пытанне аб нагрузцы спачуваючага мы вырашаем сумесна з парторгамі (з 31 спачуваючага не маюць нагрузак пяць чалавек). Большасць спачуваючых сумленна выконваюць даручаныя абавязкі, прыкладны ў партвучобе, чытаюць мастацкую літаратуру, працуюць над сабой (Агеева, Сударыкава, Зюзькоў, Драбадзенава, Гутарава, Талкачоў).

Для партгруп устаноўлен спецыяльны дзень работы са спачуваючымі. Акрамя таго, раз у месяц праводзіцца «дзень спачуваючага».

Апошні дзень спачуваючага адбыўся 4 красавіка. У ім прынялі ўдзел сакратар РК т. Янковіч і члены партыі, якія давалі паручыцельствы спачуваючым. На павестцы дня стаялі пытанні: 1. даклад членаў партыі—Трэскоўскага, Карэнцовай, Цыганкова і Уценкова аб іх рабоце са спачуваючымі, за каторых яны паручыліся, з судакладамі спачуваючых (Агеевай, Міхалькова, Гапеева, Аненко і Зюзькова) аб тым, як ім дапамагаюць іх паручыцелі, і 2. прапрацоўка перадавога артыкула «Правды» ад 27/III—«Супроць недаацэнкі работы са спачуваючымі».

Зусім ясна, што поўнага поспеху ў рэалізацыі дырэктыў партыі і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б аб рабоце са спачуваючымі мы даб'емся толькі пры штодзённай рабоце з імі. Аб слабасці нашай работы са спачуваючымі сведчыць нязначная колькасць новапрынятых. Тым часам на фабрыцы 594 чал. старых кадравых рабочых з вытворчым стажам ад 10 і вышэй гадоў. У гэтай галіне партыйнай работы мы абавязаны ў бліжэйшы час дабіцца лепшых вынікаў, арганізаваўшы моцны і ідэйна вытрыманы рэзерв для росту партыі.

У выніку абмеркавання ўрокаў, звязаных са зладзейскім забойствам тав. Кірава падонкамі зіноўеўскай контррэвалюцыйнай групы, павысілася большэвіцкая пільнасць як партыйнай арганізацыі ў цэлым, так і паасобных партыйных груп.

Партгрупа СЦЗ выкрыла і выключыла з партыі Ведзёрнікава за адкрытую актыўную агітацыю і абарону контррэвалюцыйнага трацкізма. Партарганізацыя ачысцілася ад такіх «комуністаў» як—Сноўскі, Жэўноў, Жэлдакоў, якія не мелі нічога агульнага з партыяй. У выніку павышэння большэвіцкай пільнасці з фабрыкі выгнаны звыш 20 «рабочых»—былых людзей, раскулачаных, прамых ворагаў рабочага класа.

* * *

Нізкі тэарэтычны ўзровень партыйнай арганізацыі фабрыкі з'яўляецца вынікам нездавальняючай пастаноўкі партыйнай і комсамольскай вучобы. Ад парткома патрабавалася максімальная ўвага да пытанню павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўню партыйнай і комсамольскай арганізацыі і адпаведнай якаснай пастаноўкі вучобы.

У нас існуе наступная сець парткомсамольскай вучобы: філіял гомельскага вячэрняга комвуза з 2-х курсаў; 2 ВСПШ; 2 кандыдацкія школы; 2 школы для спачуваючых; 2 гурткі па гісторыі партыі; дзве школы па гісторыі партыі; марксісцка-ленінскі гурток і 3 пачатковыя КСМ палітшколы. У гэтай сеці парткомсамольскай асветы вучацца 437 чалавек, з іх: членаў партыі 117, кандыдатаў 40, спачуваючых 38, комсамольцаў 156 і беспартыйных 86 чал. Наведванне партыйна-комсамольскай вучобы яўна нездавальняючае: па Комвузу 78%, па ВСПШ—79%, па палітшколах і гуртках па гісторыі партыі—90%.

У сакавіку значна аслабла работа паасобных школ, заняткі зрываліся, бо не было кваліфікаваных прапагандыстаў, частка прапагандыстаў знаходзілася ў доўгатэрміновых службовых камандыроўках.

Прапагандыст Журбенкоў (цяпер зняты як выкладчык) вельмі дрэнна рыхтаваўся да заняткаў, не абсталяваў як належыць партгабінета, пры адсутнасці твораў класікаў марксізма-ленінізма не здолеў арганізаваць сістэматычнай дапамогі прапагандыстам і ўсёй сеці партыйнай вучобы. У гэтай нездавальняючай пастаноўцы марксіцка-ленінскага выхавання ў першую чаргу вінен сам партком.

Пленум ЦК КП(б)Б адзначыў:

> «Кожны комуніст - актывіст абавязан быць большэвіцкім арганізатарам рабочых і калгасных мас і павінен быць у першую чаргу моцна ўзброен ведамі гісторыі партыі».

Гэты пункт пастановы набывае для нас асабліва важнае значэнне. І сапраўды, каб павысіць рэволюцыйную пільнасць і боездольнасць усіх членаў партыі, каб ведаць усякія антыпартыйныя групоўкі ў гісторыі нашай партыі, іх прыёмы барацьбы з лініяй партыі, іх тактыку, а таксама прыёмы нашай партыі, прыёмы, з дапамогай якіх партыя разбіла на-галаву гэтыя групоўкі,—для гэтага патрэбна дасканалае веданне гісторыі нашай партыі, асабліва пасляокцябрскага перыяда.

Мы зараз, пры дапамозе райкома, выпраўляем недахопы, арганізоўваем вучобу парторгаў з адрывам ад вытворчасці тры разы ў месяц, праверылі яшчэ раз склад прапагандыстаў і іх падрыхтаванасць да заняткаў у школе. На прапагандысцкую работу ў партарганізацыі фабрыкі райком вылучыў частку працаўнікоў з раённага кіруючага актыва. У абсталяванні партгабінета значна дапамог нам аддзел культуры і прапаганды ленінізма ЦК, адпусціўшы сродкі на набыццё літаратуры.

Адзначаныя мерапрыемствы пры штодзенным кантролі парткома за станам марксісцка-ленінскага выхавання забяспечаць сур'ёзнае палепшанне работы па ідэйнаму ўзбройванню партарганізацыі, узнімуць усю партыйную работу на вышэйшы ўзровень, павысяць рэвалюцыйную пільнасць і боездольнасць кожнага комуніста.

За апошні час на паседжаннях парткома ставяцца пытанні партработы, заслухоўваюцца адна-дзве індывідуальныя справаздачы комуністаў аб іх рабоце, вучобе і т. д.

Для падрыхтоўкі пытанняў к парткому прыцягваецца партактыў (пакуль у асноўным са складу парторгаў). Сіламі парторгаў у парадку праверкі і ўзаемаправеркі былі падрыхтаваны пытанні аб рабоце і стане партгруп механічнага цэха, АРЗ'а, прыгараднай гаспадаркі, аб тэхвучобе, аб рабоце клуба, аб стане работы са спачуваючымі ў пакамерным і вытворчым цэхах.

Партыйных арганізатараў партком склікае сістэматычна па практычных пытаннях работы. На гэтых нарадах абмяркоўваюцца таксама і пытанні партыйна-масавай работы.

Да 1 лістапада мінулага года мы практыкавалі два разы ў месяц семінар партарганізатара з аслабаненнем ад работы. Такіх семінарскіх заняткаў праведзена было 10. Прапрацаваны пытанні: «Як парторгу падрыхтаваць і правесці партдзень», «Аб групах спачуваючых і аб рабоце са спачуваючымі ў партгрупе». «Барацьба з бракам—палітычная задача» (разбор артыкула тав. Носава ў «Праўдзе»), «Пастанова пленума ЦК аб рабоце прамысловасці», «Пастанова ліпеньскага пленума ЦК ВКП(б) аб хлебазагатоўках і жывёлагадоўлі», «Аб задачах ідэйна-палітычнай узброенасці членаў і кандыдатаў партыі» (ліст аддзела культуры і прапаганды ленінізма ЦК у сувязі з новым навучальным годам), «Адозва з'езда пісьменнікаў да рабочых папяровай прамысловасці»; тэарэтычныя лекцыі: «Усеагульны эканамічны крызіс». «Аб дыктатуры пролетарыята», «Ідэалогія фашызма» і «Аб задачах партмасавай работы» (разбор прамовы тав. Кагановіча на нарадзе загадчыкаў аддзелаў кіруючых парторганаў).

З першага мая мы ўзнаўляем работу семінара партарганізатараў тры разы ў месяц, каб даць магчымасць парторгу павысіць свой узровень ведаў.

Партыйная арганізацыя шырока разгарнула тэхвучобу. Вучацца 1036 чалавек з 1720 падлягаючых ахопу тэхвучобай у 1935 годзе. 780 чалавек здалі экзамен, з іх: на здавальняюча 156, на добра 164 і на выдатна 460 чалавек.

Партарганізацыя і ўся грамадскасць фабрыкі па-праву ганарыцца людзьмі, аўладаўшымі тэхнікай. Гэтыя людзі: **Бізюк**—зменны парторг, зотавец, герой першай пяцігодкі; **Казлоў**—зотавец; зотаўцы—**Бандарэнка, Лашкевіч, Крэсаў Мітрафан,** якія выканалі план першага квартала на 117,5%; **Дзедкоў Іван**—выканаў план першага квартала на 110,3%; **Песенька Якаў,** якога за высокае аўладанне тэхнікай перавялі ў брыгадзіры-сетачнікі; **Васілеўскі Н.,** які выканаў план на 110,3%; **Гутарава С.**—выконвае план не ніжэй 119%; **Леўкова А., Ходзькіна М., Сцепановіч,** якія ўсіх рабочых дрэўмаснага завода падрыхтавалі на выдатнікаў.

Перад партарганізацыяй і кіраўніцтвам фабрыкі стаіць вялікая і пачэсная задача—дабіцца суцэльнай тэхнічнай граматнасці на фабрыцы.

На барацьбу за поўнае выкананне пастановы ЦК аб рабоце фабрыкі накіравана цэлая сума мерапрыемстваў: падрыхтаваны 250 варашылаўскіх стралкоў, 87 планерыстаў, звыш 150 чалавек здалі вайскова-тэхнічны экзамен, каля 1000 чалавек прыгалі з парашутнай вышкі; фабрыка набыла планер, набывае свой самалёт, папоўніла бібліятэку на 3000 экз., арганізавала сёлета каля 800 індывідуальных рабочых гародаў (супроць 500 у мінулым годзе), з восені правялі шэсць палітдзён і падрыхтавалі чарговы палітдзень па пытаннях міжнароднага становішча, разгарнулі сур'ёзную работу па культурна-бытавому паходу, азеляняем тэрыторыю цэхаў, рабочых пасёлкаў, у гэтай рабоце вялікі энтузіязм праяўляюць Ганчароў, Галкін Н., Цубрыкаў, Краўчанка і інш.

Зараз, калі фабрыка на ўздыме і выходзіць з прарыву, выключную ролю ў святле пастановы ЦК ВКП(б) аб папяровай прамысловасці набываюць пытанні якасці і барацьбы за якасць.

Але мы яшчэ не маем права сказаць, што з якасцю прадукцыі ў нас справа пастаўлена здавальняюча.

Зараз у барацьбе за якасць устаноўлен інстытут кантралёраў па папяровых машынах з лепшых брыгадзіраў-сетачнікаў (Зюзькоў, Каліноўскі, Агееў, Казлоў). Праводзіцца падрыхтоўка да аргнізацыі на фабрыцы гаспадарча-разліковых брыгад, якіх да гэтага часу ў нас не было.

Паміж 15—18 чысламі кожнага месяца праводзіцца аналіз калькуляцыі і сабекошту работы кожнага цэха як на вытворча-тэхнічных нарадах, так і сярод рабочых у цэхах. Праводзіцца перабудова работы аддзела тэхнічнага кантролю фабрыкі і перабудова зарплаты ў залежнасці ад якасці, пры падмацаванні гэтых мерапрыемстваў адпаведнай работай парт і профгруп і паасобных комуністаў у цэхах. Усё гэта павінна карэнным чынам палепшыць якасць прадукцыі фабрыкі.

* * *

Апошнія пастановы пленума Ленінградскага гаркома і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы з'яўляюцца праграмнымі дакументамі для кожнай нізавой партыйнай арганізацыі. Паклаўшы іх у аснову сваёй далейшай работы, партарганізацыя фабрыкі будзе змагацца за высокую прадукцыйнасць і якасць працы, за моцную дысцыпліну, за культуру і чыстату з тым, каб Добрушская папяровая фабрыка ў 1935 годзе стала ў рады перадавых прадпрыемстваў папяровай прамысловасці і поўнасцю выканала дырэктыву аднаго з лепшых сталінцаў— Н. Ф. Гікало, даную ім на студзеньскай нарадзе партработнікаў прамысловасці:

> «У цэнтры нашай увагі павінна быць аснова асноў—партыйная работа. Мы павінны так яе паставіць, каб на ўсіх участках нашай работы ўсё больш і больш узмацняць аўтарытэт, магутнасць, кіруючую ролю партыі Леніна—Сталіна» («Большэвік Беларусі» № 1—2 за 1935 г.).

———

**Б. Вёрткін**

Сакратар парткома завода
імя Варашылава

# Як партарганізацыя рыхтуецца да правядзення партыйнага сходу

Прапрацаваўшы рашэнні Ленінградскага гарадскога камітэта партыі і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б па пытанню аб задачах партыйна-арганізацыйнай і палітычна-выхаваўчай работы, мы прышлі к вываду, што ў рабоце нашай партарганізацыі не знашлі яшчэ адлюстравання ўказанні тав. Кагановіча на XVII з'ездзе партыі аб ролі і значэнні партыйных сходаў:

> «Член партыі навучаецца і павінен навучацца на партыйных сходах большэвізму не менш, калі не больш, чым у партыйнай школе... Кожны партыйны сход павінен павысіць ідэйны ўзровень комуніста. Абгаварэнне ўнутры-партыйных пытанняў, пытанняў палітыкі і практыкі пабудовы соцыялізма ўздымае свядомасць члена партыі да ўзроўню разумення ім авангарднай ролі большэвіка-арганізатара мас».

Нашы партыйныя дні часта зводзіліся да выступленняў 5—6 так званых «штатных аратараў», бо падрыхтоўцы партсходу не ўдзялялася дастатковай увагі.

Рыхтуючыся да партыйнага сходу, прысвечанага рашэнням Ленінградскага камітэта партыі і красавіковага пленума ЦК КП(б)Б, загадзя прапрацавалі гэта пытанне з парторгамі і прапагандыстамі завода, пасля чаго сабралі прапановы па партыйных групах і выпрацавалі праект. Дзякуючы добрай падрыхтоўцы партсходу, у спрэчках запісалася 36 чал., з іх выказалася 22. Т. т. Лапідус, Кашкан, Лапін, Салавей і іншыя адзначалі ў сваіх выступленнях, што іменна сёння яны зразумелі значэнне партсходу, як месца выхавання комуністаў, што цяпер ім лёгка выступаць, бо пытанне загадзя падрыхтавана. Яны ўказалі на рад недахопаў у рабоце партарганізацыі завода: слабую работу партгабінета, частую змену прапагандыстаў у кандыдацкай школе і інш.

Чарговы партдзень намечана правесці па пытанню міжнароднага становішча СССР. Да гэтага партдня вылучана 5 комуністаў, якім даручана зрабіць даклады. Тав. Кузняцоў (каваль) рыхтуе даклад па пытанню аб прадажы КУЧ. Раней ён ніколі не наведваў бібліятэку-чытальню, а цяпер праседжвае там цэлыя вечары. Яму ў дапамогу прымацавана комуністка—заг. партгабінета т. Догман. Тав. Кузняцоў

гаворыць: «За ўвесь час прабывання ў партыі (з 1926 года) ніколі не адчуваў я такой адказнасці як цяпер, рыхтуючыся выступіць з дакладам перад сходам. Але нічога. Карту ўжо вывучыў (усе дакладчыкі выступяць з геаграфічнай картай і будуць паказваць распалажэнне краін, аб якіх дакладваюць). Думаю, што не падкачаю».

Комуніст Гінзбург дакладвае аб узбраенні Германіі. Дзякуючы гэтаму дакладу, ён стаў наведвальнікам бібліятэкі імя Леніна.

Комуніст Матусевіч рыхтуе даклад аб узаемаадносінах СССР з Англіяй. Спачатку прасіўся, каб яго аслабанілі ад даклада, але цяпер з нецярплівасцю чакае сходу.

Даклады ўжо ва ўсіх гатовы. 7 мая 5 комуністаў выступяць з геаграфічнымі картамі і раскажуць сваім таварышам аб міжнародным становішчы. Партыйная арганізацыя завода ўпершыню за апошнія некалькі год заслухае палітычныя даклады комуністаў, з якімі поплеч працуе.

На 27 мая прызначана прапрацоўка на агульным сходзе красавіковых тэзісаў Леніна, якія загадзя прапрацоўваюцца па групах. Дакладчыкамі выступяць комуністы завода. Партком паставіў перад сабой задачу падрыхтаваць у бліжэйшыя 3—4 месяцы 10—15 чалавек парткадраў. Наша партарганізацыя пры правільнай пастаноўцы выхавання і вырошчвання комуністаў забяспечыць выкананне рашэнняў красавіковага пленума ЦК КП(б)Б.

Правільнае выхаванне партыйных кадраў дапаможа ў самы бліжэйшы час высунуць новыя дзесяткі тысяч большэвікоў—арганізатараў і прапагандыстаў.

Н. Працэнко
Сакратар парткома БДУ

# Член партыі—у цэнтры ўвагі

Пленум Ленінградскага гаркома партыі і красавіковы пленум ЦК КП(б)Б адзначылі, што ВНУ з'яўляюцца найбольш адсталым участкам партыйнай работы. І гэта зусім правільна.

Рашэнні XVII з'езда партыі аб арганізацыйнай перабудове партыйнай работы і павышэнні ідэйна-палітычнага ўзроўню членаў партыі ажыццяўляліся фармальна.

«Перабудова» выразілася ў тым, што з бюро парткалектыва зрабілі партком, замест факультэцкіх ячэек абралі (а ў некаторых выпадках і прызначылі) парторгаў. Але зрухаў у партыйнай рабоце ад гэтага яшчэ не адчувалася. Парторгі доўгі час не ведалі, што ім рабіць. Не маючы ўказанняў парткома, яны большай часткаю падмянялі сабой і дэканаў, і прафоргаў, і комсоргаў.

Партком займаўся пераважна гаспадарчымі і акадэмічнымі пытаннямі. З абвесткі дня не зыходзілі пытанні аб сталоўцы, аб загадчыку гаспадаркі, аб рабоце дэканаў, кафедр, акадэм-паспяховасці.

Толькі ў пачатку і канцы года ставілася пытанне аб палітвучобе. Іменна аб палітычнай, а не партыйнай вучобе, бо для комуністаў партыйнай сеці не было, а ў арганізаваных па вучэбных групах гуртках бягучай палітыкі сотня комуністаў растаплялася больш як у тысячнай масе студэнтаў. Зрэдку, пры правядзенні той ці іншай палітычнай кампаніі (Першае мая, дзень Парыжскай комуны), адбываліся адкрытыя партыйныя сходы. Падрыхтоўка да іх звычайна абмяжоўвалася падборам дакладчыкаў, прычым пра абвестку дня даведваліся нярэдка толькі пры адкрыцці сходу. Ясна, што такі сход праходзіў вяла, нудна, афіцыяльна, з нізкай актыўнасцю. Удзельнікі сходу пазяхалі, чакаючы як-бы ён хутчэй скончыўся. У рэзалюцыях, якія падрыхтоўваліся наспех на самым сходзе, было многа агульных пажаданняў, але канкрэтных абавязкаў яны па сутнасці ні перад кім не ставілі. Звычайна рэзалюцыі або губляліся адразу-ж пасля сходу, або падшываліся «да справы», дзе яны спакойна ляжалі без праверкі выканання.

Пры такой пастаноўцы справы комуністы не адчувалі адказнасці за той участак работы, на які іх паставіла партыя. Яны не адыгрывалі ў належнай меры авангарднай ролі ў барацьбе за выкананне вучэбнага плана, за аўладанне вышынямі навукі і часта самі не з'яўляліся ўдарнікамі вучобы. Зусім не дзіўна, што сярод некаторай часткі комуністаў, асабліва кандыдатаў партыі, дысцыпліна пахіснулася: паявлічыліся выпадкі ненаведвання партсходаў, неакуратнай

уплаты членскіх узносаў, неахайных адносін да сваіх нагрузак і партыйных дакументаў.

На снежань мінулага года 26 комуністаў не мелі ў парткоме ўліковых картак, некаторыя згубілі партбілеты. У атмасферы дабрадушша і недстатковай пільнасці некаторых кіруючых працаўнікоў (дэканаў ф-таў, парторгаў, членаў парткома) стварылася спрыяючая глеба для пранікнення ў БДУ людзей класава-варожых. На хімфаку ўдалося прытуліцца нават тэрарысту Шэйману.

Смерць тав. Кірава ад рукі агіднага забойцы з ахвосця былой зіноўеўскай групы, расстрэл органамі НКВД тэрарыста Шэймана сільна ўзварухнулі партыйную арганізацыю БДУ. На закрытых партыйных сходах востра было пастаўлена пытанне аб класавай пільнасці, члены і кандыдаты партыі былі мабілізаваны на барацьбу з усякага роду пранікшымі ў БДУ чужакамі, з нездаровымі настроямі, якія часам мелі месца сярод студэнцтва.

Партыйная арганізацыя правяла праверку людскога складу БДУ, прыцягнуўшы да гэтай справы комсамол і лепшую частку беспартыйных. Члены партыі і комсамольцы пачалі ўважліва прыслухоўвацца да ўсяго навакольнага і ўзнімаць на прынцыповую вышыню тыя факты, міма якіх яшчэ ўчора праходзілі, не прыдаючы ім ніякага значэння.

З ростам класавай пільнасці былі выкрыты і выключаны з універсітэта да 80 студэнтаў—людзей класава-чуждых. Члены партыі не раз зварачаліся ў партком з патрабаваннем узняць перад Наркамасветы пытанне аб пераглядзе спраў некаторых аднаўленых ім студэнтаў.

Пад кіраўніцтвам і пры дапамозе гаркома партыі партарганізацыя БДУ правяла вялікую работу па ачыстцы сваіх радоў ад трацкістаў, прымазаўшыхся, прымірэнцаў, ад страціўшых класавую пільнасць (Дзелендзік, Афанасьеў, Кацман, Рабцэвіч і інш.).

З дапамогай крытыкі і самакрытыкі ў працэсе абгаварэння ўрокаў, звязаных з забойствам тав. Кірава, удалося выявіць палітычна блізарукіх, недастаткова пільных членаў партыі і дапамагчы ім выправіць памылкі.

У барацьбе з рознымі вылазкамі партыйная арганізацыя ўзмацнілася, атрымала некаторую загартоўку. Члены партыі, асабліва парторгі і члены парткома, заявілі: «За гэты невялікі перыяд (студзень-люты 1935 года) мы прашлі вялікую школу і зразумелі, што значыць быць пільнымі».

* * *

Узрошую актыўнасць партарганізацыі трэба было замацаваць разгортваннем унутрыпартыйнай работы. Партком парашыў заняцца стварэннем партыйнай сеці па вывучэнню гісторыі партыі. Партарганізацыя БДУ на 70% складаецца з членаў партыі са стажам з 1930-31 года. Таму для іх асабліва важна ведаць, як змагалася наша партыя за правядзенне ў жыццё тэорыі Маркса—Леніна—Сталіна, як яна загартоўвалася, як перамагла ворагаў, яўных і скрытых, зрываючы з іх усе маскі, якімі-б яны ні прыкрываліся.

Па вывучэнню гісторыі партыі арганізаваны 4 гурткі: адзін для кандыдатаў, адзін для актыва і два для радавых комуністаў, а таксама два комсамольскія. Працуюць гурткі бягучай палітыкі для беспартыйнага студэнцтва і той часткі комсамольцаў і партыйцаў рабфака, якая праходзіць гісторыю партыі ў вучэбным плане.

Кіраўнікамі гурткоў па гісторыі партыі прызначаны лепшыя, вытрыманыя комуністы: навуковыя працаўнікі па грамадскіх дысцыплінах, выкладчыкі гісторыі партыі.

Для прапагандыстаў па гісторыі партыі і бягучай палітыцы арганізаваны два семінары. Гурткі праходзяць пасляокцябрскі перыяд. Прапрацаваны тэмы: «Гістарычныя карэнні большэвізма», «Партыя ў 1917 годзе», «Партыя пры пераходзе к нэпу».

Нельга сказаць, што з партвучобай у нас усё ўжо добра. Бывае, што члены партыі, прапагандысты не рыхтуюцца да занясткаў, хоць такія выпадкі паўтараюцца больш рэдка пасля прапрацоўкі на закрытым партсходзе 11 красавіка рашэнняў пленума Ленінградскага гаркома. Наведванне добрае. Усе партыйцы, за невялікім выключэннем, ходзяць на заняткі.

Павышэнню якасці падрыхтоўкі садзейнічае заслухоўванне справаздач прапагандыстаў як на парткоме, так і на партгрупах.

5-га красавіка партком заслухаў самасправаздачу тав. Кецко, з якой выяснілася, што Кецко недастаткова рыхтуецца да заняткаў, мала чытае класікаў марксізма, часопіс «Большевик» і таму яго гурток праходзіць нудна. Партком прызнаў работу Кецко нездавальняючай, указаў яму на неабходнасць стараннай падрыхтоўкі літаратуры, своечасовай распрацоўкі тэмы, уважлівага складання канспектаў і прапанаваў парторгу разгрузіць Кецко ад іншых нагрузак. Зараз тав. Кецко значна палепшыў сваю работу.

Партыйны сход 11/IV пры прапрацоўцы рашэнняў пленума Ленінградскага гаркома прапанаваў парткому і парторгам: разгрузіць прапагандыстаў Паўлоўскага і Пракаповіча ад дадатковых нагрузак; заслухаць самасправаздачы прапагандыстаў Успенскага, Фішкіна, Шпакоўскага і інш.; замацаваць для кіраўніцтва семінарам прапагандыстаў па гісторыі партыі—Карнейчыка, па бягучай палітыцы—Дзьякава; арганізаваць к 1 мая партыйны габінет.

Самасправаздачы прапагандыстаў па бягучай палітыцы паказалі, што лекцыя часта зацягваецца па дзве гадзіны, замест жывой гутаркі ўжываецца настолькі «вучоная» мова, што слухачам робіцца нудна. Не пазбаўлены гэтых недахопаў і больш кваліфікаваныя кіраўнікі гурткоў па гісторыі партыі.

Адзначаючы недахопы прапагандыстаў, партгрупы дапамагаюць выпраўляць іх, чым безумоўна садзейнічаюць палепшанню якасці прапаганды.

Вялікія труднасці ў снабжэнні прапагандыстаў цэнтральнымі газетамі. У нас да 40 прапагандыстаў, 50 групparторгаў, не лічачы членаў парткома і кіруючых працаўнікоў (рэктар, дэканы), а газет цэнтральных атрымліваем 10 экз. Гэтага вельмі мала. Патрэбнасць у газеце часткова задавальняецца праз партгабінет, бібліятэку, вітрыны «Правды» па факультэтах, але ў вельмі нязначнай меры.

Для падвядзення вынікаў партвучобы намечана ў канцы мая тэарэтычная канферэнцыя, да якой пачата падрыхтоўка. Будзе выпушчан спецыяльны нумар шматтыражкі, пастаўлен даклад на пройдзеныя тэмы па гісторыі партыі і праведзена праверка ведаў слухачоў.

Перад партарганізацыяй стаіць агромная работа па вырошчванню сваіх кадраў прапагандыстаў. Нашы наяўныя кадры для гурткоў бягучай палітыкі вельмі маладыя і слаба падрыхтаваныя, ды і іх не хапае, таму некаторыя гурткі яшчэ вельмі грамоздкі. Партыйная і

комсамольская арганізацыі высоўваюць новых людзей. Але, відавочна, асноўны касцяк прапагандыстаў перад пачаткам навучальнага года прыдзецца прапусціць праз спецыяльныя, хоць-бы кароткатэрміновыя курсы.

* * *

Падрыхтоўка партыйных сходаў значна палепшылася. Абвестка дня загадзя прапрацоўваецца на парткоме сумесна з актывам, потым абгаварваецца на партгрупах, дзе выносіцца рад практычных прапаноў. На аснове сабраных прапаноў партком падрыхтоўвае рашэнне і ўрэшце абгаварвае пытанне на агульным партыйным сходзе. Так прапрацоўваўся закрыты ліст ЦК ВКП(б) і рашэнні пленума Ленінградскага гаркома.

У рэзультаце добрай падрыхтоўкі актыўнасць сходаў была вельмі высокай. Не прыходзілася па некалькі раз пытацца, хто хоча выказацца. Наадварот, жадаючых было столькі, што прыходзілася абмяжоўваць час. На апошнім сходзе запісалася 38 чалавек, выказалася 18.

Цікава адзначыць, што папярэдняя прапрацоўка пытання на партгрупах, работа парторга з паасобнымі членамі партыі спрыялі таму, што ў спрэчках пачалі выказвацца людзі, якія звычайна маўчалі. Так, на партсходзе 11 красавіка ўзялі слова Марголін, Шамак, Мірэнбург, Кацман, якія ніколі не выступалі на агульна-універсітэцкіх і нават групавых партсходах. Іх выступленні насілі дзелавы характар і ўнеслі рад канкрэтных прапаноў.

На сходзе 11 красавіка ўпершыню было прынята рашэнне, якое зрабілася па сутнасці планам работы партыйнай арганізацыі на бліжэйшы адрэзак часу. У рашэнні ўказвалася каму, што і ў які тэрмін трэба выканаць, а таксама прызначана к чарговаму партсходу 17 мая інфармацыя сакратара парткома аб выкананні данага рашэння.

Партком на сваім паседжанні 5 мая намеціў абвестку чарговага партыйнага дня: інфармацыя сакратара аб выкананні рашэння папярэдняга сходу, самасправаздача т. Энглінай і, нарэшце, аб тэарэтычнай канферэнцыі па партвучобе. Партком і парторгі (праўда, не ўсе) пачалі апытваць членаў партыі аб тым, якія пытанні яны лічаць патрэбным заслухаць на агульным сходзе, выбіраючы з іх галоўныя.

К аднаму з адкрытых партсходаў, які адбудзецца прыкладна ў сярэдзіне чэрвеня, прапрацоўваецца пытанне «аб ролі соцыялістычнай культуры ў выхаванні новага чалавека». Гэта пытанне цікавіць не толькі партыйна-комсамольскую, але і беспартыйную масу студэнцтва. У парадку падрыхтоўкі гэтага сходу будзе праведзена вывучэнне бытавых умоў раду членаў партыі, комсамольцаў і беспартыйных і праверана, як яны праводзяць выхадны дзень, што чытаюць і т. д.

Прапрацоўка рашэнняў пленума Ленінградскага гаркома прымусіла партыйную арганізацыю заняцца сапраўднай перабудовай, сапраўдным, а не фармальным правядзеннем у жыццё рашэнняў XVII з'езда партыі. Ужо ёсць станоўчыя вынікі ўважлівага падыходу да жывога чалавека: людзі падцягнуліся, усведамляючы адказнасць за даручаную справу.

* * *

Асноваю работы партгруп сталі самасправаздачы комуністаў, праверка нагрузак, дапамога адстаючым членам партыі. Пасля прапрацоўкі 11 красавіка рашэнняў Ленінградскага гаркома было заслухана 15 самасправаздач, з іх на парткоме 2 і на партгрупах: фізмата—3, гістмата—4, хімфака—3 і біяфака—3.

Дрэнна працуе партгрупа геафака, дзе не забяспечыў патрэбнага кіраўніцтва парторг, якога партком вызваліў цяпер ад работы.

Самасправаздача—найлепшая форма для праверкі і росту комуністаў. Ужо адно толькі паведамленне аб тым, што на партсходзе або парткоме будзе слухацца самасправаздача, прымушае комуніста падцягвацца.

Возьмем прыклады. У рашэнні партсхода ад 11 красавіка партгрупе геафака прапанавана заслухаць кандыдата Русінава, які нядрэнна вучыцца, але недастаткова сочыць за сабой, ходзіць растрапаны, нябрыты, не праяўляе актыўнасці ў партрабоце. Зараз Русінаў пачаў сачыць за сабой, заявіў аб нездаволенасці партнагрузкай і, калі яму далі другую, пачаў актыўней працаваць.

Другі прыклад—тав. Кроль з біяфака. На яе пачалі часта паступаць скаргі, што яна мала працуе над сабой, нявытрымана як парторг, замест кіраўніцтва групай заўсёды лаецца з парторгамі і праф-оргам. Партком парашыў заслухаць яе самасправаздачу. Як сведчыць сама Кроль, спрэчкі, якія разгарнуліся па яе самасправаздачы, паказалі, што яна многіх сваіх недахопаў не заўважвала, недастаткова працавала над сабой. «Калі мяне запыталіся, ці чытаю я газеты, і што было ва ўчарайшым нумары, мне так зрабілася сорамна, што нават кінула ў пот. Я неяк і не задумвалася над тым, што трэба штодня чытаць газеты». Партком указаў тав. Кроль, што ёй трэба рабіць як парторгу, як выправіць свае недахопы.

У красавіку партком слухаў справаздачу тав. Мікалаені, пераведзенага па чыстцы з членаў у кандыдаты. Ён дрэнна вучыўся, не наведваў партгурткоў, быў неактыўны на сходах. На парткоме тав. Мікалаеня адкрыта прызнаў, што трымаў сябе не як партыец, уцякаў з заняткаў па ленінізму, баючыся, каб не запыталі, не наведваў партгуртка, бо не рыхтаваўся. Партком прымацаваў яго да т. Дзьякава—рэктара у-та—для сталай кансультацыі па ленінізму, прапанаваў прарэктару гаспадарчай часткі зняць з яго абавязкі па нарыхтоўцы дроў, даручыў т. Маханьку—прапагандысту гуртка, дзе займаецца Мікалаеня—часцей яго запытваць. Партгрупа біяфака, праверыўшы, як выконваецца гэта рашэнне парткома, устанавіла, што Мікалаеня падцягнуўся як у акадэмічнай, так і ў партыйнай вучобе.

Партком заслухаў 26 красавіка самасправаздачу парторга рабфака т. Каленіка, работа якога загадзя была праверана прымацаваным да рабфака членам парткома. У рашэнні парткома Каленіку ўказана, побач з радам станоўчых бакоў, на грубасць у абыходжанні з некаторымі членамі партыі, на тое, што ён часам замест выхавання займаецца адміністраваннем.

Партгрупа рабфака яшчэ не разгарнула ў патрэбнай меры работы па праверцы выканання комуністамі нагрузак, а таксама сваіх уласных рашэнняў і рашэнняў парткома.

Партгрупа хімфака заслухала на апошнім сходзе самасправаздачу свайго прафорга, які з першых-жа дзён сваёй работы пачаў прапускаць акадэмзаняткі і траціць час на бескарысную мітусню. Партгрупа адзначыла гэта ў сваім рашэнні і ўказала, на што ён у першую чаргу павінен звярнуць сваю ўвагу як прафорг і як працаваць, будучы кандыдатам партыі.

Вывучаючы комуністаў, партарганізацыя дапамагае ім своечасова выпраўляць недахопы і ўмацоўваць добрыя бакі работы. Адзін таварыш, нядрэнны прапагандыст, лічыць мяшчанствам культурнасць і гігіену, неахайны ў асабістым жыцці, груба абыходзіўся з тава-

рышамі па пакою і т. д. Партком рашыў заслухаць самасправаздачу гэтага таварыша на закрытым партыйным сходзе, ускрыць усе яго недахопы, каб на гэтым прыкладзе вучыліся і іншыя члены партыі.

У рабоце партыйных груп трэба адзначыць станоўчы момант— практыку праверкі рашэнняў папярэдняга сходу на кожным чарговым; на-жаль не ўсе партгрупы гэтым займаюцца.

* * *

У радзе вышэйшых навучальных устаноў Менска, і ў прыватнасці ў БДУ, доўга існавала шкодная думка, нібы групы спачуваючых арганізоўваюцца толькі на прадпрыемствах. Да апошняга часу ніякай работы ў гэтым напрамку не вялося, пра двух спачуваючых, пераведзеных камісіяй па чыстцы, забылі ўсе, разам з былым сакратаром парткома т. Лемец. І толькі зараз іх выявілі, калі партком як след узяўся за ўцягванне лепшых беспартыйных у групу спачуваючых. Па аднаму фізмату прынята і зацверджана парткомам 5 чалавак: Фрадкіна, Машкоўскі, Абрамовіч, Федаровіч і Калачоў. Усе яны—лепшыя ўдарнікі вучобы, добрыя грамадскія работнікі, рабочыя, калгаснікі, настаўнікі. Сваёй работай яны не раз даказалі, што горача жадаюць змагацца за справу партыі.

Вось што піша т. Калачоў у сваёй заяве: «Улічваючы велізарнае значэнне справы пабудовы бяскласавага грамадства, пабудовы соцыялізма ў нашай краіне і маючы вялікае жаданне аддана працаваць на карысць гэтага ў першых шарэнгах людзей нашай эпохі разам з комуністычнай партыяй і пад яе непасрэдным кіраўніцтвам,—прашу залічыць мяне ў групу спачуваючых пры парткоме БДУ».

За ім падана некалькі заяў з хімфака, з рабфака. Слаба працуюць партгрупы біяфака і АГК, не гледзячы на вялікі рэзерв для росту групы спачуваючых.

* * *

Акрамя гурткоў бягучай палітыкі і адкрытых партсходаў, беспартыйная маса студэнцтва прыцягваецца на палітдні, якія партком пачаў упершыню праводзіць з красавіка месяца. У красавіку праведзена два палітдні: па пытаннях міжнароднай палітыкі і барацьбы з хуліганствам. На кожным прысутнічала да 300 беспартыйных.

Некаторыя партгрупы, разам з комсамолам і прафкомам, нядрэнна праводзяць масавую работу ў інтэрнатах. Вылучаны бяседчыкі, з якімі адзін з членаў парткома праводзіць нарады. У красавіку, пасля агульнага сходу, праведзена гутарка аб канферэнцыі ў Стрэзе, аб усходнім пакце, распрацавалі даклад тав. Коніка аб рабселькораўскім з'ездзе (6 гутарак), прамову Леніна на III з'ездзе комсамола (5 гутарак), даклад тав. Валковіча на пленуме ЦК КП(б)Б (5 гутарак), аб святкаванні 1 Мая і т. д.

У інтэрнаце рабфака абгаворана карціна «Пуцёўка ў жыццё». Зараз па інтэрнатах абгаварваецца карціна «Сяляне». Дрэнна яшчэ тое, што парторгі не навучыліся выкарыстоўваць сваіх бяседчыкаў у якасці інфарматараў аб настроях у інтэрнаце. Бяседчыкі не падбіраюць для сваіх гутарак тэм, якія цікавяць студэнтаў; звычайна робіць гэта старшыня прафкома з дапамогаю парткома. Для ўкаранення гэтай формы работы прыдзецца, як відаць, глыбока і сістэматычна займацца з самімі бяседчыкамі.

* * *

Буйны недахоп у рабоце парткома—слабая работа з парторгамі груп. Калі з парторгамі факультэтаў час ад часу праводзяцца нарады, паседжанні парткома, то з парторгамі груп працуюць толькі факультэцкія парторгі. Нярэдка здараецца, што парторг групы не ведае сваіх абавязкаў і падменьвае сабою ўвесь трыкутнік групы.

Другі буйны недахоп—адсутнасць у некаторых партгрупах праверкі сваіх рашэнняў. Неахайна і няграматна пішуцца гэтыя рашэнні, часта губляюцца, а галоўнае—не правяраюцца (партгрупа гістфака, геафака).

Парторгі недастаткова карыстаюцца ўсімі рычагамі для вывучэння настрояў сярод партыйнай і беспартыйнай масы. Прапагандыстаў, бяседчыкаў, праформаў, газету—усё гэта, не лічачы асабістай гутаркі з людзьмі, можна добра выкарыстаць для сталай жывой інфармацыі.

З прыведзенага відаць, што зрухі ў рабоце партарганізацыі БДУ зроблены не малыя. А самае галоўнае ў тым, што ў цэнтры ўвагі сталі жывыя людзі, іх ідэйна-палітычны рост. Не трэба толькі супакойвацца, а ўсё шырэй і глыбей разгортваць работу па выхаванню і вырошчванню партыйных кадраў. У гэтым—наша асноўная задача.

---

Н. Канаплін

# Новая эпоха савецкай дэмакратыі

На XVII партыйным з'ездзе тав. Сталін характарызаваў вялікую радзіму працоўных усяго свету—СССР, як уцёс, які стаіць асобна сярод бушуючых хваль эканамічных патрасенняў і ваенна-палітычных катастроф у капіталістычных краінах.

Шэсць год прадаўжаецца эканамічны крызіс капіталізма, і, не гледзячы на розныя прадбачанні буржуазных тэарэтыкаў і палітыкаў, капіталізм не мог выбрацца з крызіса і дэпрэсіі асобага роду.

Зусім іншае ў нас:

> «У нас няма непрацуючых фабрык і заводаў, спыненых домен і мартэнаў... У нас будуюцца сотні і тысячы новых прадпрыемстваў... Растуць нібы з-пад зямлі новыя прамысловыя раёны і гарады... Пачаўшыйся росквіт нацыянальных культур на соцыялістычнай аснове прадстаўляе нябачанае відовішча за межамі Савецкага саюза і наогул у сусветнай гісторыі» (**Молатаў**, з даклада аб рабоце ўрада VII з'езду саветаў СССР).

СССР прадэманстраваў перад усім светам канчатковую перамогу соцыялістычнага ладу. «Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай».

Краіна пераможнага соцыялізма па вытворчасці трактароў стаіць на першым месцы ў свеце, па сельскагаспадарчых машынах і па чыгуну—на першым месцы ў Еўропе, па чыгуну і нафце займае другое месца ў свеце, па сталі, электраэнергіі і грузавых электрамашынах—трэцяе і па каменнаму вугалю—чацвертае месца ў свеце. Рэзка змяніўся твар нашай сельскай гаспадаркі. 9/10 усіх пасеўных плошчаў з'яўляюцца калгаснымі і соўгаснымі. Поспехі калгаснага ладу далі краіне магчымасць адмяніць картачную сістэму на хлеб і некаторыя іншыя прадукты.

2-гі з'езд калгаснікаў-ударнікаў, які адбыўся адразу-ж пасля VII з'езда саветаў, дэманстраваў сілу і пераможную трываласць калгаснага ладу, рост свядомасці шырокіх мас працоўнага сялянства, прыняў сталінскі статут калгаснага жыцця.

Усесаюзны з'езд саветаў паказаў, што агромная большасць насельніцтва СССР канчаткова і беспаваротна звязала сваё жыццё з соцыялізмам. Рабочыя і працоўнае сялянства любяць сваю родную савецкую ўладу, яны як ніколі згуртаваны вакол партыі рабочага класа, вакол яе вялікага непахіснага правадыра—тав. Сталіна.

Гэтыя поспехі ў справе перамогі соцыялізма маглі быць дасягнуты толькі на аснове рашучай барацьбы за генеральную лінію ленінска-сталінскай партыі, супроць усякіх праяў правага і «левага» апартунізма, супроць контррэвалюцыйнага трацкізма, у бязлітаснай ба-

рацьбе з рэшткамі капіталістычных класаў у нашай краіне, супроць рэштак трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, якая ператварылася ў белабандыцкую фашысцкую арганізацыю, стаўшы на контррэвалюцыйны тэрарыстычны шлях барацьбы з партыяй і совецкаю ўладай.

Усе гэтыя дасягненні мы маем таму, што мы жывем і змагаемся на аснове совецкага ладу, маем магутную дзяржаву дыктатуры пролетарыята, асноваю якой з'яўляецца грамадская, социялістычная ўласнасць.

> «Мы маем права ганарыцца і мы ганарымся тым, што на нашу долю выпала шчасце **пачаць** пабудову совецкай дзяржавы, **пачаць** гэтым новую эпоху сусветнай гісторыі, эпоху панавання новага класа, прыгнечанага ва ўсіх капіталістычных краінах і ідучага паўсюды да новага жыцця, да перамогі над буржуазіяй, да дыктатуры. пролетарыята, да вызвалення чалавецтва ад ярма капітала, ад імперыялістычных войн» *).

Для працоўных усяго свету ясна, што толькі совецкі лад дае максімум дэмакрытызма для рабочых і сялян, што гэтым новым тыпам дэмакратыі з'яўляецца дыктатура пролетарыята.

Вопыт геройчнай барацьбы пролетарыята СССР на розных этапах з усякімі прошукамі і нападамі буржуазіі сведчыць аб сіле совецкай сістэмы, аб тых невычэрпных магчымасцях, якія крыюцца ў совецкай сістэме гаспадаркі.

* * *

Грандыёзныя змены, што адбыліся ў эканоміцы, не маглі не зрабіць адпаведнага ўплыву на змену суадносін класавых сіл, соцыяльнай структуры ў нашай краіне.

Рашаючымі ў даным выпадку з'яўляюцца перш за ўсё змены суадносін паміж соцыялістычнай уласнасцю і прыватна-ўласніцкай гаспадаркай. Прапорцыя паміж вытворчымі фондамі абодвух катэгорый уласнасці к 1935 г. выражаецца: 96 проц. (першая) і 4 проц. (другая) да ўсёй сумы сродкаў вытворчасці ў нашай краіне. У лічбовых паказчыках удзельная вага капіталістычных элементаў выражаецца ў 0,09% да ўсёй сумы сродкаў вытворчасці.

Гэтым суадносінам у эканоміцы адпавядае і пэўны класавы склад насельніцтва СССР. Рабочыя і служачыя яшчэ ў 1928 годзе складалі 26,3 млн. чалавек, а к пачатку 1934 года гэта лічба павялічваецца да 47,1 млн. чалавек, гэта значыць—28,1% да ўсёй колькасці насельніцтва СССР. Калгаснікі-ж, каапераваныя саматужнікі і рамеснікі складаюць 45,9%, а сяляне-аднаасобнікі (без кулакоў)—22,5%. Апошняя лічба за год скарацілася яшчэ, і аднаасобнікаў засталося каля 1/5 усяго працоўнага сялянскага насельніцтва. У той-жа час капіталістычныя элементы краіны складаюць усяго 0,1% у тым ліку кулакоў—0,09%. У лічбовых адзінках гэта раўняецца 174 тыс. чалавек, у тым ліку кулакоў—149 тыс. чал.

Совецкая канстытуцыя, як асноўны закон дзяржавы дыктатуры пролетарыята, увасабляе ўсе асновы развіцця дыктатуры пролетарыята, як дзяржавы пераходнага часу ад капіталізма к комунізму. Наша канстытуцыя, з'яўляючыся вынікам перамогі пролетарыята над буржуазіяй, «стала сцягам працоўных у барацьбе за соцыялізм» **(Молатаў)**.

Наша канстытуцыя не складалася габінетным шляхам, не выдумля-

*) Ленін, т. XXVII. в. 2-е, стар. 26-37.

лася вучонымі юрыстамі, а стваралася ў ходзе класавай барацьбы. Важнейшай яе асновай ёсць тое, што яна замацоўвае «экспрапрыяцыю экспрапрыятараў», гарантуе дыктатуру пролетарыята, яе далейшае развіццё і ўзмацненне і выразна ўстанаўляе класавы характар і метады ажыццяўлення совецкай, пролетарскай дэмакратыі. Совецкая канстытуцыя паказвае ўсяму свету формы і метады ўдзелу працоўных у кіраванні дзяржавай, паказвае, што «совецкая ўлада ёсць шлях к соцыялізму, знойдзены масамі працоўных і таму—верны і таму—непераможны» *).

Характар нашай дзяржавы, рашучая барацьба з астаткамі капіталістычных класаў, барацьба за ліквідацыю класаў наогул і пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства робіць нашу канстытуцыю жыццёвай і гібкай, г. зн. лёгка змяняемай і дапаўняемай, чаго нельга сказаць ні пра адну з буржуазных канстытуцый. І гэта зусім зразумела.

Буржуазія ў сваіх канстытуцыях адлюстроўвае эксплаатацыю чалавека чалавекам, хоча ўвекавечыць сваё панаванне, грунтуючыся на прынцыпе прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці. На гэтым-жа прынцыпе абгрунтаваны і ўсе так званыя «дэмакратычныя свабоды», якія па сутнасці з'яўляюцца ашуканствам шырокіх мас працоўных і выпрабаваным сродкам палітычнага панавання эксплаататарскай меншасці над эксплаатуемай большасцю.

Сутнасць буржуазных канстытуцый бліскуча характарызаваў у свой час Карл Маркс. Вось як ён гаворыць пра канстытуцыю Францыі 1848 года: «Кожная з гэтых свабод агалашаецца **безумоўным** правам французскага грамадзяніна, але з нязменнаю заўвагай, што яна бязмежна, паколькі яна не абмежавана **«аднолькавымі правамі другіх і грамадскай безапаснасцю»**, або «законамі», якія павінны апасрэдстваваць гэтую гармонію індывідуальных свабод паміж сабою і з грамадскай безапаснасцю» **). Маркс расшыфроўвае формулу «грамадская безапаснасць», указваючы, што гэта ёсць безапаснасць буржуазіі і што ўсе ўмовы і агаворкі ў гэтай канстытуцыі з'уляюцца «паліцэйскай лавушкай». Вось чаму, па думцы Маркса, «Кожны параграф канстытуцыі заключае ў самім сабе сваю ўласную процілегласць, сваю ўласную верхнюю і ніжнюю палату: свабоду—у агульнай фразе, ліквідацыю свабоды—у агаворцы» ***).

Наша канстытуцыя не фетыш, не звычайная дэкларацыя, а моцны сродак барацьбы за ўзмацненне дыктатуры пролетарыята, соцыялістычнай уласнасці, пераробкі чалавека і канчатковай перамогі соцыялізма. Наша канстытуцыя з'яўляецца самай устойлівай і трывалай канстытуцыяй у свеце. Гэта выцякае з класавай прыроды нашай дзяржавы, з таго, што на чале ўлады стаіць пераможны рабочы клас, з таго, што дыктатура пролетарыята—гэта ўлада мільёнаў працоўных, самая ўстойлівая ўлада ў свеце. Гэтыя асновы нязменны, як нязменнымі з'яўляюцца асноўныя прынцыпы совецкага ладу, вызначаныя яшчэ ў «Дэкларацыі праў працоўнага і эксплаатуемага народу».

Развіццё совецкай канстытуцыі ведае некалькі этапаў, якія з'яўляюцца важнейшымі гістарычнымі вехамі ў жыцці нашай дзяржавы. **Першы этап**—гэта лета 1918 г., калі на V усерасійскім з'ездзе советаў была прынята першая совецкая канстытуцыя. Гэты сусветна-гістарычны ўзор лёг у аснову ўсіх канстытуцый брацкіх совецкіх соцыялі-

*) Ленін, т. XXIV, стар. 201.
**) „18 брюмера Луи Бонапарта“, Партиздат. 1933 г., стр. 22.
***) Там-жа, стар. 24.

стычных рэспублік. Канстытуцыйнае афармленне дзяржавы дыктатуры пролетарыята—гэта ёсць этап канстытуявання «эры саветаў» (**Сталін**). «І чым больш,— гаворыць тав. Молатаў,—увасабляліся ў жыццё асновы савецкай канстытуцыі, тым больш паспяхова прасоўвалася ўперад справа соцыялізма ў нашай краіне».

Сіла першай савецкай канстытуцыі праверана агнём грамадзянскай вайны і стварэннем вялікага Саюза ССР, з якога моманту і пачынаецца **другі этап** у развіцці савецкай канстытуцыі. Саюзная канстытуцыя 1923 года ёсць прамое выражэнне перамогі ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. У ёй выражаны намаганні ўсіх народаў нашай вялікай краіны ўсямерна ўзмацняць і абараняць сваю соцыялістычную радзіму, выражаны ў адзінстве класавых інтарэсаў усіх працоўных нацыянальных частак Саюза, звязаных паміж сабою на аснове савецкай сістэмы, інтэрнацыянальнай па сваёй класавай прыродзе. Канстытуцыя СССР дзяржаўна аформіла больш высокі тып савецкага федэралізма.

На 1 з'ездзе саветаў СССР тав. Сталін у сваім выступленні заявіў:

«У гісторыі савецкай улады сёнешні дзень з'яўляецца пераломным. Ён кладзе вехі паміж старым, ужо пройдзеным перыядам, калі савецкія рэспублікі, хоць і дзейнічалі сумесна, але ішлі розна, занятыя перш за ўсё пытаннем свайго існавання, і паміж новым, ужо адкрыўшымся перыядам, калі паасобнаму існаванню савецкіх рэспублік кладзецца канец, калі рэспублікі яднаюцца ў **адзіную савецкую дзяржаву** для паспяховай барацьбы з гаспадарчай разрухай, калі савецкая ўлада думае ўжо не толькі аб існаванні, але і аб тым, каб развіцца ў міжнародную сілу, здольную ўздзейнічаць на міжнародную абстаноўку, здольную змяніць яе ў інтарэсах працоўных» *).

З моманту стварэння СССР прашло 12 год. Узмацнілася дыктатура пролетарыята, расце і квітнее інтэрнацыянальная брацкая салідарнасць народаў СССР. За гэты час некалькі раз у канстытуцыю ўносіліся змены. Але яны датычаць галоўным чынам структуры і практыкі работы цэнтральных і мясцовых органаў улады з мэтай прыстасавання іх да задач соцыялістычнага будаўніцтва. Усе гэтыя змены адлюстроўваюць перамогі палітыкі партыі ў справе індустрыялізацыі нашай краіны і соўгасна-калгаснага будаўніцтва. Унесеныя змены далі магчымасць узмацніць канкрэтнасць і аперацыйнасць кіраўніцтва як па лініі спецыялізацыі наркаматаў і ўнутранай арганізацыі цэнтральных органаў дзяржаўнага кіраўніцтва, так і па лініі ўзмацнення дысцыпліны, рэволюцыйнай законнасці і ўзмацнення аховы соцыялістычнай уласнасці.

Далейшыя перамогі соцыялізма ў нашай краіне, ператварэнне Расіі нэпаўскай у Расію соцыялістычную, змены ў суадносінах класавых сіл патрабавалі змен і ў канстытуцыі ў напрамку яшчэ большай дэмакратызацыі нашай выбарчай сістэмы.

З'езд саветаў, заслухаўшы паведамленне тав. Молатава аб пастанове лютаўскага (1935 г.) пленума ЦК ВКП(б) аб неабходнасці ўнясення некаторых змен у канстытуцыю Саюза ССР,—пастанавіў унесці гэтыя змены ў двух напрамках: 1) далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы ў сэнсе замены не зусім роўных выбараў роўнымі, шмат-

*) Зборнік „10 лет конституции СССР" ОГИЗ, 1933 г. стр. 5.

ступенных—прамымі, адкрытых—закрытымі і 2) удасканалення соцыяльна-эканамічнай асновы канстытуцыі ў сэнсе прывядзення канстытуцыі ў адпаведнасць з сучаснымі суадносінамі класавых сіл у СССР.

Бясспрэчна, што гэта пастанова, прынятая па ініцыятыве тав. Сталіна, мае агромнае гістарычнае і міжнароднае значэнне. Яна адкрывае новую эпоху ў развіцці совецкага дэмакратызма, дае магчымасць яшчэ больш бурна расці свядомасці і культурнасці працоўных нашай краіны. Разам з тым гэта рашэнне з'яўляецца моцным рэволюцыян'зуючым фактарам міжнароднага рабочага руху, бо працоўныя ўсяго свету яшчэ больш могуць упэўніцца ў тым, што толькі новы тып дзяржавы—дыктатуры пролетарыята—можа быць самай дэмакратычнай, культурнай і свабоднай краінай у свеце.

* * *

Советы былі і застаюцца асновай нашага ладу, асновай далейшага развіцця совецкага пролетарскага дэмакратызма.

Окцябрская рэволюцыя адкрыла эру пролетарскай дэмакратыі.

Новы тып дэмакратыі прынцыпова адрозніваецца ад буржуазнага дэмакратызма. Замест буржуазнага парламентарызма, замест гэтай чужой установы для працоўных мас, створаны новыя органы панавання.

Праз советы мільёны працоўных ажыццяўляюць сваю волю і класавыя інтарэсы. З'яўляючыся самым прамым выяўленнем волі працоўных, советы з'яўляюцца непасрэднымі арганізацыямі саміх працоўных і эксплаатуемых мас, праз якія (арганізацыі) гэтыя мільёны маюць магчымасць будаваць сваю дзяржаву і кіраваць ёю.

> «Совецкая арганізацыя аблягчае яднанне ўсіх працоўных і эксплаатуемых вакол іх авангарда, пролетарыята... Пролетарская дэмакратыя ў мільён раз дэмакратычней усякай буржуазнай дэмакратыі; Совецкая ўлада ў мільёны раз дэмакратычней самай дэмакратычнай буржуазнай рэспублікі» *).

Працоўныя масы СССР зразумелі, што советы—гэтыя самыя дэмакратычныя органы ў свеце—з'яўляюцца органамі іх улады, з якіх выключаны ўсе былыя эксплаататары і непрацоўныя элементы. У сваім творы «Ці ўтрымаюць большэвікі дзяржаўную ўладу» Ленін з уласцівай яму празарлівасцю генія рэволюцыі ўказаў асноўныя рысы новага дзяржаўнага ладу, якія большэвікі ўтрымаюць у сваіх руках іменна дзякуючы таму, што гэты новы лад дасць такую непараўнальна больш высокую арган'зацыю мас, якой не маглі і не змогуць дасягнуць ніякія іншыя класы.

Пролетарская дэмакратыя грунтуецца на тым прынцыпе, што адказнейшыя задачы соцыялістычнага будаўніцтва вырашаюцца самімі масамі. Тут няма таго бар'ера, які аддаляе дзяржаўны апарат ад працоўных,—пролетарыят і асноўныя масы працоўнага сялянства ўдзельнічаюць у кіраўніцтве дзяржавай. Гэта і ёсць большасць у сістэме совецкай дэмакратыі. Гэта і ёсць сапраўдны народ.

У межах совецкай дэмакратыі акрэслена выражана вядучая і кі-

*) Ленін. Выбраныя творы, т. IV, стар. 100 і 101.

руючая роля пролетарыята, як класавага гегемона, які ажыццяўляе пад кіраўніцтвам партыі саюз рабочага класа з сялянствам.

Магутны арганізм совецкай дэмакратыі, яе развіццё і творчая яе праца накіроўваецца адзінай маналітнай сілай комуністычнай партыі— гэтай «вышэйшай формы класавай арганізацыі пролетарыята» (**Сталін**). Партыя была, ёсць і застаецца перадавым атрадам пролетарыята ў яго барацьбе за знішчэнне капіталізма і пабудову комунізма. Іменна таму ўсе здраднікі, рэнегаты, двурушнікі і белагвардзейцы, гаворачы аб совецкай дэмакратыі, адначасова выступаюць супроць нашай партыі. Іменна таму іх лютасць і шалёная ненавісць накіраваны супроць таго, хто цвёрда і непахісна ажыццяўляе справу кіраўніцтва міжнародным пролетарыятам у яго барацьбе за сусветную рэволюцыю,—вялікага Сталіна.

Партыя заўсёды давала і будзе даваць рашучы адпор усякім спробам адрываць партыю ад советаў, а таксама атоесамляць дыктатуру пролетарыята і кіруючую ролю партыі ў сістэме дыктатуры пролетарыята, або процістаўляць дыктатуру дэмакратыі.

Ленін у сваёй рабоце «Пролетарская рэволюцыя і рэнегат Каўцкі» наглядна паказаў, што такое процістаўленне Каўцкаму неабходна было для скажэння класавай сутнасці совецкага дэмакратызма і для абароны панавання буржуазіі. Па Каўцкаму совецкая дэмакратыя павінна была дапусціць да палітычнага жыцця і меншасць насельніцтва, г. зн. і буржуазію, у праціўным выпадку нібы парушаюцца ўсякія прынцыпы дэмакратыі, знішчаецца сама дэмакратыя. Тут Каўцкі выступае як патэнтаваны апалагет буржуазнага ладу. Ён за ахову інтарэсаў меншасці, інтарэсаў буржуазіі. Ён аперыруе звычайнымі матэматычнымі катэгорыямі: большасць і меншасць, забываючы пры гэтым, як гаворыць Ленін, «гістарычную праўду» *), якая заключаецца ў правіле, што пры ўсякай глыбокай рэволюцыі эксплаататары доўга, упарта, шалёна супраціўляюцца, бо ў іх застаецца надзея, а гэта надзея ператвараецца ў спробу рэстаўрацыі.

На гэтым соцыял-фашысцкім шляху процістаўлення дыктатуры дэмакратыі стаіць і пан Троцкі. У гутарцы з амерыканскай дэлегацыяй у жніўні 1927 года на запытанне: што існуе ў нашай краіне—«дэмакратыя» ці «дыктатура партыі»,—Троцкі адказаў меншавіцкімі разважаннямі аб «дэмакратыі **наогул**» і «дыктатуры **наогул**». Ён не паказаў класавай сутнасці **пролетарскай дэмакратыі,** як новай і непараўнальна **вышэйшай** формы дэмакратыі. Усю розніцу паміж буржуазнай і пролетарскай дэмакратыяй ён звёў толькі да «маскіроўкі», якая, моў, патрэбна для буржуазіі і не патрэбна для пролетарыята. Выхаласціўшы класавую сутнасць нашай дэмакратыі, Троцкі стаў на шлях адрознення «стану» і «формы кіравання», што ў свой час Уладзімір Ільіч назваў «машэнніцкім фокусам».

> «Калі не здзекавацца над здравым сэнсам і над гісторыяй, то ясна, што нельга гаварыць аб «чыстай дэмакратыі», пакуль існуюць розныя **класы,** а можна толькі гаварыць аб **класавай** дэмакратыі» **).

Гэтым-жа «машэнніцкім фокусам» Троцкі падмяніў марксісцка-ленінскі аналіз пытання аб **новым тыпе** дзяржавы дыктатуры пролетарыята.

---

*) Ленін. Выбраныя творы, т. IV, стар. 105
**) Ленін. Выбраныя творы, т. IV, стар. 96.

Меншавік Троцкі разам з Кауцкім стаіць на тым пункце *погляду*, які Ленін называе «пунктам погляду **буржуазнага** дэмакрата, які не прызнае, што інтарэс пролетарыята і пролетарскай класавай барацьбы стаіць вышэй» *).

З гэтай меншавіцкай установкі выцякае і другі адказ Троцкага той-жа дэлегацыі аб свабодах у СССР. Тут ён замоўчаў пытанне аб свабодах для **рабочага класа** ў нашай краіне, і ў той-жа час ён,—як вораг дыктатуры пролетарыята, лічачы, што рамкі «дэмакратыі» павінны быць пашыраны для ўсякай контррэволюцыйнай сволачы,—дапускае ў гутарцы **прыўгожванне буржуазнай дэмакратыі,** сцвярджаючы, што «рабочыя ў любой дэмакратычнай краіне маюць права на свой друк, свае сходы і інш.»

Усе гэтыя разважанні соцыял-фашыста Троцкага з'яўляюцца прамой атакай супроць партыі, супроць яе кіраўніцтва, супроць тав. Сталіна. Адсюль трацкісцкая брахня на СССР, як перарадзіўшуюся тэрмідарыянскую дзяржаву, адмаўленне пролетарскай дыктатуры ў СССР і контррэволюцыйная барацьба супроць яе.

На гэтым-жа шляху стаяў і саратнік Троцкага— Зіноўеў. Совецкая дэмакратыя, па яго думцы, азначае «выскабліванне» соцыяльнага зместу пролетарскай дыктатуры. «Найбольш вострая паласа дыктатуры» скончылася эпохай ваеннага комунізма, калі ніякай дэмакратыі, па Зіноўеву, не было, і таму пры нэпе «ажыццяўленне совецкай дэмакратыі» можа «патрэсці дыктатуру пролетарыята».

Процістаўленне дэмакратыі дыктатуры Зіноўеў праводзіць і ў пытанні аб рэволюцыйнай законнасці, якую ён зразумеў як змест «мірнага» будаўніцтва, як змякчэнне дыктатуры пролетарыята.

Гэта значыць, што дыктатура пролетарыята ў перыяд нэпа па сутнасці разглядаецца, як тып буржуазнай дзяржавы—парламенцкай рэспублікі. Гэтыя погляды як нельга лепш паказваюць, што Зіноўеў разглядаў нэп як адступленне, як палітыку, якая вядзе да ліквідацыі дыктатуры пролетарыята.

Невыпадкова-ж Зіноўеў падмяніў дыктатуру пролетарыята «дыктатурай» партыі, паставіўшы знак роўнасці паміж «дыктатурай» партыі і сістэмай советаў.

Гэтая падмена дыктатуры пролетарыята дыктатурай партыі ёсць ні што іншае, як меншавіцкі тэзіс процістаўлення партыі масам, вядзе да адрыву партыі ад шырокіх працоўных мас, да ліквідацыі дыктатуры пролетарыята. Гэтая падмена дыктатуры пролетарыята дыктатурай партыі азначае, як гаворыць тав. Сталін, лозунг Кауцкага і меншавікоў аб тым, што наша краіна з'яўляецца краінай дыктатуры партыі, г. зн. дыктатуры правадыроў.

Пан Троцкі і Зіноўеў выступалі з патрабаваннем свабоды фракцыйных груповак у партыі. Гэта значыць, як указаў тав. Сталін, «што следам за свабодай палітычных груповак у партыі павінна прыйсці свабода палітычных партый у краіне, г. зн. буржуазная дэмакратыя»**). Не выпадкова-ж Зіноўевым у свой час было заяўлена, што ў гіндэнбургаўскай Германіі больш дэмакратыі, чым у нас, а ў 1927 годзе—у дзень 10-годдзя Окцябрскай рэволюцыі—трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыяй была зроблена спроба выступіць з антысовецкай дэманстрацыяй. Што азначалі гэтыя спробы і да чаго яны прывялі контррэволюцыянераў Троцкага, Зіноўева і Каменева—цяпер ужо ведаюць працоўныя ўсяго свету.

*) Ленін. Выбраныя творы, т. IV, стар. 117.
**) Сталін. Пытанні ленінізма, стар. 194.

* * *

Пролетарская рэволюцыя, як адзначаюць Маркс і Энгельс у «Комуністычным маніфесце»,—гэта «самы рашучы разрыў з унаследванымі ад мінулага ідэямі». Гэтымі ідэямі мінулага з'яўляюцца і ідэі буржуазнага парламентарызма і чыстай дэмакратыі з яе лозунгамі «свабода і роўнасць».

Усе атрыбуты «чыстай» дэмакратыі з важнейшым яе прынцыпам—народным прадстаўніцтвам—нарадзіліся ў эпоху барацьбы буржуазіі супроць феадалізма. У гэты час буржуазія тварыла ў адносінах да сярэдневякоўя гістарычна-прагрэсіўную справу і высунула эканамічныя і палітычныя патрабаванні, якія знашлі сваё адлюстраванне ў вядомай «Дэкларацыі праў чалавека і грамадзяніна» эпохі французскай рэволюцыі 1789 г. У ёй з усёй паслядоўнасцю выражаны прынцыпы пабудовы буржуазнага грамадства, стварэнне новых капіталістычных вытворчых адносін. Асабліва чотка паказана сутнасць новага ўзыходзячага класа і мэта яго барацьбы за новыя грамадскія адносіны ў 17-м артыкуле «Дэкларацыі», які абвяшчае права прыватнай уласнасці «свяшчэнным і недатыкальным правам грамадзяніна».

Буржуазія ў барацьбе з феадалізмам у эпоху буржуазных рэволюцый абвяшчала сябе адзінай законнай прадстаўніцай усяго народу, выразніцай агульна-народнай волі, волі большасці, асвяшчонай законамі. Але важнейшыя грамадзянскія правы чалавека ўласцівы фактычна толькі тым, хто мае матар'яльныя ўмовы карыстацца гэтымі правамі, мае сродкі вытворчасці. Такім чынам дэкляраваныя «правы» і «свабоды» для большасці насельніцтва ператвараюцца ў бяспраўе і несвабоду, у сродак класавага панавання меншасці над большасцю.

> Аднак, «дэмакратычная рэспубліка і ўсеагульнае выбарчае права ў параўнанні з прыгонніцкім ладам былі агромным прагрэсам: яны далі магчымасць пролетарыяту дасягнуць таго яднання, таго згуртавання, якое ён мае, стварыць тыя стройныя дысцыплінаваныя рады, якія вядуць сістэматычную барацьбу з капіталізмам» *).

Ленін раіў не забываць гістарычную абмежаванасць і ўмоўнасць буржуазнага парламентарызма, узнікшага на пэўнай стадыі развіцця чалавечага грамадства. Гэта адносіцца і да ўсеагульнага права. Буржуазія ператварае гэтае ўсеагульнае права ў сродак палітычнага ўздзеяння на шырокія працоўныя масы, карыстаецца ім у ашуканскіх мэтах, вуалюючы свой эксплаататарскі змест, ператвараючы органы «народнага прадстаўніцтва» у месцы для заключэння сваіх палітычных і камерцыйных здзелак.

Эпоха імперыялізма—гэта эпоха крызіса парламентарызма і буржуазнай дэмакратыі.

Гэта зжыванне парламентарызма ідзе па меры таго, як развіваецца манапалістычны капіталізм. У перыяд прамысловага капіталізма з яго адноснай «свабоднай канкурэнцыяй» патрэбна была і адпаведная дзяржаўная ўстанова, якая магла-б адлюстроўваць «свабодную гульню» так званай грамадскай думкі і палітычных партый. Манаполія-ж, узнікаючая побач са свабоднай канкурэнцыяй, вядзе к далейшай канцэнтрацыі капітала ў нямногіх руках і ў адпаведнасці з гэтым—к цэнтралізацыі палітычнай улады. Біржы зрошчваюцца з урадам, падпарадкваюць сабе ўсю палітыку краіны.

*) Ленін, т. XXIV, стар. 375.

Праграма Комінтэрна характарызуе гэты перыяд наступнымі асаблівасцямі:

«Эпоха імперыялізма, абвостранне класавай барацьбы і нарастанне, асабліва пасля сусветнай імперыялістычнай вайны, элементаў грамадзянскай вайны прывялі да банкроцтва парламентарызма. Адсюль «новыя» метады і формы кіравання (напрыклад, сістэма малых габінетаў, стварэнне закулісных алігархічных груп, падзенне і фальсіфікацыя ролі «народнага прадстаўніцтва», укарачэнне і знішчэнне «дэмакратычных свабод» і т. д.)».

Асабліва рашуча буржуазія адыходзіць ад прынцыпаў парламентарызма ў апошні перыяд, калі, як гэта паказаў на XVII партз'ездзе тав. Сталін, «пануючыя класы капіталістычных краін старанна знішчаюць або зводзяць на ніштo апошнія астаткі парламентарызма і буржуазнай дэмакратыі, якія могуць быць скарыстаны рабочым класам у яго барацьбе супроць прыгнятальнікаў», бо буржуазія ўжо не ў сілах уладаць старымі метадамі панавання і таму «не дзіўна, што фашызм стаў цяпер найбольш модным таварам сярод ваяўнічых буржуазных палітыкаў» *).

Чым іншым, як не цацкаю ў руках Мусаліні, з'яўляецца італьянскі «парламент» 400 фашыстаў, загадзя зацверджаных вялікім фашысцкім саветам, пасля чаго прапануецца насельніцтву краіны галасаваць. Або чаго варты фашысцкі рэйхстаг, які збіраецца толькі для таго, каб вітаць свайго «фюрэра» Гітлера і праявіць сваю салідарнасць існуючаму рэжыму. Практыка германскага фашысцкага «парламента» ведае ўжо прэцэдэнт, калі замест адных дэпутатаў проста старшынёю рэйхстага—ён-жа старшыня нацыянал-соцыялістычнай фракцыі (іншых партый у рэйхстагу няма)—зацвярджаюцца новыя «дэпутаты».

Згодна прынятай у сакавіку месяцы гэтага года новай польскай канстытуцыі, уся дзяржаўная ўлада сканцэнтравана ў руках прэзідэнта, які ні перад кім не з'яўляецца справаздачным, сам прызначае міністраў, склікае і распускае парламент, г. зн. сойм і сенат. Гэта на мове новай канстытуцыі завецца—даваць адказ толькі «перад богам і гісторыяй». Згодна гэтай фашызаванай канстытуцыі, значна скарачаюцца правы сойма, які да гэтага часу не мог пахваліцца якімі-небудзь сапраўднымі правамі. Адмяняюцца прапарцыянальныя выбары і павялічваецца ўзросны цэнз да 24 год, што яшчэ больш зменшыць колькасць выбаршчыкаў.

Польскі буржуазны друк спявае гімны гэтаму здарэнню, а ў касцёлах адбываюцца малебны з поваду таго, што «польская дзяржава знашла новую для сябе аснову». На справе-ж гэта значыць, што «Рэч Паспаліта» яшчэ больш фашызуецца і прымае ўсе меры да захавання і ўмацавання эксплаатацыі шырокіх працоўных мас.

Практыка змен буржуазнай канстытуцыі паказвае адмаўленне або рэзкае звіжэнне праў парламента і пераход да канцэнтрацыі рэальнай улады ў руках невялічкай колькасці асоб, не звязаных ніякім кантролем нават мізэрнага «народнага прадстаўніцтва». На такой-жа пазіцыі ва Францыі стаіць Тард'е са сваім праектам новай французскай канстытуцыі. Заўсёды і ўсюды ў буржуазных краінах дэмакратыя існуе для багатых. Там «прыгнечаным раз у некалькі год дазваляюць вырашаць, які іменна з прадстаўнікоў прыгнятаючага класа будзе ў

*) Сталін. Пытанні ленінізма, выд. 10-е, стар. 544—545.

парламенце прадстаўляць і падаўляць іх» (**Ленін**). Там дэмакратыі, свабоды і роўнасці для большасці насельніцтва існаваць не можа.

Возьмем для прыкладу хвалёную «вялікую заакіянскую дэмакратыю» і дамо слова вядомаму амерыканскаму палітычнаму дзеячу Петыгру, даўшаму ў сваёй кнізе «Торжествующая плутократия» шмат выключна яркіх фактаў і характарыстык дзейнасці буржуазнай дэмакратыі і вельмі трапна ўскрываючага палітычную страпню і прадажнасць у сістэме амерыканскай дэмакратыі. Для таго, каб мець уяўленне, на якой соцыяльна-эканамічнай аснове грунтуецца гэта «дэмакратыя», прыводжу даныя аб размеркаванні маемасці ў ЗША. Аказваецца, 65 проц. жыхароў уладаюць 5 проц. народнага багацця, а 2 проц.—буржуазіі—уладаюць 60 проц. яго. Петыгру прыходзіць к вываду, што гэтыя 2 проц. багаты на «законных» падставах, дзякуючы таму, што яны маюць у сваіх руках увесь механізм дзяржаўнага апарата,—проста ўкралі тое, што стварылі ў краіне іншыя. Гэтыя правы буржуазіі запісаны, вядома, у канстытуцыі, якая «была створана для абароны правоў уласнасці і на працягу 125 гадоў свайго існавання яна так задавальняла свайму прызначэнню, што ў сучасны момант яна стаіць перад намі не толькі як галоўны аплот прывілеяў і ўзаконенай несправядлівасці ў Амерыцы, але як найвялікшы калі-небудзь напісаны дакумент для абароны праў кучкі багачоў, якія грабяць і эксплаатуюць масы» (стар. 136).

Вось чаму Петыгру, нарэшце, робіць вывад, што ЗША «больш не рэспубліка і не дэмакратыя і нават не падабенства таго ці іншага» (стар. 362).

Буржуазная дэмакратыя ёсць форма дыктатуры буржуазіі. У руках буржуазіі яна з'яўляецца лепшаю зброяй для таго, каб самыя чорныя сілы рэакцыі і каты працоўных траплялі ў габінеты міністраў і на пасты кіраўнікоў дзяржавы, а лепшыя сыны пралетарыята—у турмы, канцлагеры, на шыбеніцы або электрычнае крэсла.

* * *

Совецкае прадстаўніцтва ствараецца на аснове самага шырокага ўдзелу рабочых мас у выбарах у советы, а існуючыя абмежаванні для эксплаататараў носяць адкрыта класавы характар і разлічаны на пэўны пераходны перыяд:

> «Абмежаванні свабоды неабходны выключна ў якасці часовых мер барацьбы са спробамі эксплаататараў адстаяць або аднавіць свае прывілеі. Па меры таго, як будзе знікаць аб'ектыўная магчымасць эксплаатацыі чалавека чалавекам, будзе знікаць і неабходнасць у гэтых часовых мерах, і партыя будзе імкнуцца да іх звужэння і да поўнай іх адмены» (з праграмы партыі).

Амаль 18 год існавання дыктатуры пралетарыята паказалі, што нашы выбары даюць не толькі новы тып дэмакратычнага прадстаўніцтва, але і ствараюць увесь апарат дзяржаўнага кіраўніцтва знізу даверху самімі масамі пры самым шырокім і дзейным удзеле гэтых мас у кожным кроку нашага жыцця. Наша сістэма выбараў знішчае «адмоўныя бакі парламентарызма, асабліва аддзяленне заканадаўчай і выканаўчай улады, адарванасць парламента ад мас і інш.» *) і дае максімум магчымасці збліжэння дзяржапарата з масамі. Гэта і ёсць, як

*) Ленін. т. XXIV, стар. 95.

гаворыць Ленін,—«Совецкі шлях выпрацоўкі агульнай волі і агульнага рашэння», г. зн. што праз совецкія выбары могуць быць цалкам і поўнасцю выражаны інтарэсы мільёнаў, воля сапраўднай народнай большасці пры выключэнні з выбараў нязначнай колькасці непрацоўнага насельніцтва—эксплаататараў і іх прыспешнікаў. Так, у адбываўшыхся ў 1934 годзе выбарах у советы на 91 млн. выбаршчыкаў пазбаўлены правоў крыху больш 2 млн. асоб, што складае 2,5 проц. да ліку выбаршчыкаў. З года ў год павялічваецца колькасць выбаршчыкаў і процант яўкі на выбары. 85 проц. яўкі на выбары па СССР ў 1934 годзе, пры 92 проц. яўкі ў гарадах і пры значным павышэнні актыўнасці ў выбарах жанчын (у гарадах да 90 проц., а ў сельскіх мясцовасцях да 80 проц.) сведчыць аб высокай палітычнай свядомасці працоўных нашай краіны, аб росце культуры тых, хто сапраўды ў нас кіруе дзяржавай.

Ні ў адной буржуазнай дзяржаве гэтага няма, там кола выбаршчыкаў усё звужваецца, скарачаецца славутая «чатырохвостка» шляхам разгону выбарчых сходаў, ужывання цэнзаў, асабліва ўзроснага, аселасці і інш. Калі-ж да гэтага дадаць, што вялікая колькасць працоўнага насельніцтва, якая фармальна мае права ўдзельнічаць у выбарах, проста не заносіцца ў спісы выбаршчыкаў з прычыны прыстасавання да яе паасобных цэнзаў, то стане зусім ясна, што пры так хвалёнай «усеагульнасці» выбараў у буржуазных краінах пазбаўляецца выбарчых правоў надзвычай высокі процант насельніцтва. Так, у апошніх выбарах ЗАШ са 119 млн. насельніцтва ўдзельнічала каля 20 млн., а ў Італіі з 40 млн.—12 млн., з якіх у апошні раз галасавала толькі 8 млн. чалавек.

Класавую сутнасць буржуазных усеагульных выбараў класічна выразіла французская буржуазія яшчэ ў 1719 г. у сваёй першай канстытуцыі: «Каб быць актыўным грамадзянінам, неабходна мець ад роду поўных 25 год, пражываць у горадзе або кантоне на працягу ўстаноўленага законам часу, плаціць у якім-небудзь месцы каралеўства прамы налог..., не быць у становішчы наёмнага слугі».

Гэтыя прынцыпы ў розных варыянтах існуюць ва ўсіх сучасных буржуазных канстытуцыях. Так, у Англіі выбіраць маюць права мужчыны, дасягнуўшыя 21 года, а жанчыны—30 год. У Венгрыі выбарчым правам карыстаюцца мужчыны толькі з 24 год, а жанчыны—з 30 год, акрамя таго жанчыны павінны мець сярэднюю асвету, або вышэйшую адукацыю—іх мужы. Калі да гэтага дадаць, што буржуазія пераплятае гэты прынцып «усеагульнасці» са звычайным падтасаваннем вынікаў кампаніі, з метадамі тэрора, дык стане зразумелым, хто пападае ў буржуазныя прадстаўнічыя органы, чаму яны з'яўляюцца прадстаўнікамі бірж і магнатаў капітала.

Социялістычная дэмакратыя ў нашай краіне адкрывае шлях да поўнапраўнага жыцця ўсіх чэсных працаўнікоў, а перамога социялізма скарачае колы той часткі лішэнцаў, якія даказалі на справе, што яны спынілі барацьбу супроць совецкай улады і сталі на шлях чэснага, працоўнага жыцця. Усё гэта падкрэслівае сілу нашай дзяржавы, паказвае сілу совецкай дэмакратыі, паказвае, што «Совецкі саюз усё бліжэй падыходзіць да поўнай адмены ўсякіх абмежаванняў усеагульнага выбарчага права» (з даклада тав. Молатава).

Другім атрыбутам буржуазнай «чатырохвосткі» з'яўляюцца «роўныя» выбары. Буржуазныя адвакаты гавораць, што ўсе колы насельніцтва і ўсе класы буржуазнага грамадства роўны перад законам, аднолькава праз выбарчыя бюлетэні і урны прымаюць удзел у ства-

рэнні дзяржаўнай улады. Але ўсе гутаркі аб роўнасці, без уліку класавага зместу гэтага лозунга, без уліку таго, у якіх гістарычных умовах і якім класам ён высоўваецца, ёсць ашуканства працоўных мас. Агульная-ж фраза аб роўнасці адлюстроўвае на справе адносіны таварнай вытворчасці, заснаванай на прынцыпе прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці. Паводле «дэмакратычнай» формулы аб роўнасці, Рокфелер ровен быламу рабочаму яго завода, сёння паміраючаму з голаду, а Рузвельт ровен кожнаму негру, які па малейшаму поваду можа быць падвергнут лінчаванню.

Фактычную роўнасць трэба разумець толькі як знішчэнне прадпасылак і ўмоў эксплаататацыі чалавека чалавекам, як знішчэнне класаў.

«Пакуль не знішчожаны класы, усякія размовы аб свабодзе, роўнасці наогул з'яўляюцца самаашуканствам або ашуканствам рабочых, а таксама ўсіх працоўных і эксплаатуемых капіталам, з'яўляюцца... абаронай інтарэсаў буржуазіі. Пакуль не знішчожаны класы, пры ўсякім разважанні аб свабодзе і роўнасці павінна быць пастаўлена пытанне: свабода для якога класа? і для якога іменна ўжывання? роўнасць якога класа з якім? і ў якіх іменна адносінах?» *).

Вось чаму не прыходзіцца дзівіцца, што заснаваныя на падобнай роўнасці выбары прыводзяць у парламент не сапраўдных прадстаўнікоў шырокіх мас працоўных, а дэпутатаў-банкіраў, прамыслоўцаў і іншых прадстаўнікоў буржуазіі.

* * *

Далейшая дэмакратызацыя савецкай выбарчай сістэмы ідзе па лініі замены **не зусім роўных—роўнымі выбарамі.**

У свой час наша канстытуцыя ўстанавіла некаторыя выбарчыя прывілеі для прамысловага пролетарыята, што з'яўляецца адным з моцных сродкаў забяспечання кіруючай ролі гарадскога пролетарыята на вёсцы. Гэта няроўнасць выражалася ў модусе прадстаўніцтва на з'езды, як 1 : 5 у карысць пролетарыята.

За гэтую няроўнасць нас неаднакроць папракалі ўсякія «аматары» «працоўнай дэмакратыі»—эсэры і меншавікі. Гэтыя плакальшчыкі «чыстай» дэмакратыі не хацелі ведаць, прызнаваць таго, што хоць рабочыя і сяляне былі труджанікі, але селянін у гэты-ж час з'яўляўся і ўласнікам, які трымаў у сваіх руках хлеб і лічыў, што гэта хлеб яго і што ён вольны яго прадаваць.

«Селянін у гэтым не павінен, але яго эканамічныя ўмовы такія, што ён жыве ў таварнай гаспадарцы, жыў дзесяткі і сотні год, прывык абменьваць свой хлеб на грошы... І вось, пакуль застаецца таварная гаспадарка, пакуль ёсць галодныя рабочыя побач з хаваючым лішкі хлеба сытым селянінам, да таго часу застаецца пэўная процілегласць інтарэсаў рабочых і сялян» **).

Толькі ў гэтай сувязі і было пастаўлена пытанне аб часовай няроўнасці ў выбарчых правах рабочых і сялян. Гэтая няроўнасць партыяй не ўзводзілася ў фетыш, а, наадварот, як гэта было паказана вышэй, праграма партыі «абавязваецца сістэматычна працаваць над

*) Ленін. т. XXV, стар. 469—470.
**) Ленін. т. XXIV, стар. 301.

знішчэннем гэтай няроўнасці больш арганізаванага пролетарыята з сялянствам, няроўнасці, якую нам прыдзецца адкінуць, як толькі нам удасца ўзняць культурны ўзровень. Тады мы зможам абыйсціся без такіх абмежаванняў» *).

Патрабаванні гэтага ўраўнання на ранейшых ступенях развіцця нашай дзяржавы і класавай барацьбы Владзімір Ільіч называў «праграмай Калчака».

Калгасны лад перамог, сяляне сталі непасрэднымі актыўнымі будаўнікамі соцыялізма, хоць яшчэ і не сцёрлася поўнасцю розніца паміж рабочымі і сялянамі. Але цяпер патрэбнасць у гэтых не зусім роўных выбарах адпадае. Вялікая агульная справа рабочых і сялян—пабудова бясклясавага соцыялістычнага грамадства—яднае іх яшчэ больш і ўзнімае аўтарытэт пролетарыята і яго авангарда. Вось чаму адна з новых форм совецкага дэмакратызма—пераход да ўраўнання сялян у выбарных правах з пролетарыятам—развівае яшчэ больш усю справу соцыялізма, узмацняе магутнасць нашай дзяржавы.

Разам з тым замена не зусім роўных выбараў роўнымі ні ў якой меры не здымае пытання аб кіруючай ролі пролетарыята ўсімі працоўнымі нашай краіны. Якраз наадварот. У сувязі з велізарнымі перспектывамі нашай дзяржавы, выкліканымі ўздымам совецкага дэмакратызма на новую вышыню, перад рабочым класам і яго партыяй узнікаюць важнейшыя, складанейшыя задачы ў справе далейшага перавыхавання ўсіх працоўных, знішчэння класаў і ў далейшым аказання ўздзеючай ролі на ліквідацыю перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей.

Пролетарыят, як больш загартаваны, рэволюцыйна ўстойлівы і самы свядомы клас, застаецца кіраўніком і ўлады сваёй нікому не ўступае і яе не дзеліць. Наша дзяржава па класавай прыродзе сваёй і надалей застаецца трывалай дыктатурай пролетарыята, якая яшчэ больш умацоўваецца.

Гістарычная роля пролетарыята, як гегемона ў справе пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства, геніяльна паказана Леніным у яго прывітанні венгерскім рабочым:

> «Толькі той з прыгнечаных класаў здолен сваёй дыктатурай знішчыць класы, які навучан, аб'яднан, выхаван, загартован дзесяцігоддзямі стачачнай і палітычнай барацьбы з капіталам,— толькі той клас, які ўсвоіў сабе ўсю гарадскую, прамысловую... культуру, мае рашучасць і здольнасць адстаяць яе, захаваць і развіць далей усе яе заваёвы, зрабіць іх даступнымі ўсяму народу, ўсім працоўным» **).

Гэтыя выдатныя словы генія пролетарскай рэволюцыі набываюць у сучасны момант найвялікшае значэнне.

Толькі пры захаванні і ўзмацненні кіруючай ролі пролетарыята і партыі мы можам уявіць сабе, што змены ў нашых выбарах мабілізуюць сілы і агромнейшую энергію працоўных на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта пашырэнне ўдзелу мас у кіраўніцтве дзяржавай разам з тым ёсць і далейшае ўзмацненне дыктатуры пролетарыята, і ўнасімыя змены не могуць быць разглядаемы як прызнакі адмірання дзяржавы, як-бы гэтага ні жадалі і чаго з такой нецярплівасцю чакаюць нашы ворагі. На гэта ім можна адказаць словамі тав. Стэцкага, сказанымі ім у дакладзе з поваду XI гадавіны смерці

*) Ленін, т. XXIV. стар. 147.
**) Ленін, т. XXIV, стар. 315.

Леніна: **«Совецкая дзяржава—гэта стварэнне Леніна—мае слаўную гісторыю, слаўнае сучаснае, яшчэ больш слаўную будучыню»** *).

Не менш важнаю зменай у сістэме нашых выбараў з'яўляецца пераход **ад шматступенных да прамых выбараў.**

Не гледзячы на тое, што ў нас да апошняга часу прамыя выбары існавалі толькі для гарадскіх і сельскіх советаў, наша сістэма выбараў з'яўлялася самай шырокай і поўнай. У нас не магло быць такога становішча, як у капіталістычных краінах, дзе вельмі часта парламентарная большасць прадстаўляе не больш 2,3 проц. выбаршчыкаў. Нават у самых «дэмакратычных» рэспубліках ніколі працоўныя масы не маглі непасрэдна, прама выражаць свае класавыя інтарэсы ў вышэйшых органах улады. Падзел выбарчага права на актыўнае і пасіўнае, існаванне двух палат, выбарчая механіка, палітычны ажыятаж у час выбараў—усё гэта стварае ўмовы, пры якіх непасрэдны выбаршчык выбарчай урнай канчае сваю справу стварэння «заканадаўчых» органаў, якія звычайна ў выніку выбарчай кампаніі аказваюцца дзеючымі супроць сваіх выбаршчыкаў.

Советы, гэтыя непасрэдныя арганізацыі мас працоўных, даюць магчымасць масам арганізоўваць сваю ўладу і кіраваць непасрэдна дзяржавай.

Мы ўсё больш падыходзім да такой гістарычнай грані, калі ўсё працоўнае насельніцтва пагалоўна будзе ўцягнута ў кіраўніцтва дзяржавай. Кожны працоўны грамадзянін, будучы актыўным будаўніком социялістычнага грамадства, адчувае асабліва высокую адказнасць за жыццё нашай краіны. Працоўныя нашай краіны жадаюць і могуць устанавіць цяпер яшчэ больш шчыльную, непасрэдную сувязь з цэнтральным дзяржапаратам. Праз прамыя выбары масы будуць лепш ведаць сваіх дэпутатаў як у мясцовыя, так і ў цэнтральныя органы ўлады. Зразумела, што і надалей застаецца прынцып адклікання дэпутата, што ставіць яго пад кантроль выбаршчыкаў і робіць яго асабліва адказным за сваю работу. Кожны выбраны дэпутат будзе яшчэ больш аўтарытэтным.

Прамыя выбары прадстаўнікоў у цэнтральныя органы совецкай улады ўстановяць яшчэ больш цесную сувязь выбаршчыкаў з вярхоўнымі органамі, зробяць нашу дэмакратыю яшчэ мацнейшай і ўзнімуць яе на небывалую вышыню.

Нарэшце,—**замена адкрытых выбараў закрытымі.**

Буржуазія, якая раней узводзіла ў фетыш тайнае галасаванне, цяпер папірае яго нагамі. Узяць, напрыклад, ЗША, дзе на выбарах стала канкуруюць дзве буржуазныя партыі: рэспубліканская і дэмакратычная, якія адна другой па чарзе перадаюць урадавы пірог. Колькі трацiцца грошай магнатаў капітала і энергіі функцыянераў партый для перамогі над сваім канкурэнтам. У ход пускаюцца і подкупы (спецыяльныя канторы скупаюць галасы), і царква, і іншыя метады прыцягнення на свой бок выбаршчыкаў. У выніку такой прадвыбарчай «кампаніі» партыя праз сваіх раённых функцыянераў ужо за некалькі дзён да выбараў ведае прыблізныя вынікі. Выбары толькі фармальна аказаліся тайнымі. «Тайнае» галасаванне па-гітлераўску праходзіць больш проста: там пускаюць у ход тэрор, недвухсэнсавыя намёкі з боку штурмавікоў, агітацыю канцлагерамі, а калі патрэбна, то урны, па

*) „Правда" ад 24/I—35 г.

загаду звыш, напаўняюцца дадатковымі бюлетэнямі на карысць нацыянал-соцыялістаў. Гэта таксама завецца тайнымі выбарамі.

У фашысцкай Італіі «усенароднае» галасаванне праводзіцца наступным чынам: кожны выбаршчык атрымлівае дзве карткі, на якіх напісана: «Ці зацвярджаеце Вы спіс дэпутатаў, які намечан вялікім фашысцкім советам?» Галасаванне адбываецца праз прыпіску на картцы «так» ці «не». Выбаршчык атрымлівае дзве рознакаляровыя бланкі, прычым запоўненую ён апускае ў урну, а тую, што засталася, звароч-вае старшыні. Вядома, што старшыня адразу можа расшыфраваць, як выканаў свой грамадзянскі абавязак выбаршчык.

Закрытыя выбары ў совецкай сістэме, як і папярэднія прынцыпы, з'яўляюцца адной з вельмі дзейсных форм праверкі сувязі выбарных прадстаўнікоў з масамі. Гэты прынцып павышае патрабаванне працоўных мас да тых, каго яны будуць выбіраць, развівае шырокі кантроль работы выбраных дэпутатаў. Гэты прынцып так сама, як і іншыя змены ў развіцці нашай дэмакратыі, паказвае, на якую новую і недасяжную ні для адной з буржуазных краін вышыню ўзнялася наша краіна, увашоўшая ў новую эпоху совецкай дэмакратыі.

Перад нашай дэмакратыяй адкрываюцца невычарпальныя перспектывы росту і ўзмацнення. «Совецкая ўлада бярэ ўсё лепшае ў развіцці сучасных дзяржаў і смела ўвасабляе ў жыццё ў інтарэсах працоўных і супроць эксплаататараў, у інтарэсах будаўніцтва соцыялізма» **(Молатаў).**

Ідэя совецкага парламентарызма— гэта шырокае прадстаўніцтва інтарэсаў вырасшых у барацьбе з класавымі ворагамі працоўных мас, палітычнае прадстаўніцтва без адмоўных бакоў прасмаленага буржуазнага парламентарызма.

Развіццё совецкай дэмакратыі азначае і ўздым усёй работы советаў на нязмерна больш высокую ступень.

Тав. Молатаў у першым сваім дакладзе на VII з'ездзе намеціў праграму далейшай работы советаў на даным этапе. Неабходна, каб гэтая праграма стала прамым кіраўніцтвам у дзеянні кожнага совета, кожнага выканкома, усяго нашага совецкага апарата.

Канкрэтызаваць гэтую праграму, прыстасаваць яе ў адпаведнасці з задачамі соцыялістычнага будаўніцтва, знаходзіць усё новыя формы і метады палепшання работы нашых органаў—пярвейшая задача кожнага кіраўніка, кожнага совецкага работніка.

* *

Вялікія поспехі, якія прывялі нас да вышынь совецкага дэмакратызма, ні ў якой меры не знімаюць пытання аб працягу класавай барацьбы і наступленні на рэшткі капіталізма, аб узмацненні класавай пільнасці, аб барацьбе з усякага роду адхіленнямі ад генеральнай лініі партыі. А што рознага роду падонкі бышай трацкісцка-зіноўеўскай апазіцыі, контррэволюцыйная нацыянал-дэмакратычная шваль і іншыя ворагі совецкай улады і партыі не прамінуць выкарыстаць малейшыя нашы недахопы, у гэтым не прыходзіцца сумнявацца, бо рэшткі класаў яшчэ засталіся, і вораг сваю зброю мірна здаваць не збіраецца.

БССР, як ордэнаносную рэспубліку, асабліва абавязваюць рашэнні з'езда. Мы маем усе магчымасці ўзняць якасць нашай работы на яшчэ вышэйшую ступень. Гэта пытанне звязана з уздымам небывалай яшчэ

актыўнасці працоўных БССР на выкананне ўсіх важнейшых гаспадарча-палітычных задач. Энтузіязм працоўных нашай рэспублікі ў замацаванні дасягнутых перамог, яшчэ большы разварот совецкага дэмакратызма павысяць іх узровень, іх актыўнасць у барацьбе за будаўніцтва соцыялізма.

Давесці совецкі дэмакратызм да канца значыць максімальна ўзмацніць дыктатуру пролетарыята. Узмацненне совецкай дэмакратыі, як формы дзяржаўнага панавання, азначае яшчэ большае ўмацаванне пролетарскай дзяржавы.

Пад кіраўніцтвам тав. Сталіна створаная Леніным совецкая дзяржава моцна развіваецца і ператвараецца ў самую культурную і квітнеючую магутнаю сілай краіну.

«Цяпер мы краіна металёвая»—заявіў тав. Сталін у гутарцы з металургамі. Але такою наша краіна стала таму, што яе вядзе выліты з самага цвёрдага метала правадыр усіх працоўных—тав. Сталін. Пад яго кіраўніцтвам мы ператворым новую эпоху развіцця совецкага дэмакратызма ў эпоху найвялікшай, нябачанай яшчэ ў гісторыі чалавецтва актыўнасці мас па ўдзелу ў пагалоўным кіраўніцтве соцыялістычнай дзяржавай, па яшчэ больш хуткаму і ўсебаковаму яе ўзмацненню.

---

# КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

**КУЙБЫШЕВ В. В.** Статьи и речи. М. Партиздат ЦК ВКП(б), 1935 г. С. 356, Ц. 2 р. 50 к., пер. 1 р.

Зборнік артыкулаў і прамоў Валер'яна Владзіміравіча Куйбышэва за 1930-35 гг.

У кнізе змешчаны наступныя матар'ялы: «Аб выкананні пяцігадовага плана прамысловасці» (даклад на XVI з'ездзе ВКП(б)), «Аб другой пяцігодцы» (даклад на 17 усесаюзнай партканферэнцыі), «Народна-гаспадарчы план 1933 года—першага года другой пяцігодкі» (даклад на III сесіі ЦВК СССР 4-га склікання), «Другі пяцігадовы план» (даклад на XVII з'ездзе ВКП(б), «Ад VI да VII з'ездаў советаў СССР» (даклад на III маскоўскім абласным з'ездзе советаў) і т. д.

Гістарычныя прамовы і артыкулы т. Куйбышэва ярка адлюстроўваюць тую агромную работу на важнейшых участках соцыялістычнага будаўніцтва, якую праводзіў гэты выдатны дзеяч нашай партыі і совецкай улады. Усё жыццё В. В. Куйбышэва—бліжэйшага саратніка правадыра нашай партыі тав. Сталіна—з'яўляецца лепшым прыкладам гераічнай барацьбы пад сцягам марксізма-ленінізма за генеральную лінію партыі, за таржаство комунізма.

**«СТАЛИН и ХАШИМ»** (1901-1902 гг.) Некоторые эпизоды из Батумского подполья. С предисловием Н. Лакоба. Сухум. 1934 г. С. 41, Ц. 75 к.

У гэтай надзвычай цікавай кнізе, напісанай на аснове ўспамінаў абхазскага селяніна Хашыма Смырбы, падаюцца некаторыя эпізоды слаўнай работы т. Сталіна ў Батумскім падполлі ў 1901-1902 гг.

Проста, але яскрава расказваецца аб тым, як тав. Сталін ствараў у той час партыйныя арганізацыі ў Закаўказзі, арганізоўваў рабочых на барацьбу за дыктатуру пролетарыята, разгортваў рэволюцыйную прапаганду сярод сялян. У яркіх эпізодах кіпучай дзейнасці т. Сталіна, паданых у гэтай кнізе, выступае геройчная напружаная барацьба большэвіка-падпольшчыка, лепшага ленінца—т. Сталіна на першым этапе яго рэволюцыйнай дзейнасці.

**Ем. ЯРОСЛАВСКИЙ.** «Чего партия требует от коммуниста». Партиздат ЦК ВКП(б). 1935 г. С. 103, Ц. 65 к.

Папулярная брашура аб абавязках комуніста, якія вынікаюць з праграмы нашай партыі і статута, прынятага XVII з'ездам ВКП(б). Каротка азнаёміўшыся з асноўнымі асаблівасцямі ленінскай партыі, яе роллю на паасобных этапах барацьбы за дыктатуру пролетарыята

і арганізацыйнымі прынцыпамі большэвізма, аўтар разглядае патрабаванні, якія прад'яўляюцца кожнаму комуністу, як члену передавога атрада пролетарыяў СССР. Ён вавастрае ўвагу на веданні партыйнай праграмы і паўсядзеннай барацьбы за яе ажыццяўленне, на выкананні статута ВКП(б) і няўхільным правядзенні жалезнай партыйнай дысцыпліны, якая з'яўляецца залогам маналітнасці і боездольнасці большэвіцкіх радоў.

Тав. Яраслаўскі гаворыць аб вывучэнні марксізма-ленінізма, аўладанні рэволюцыйнай тэорыяй, сістэматычным павышэнні палітычнай граматнасці і агульнай культуры. Ён падкрэслівае неабходнасць высокай рэволюцыйнай пільнасці і бязлітаснай непрымірымай барацьбы за адзінства партыі, супроць апартуністаў усіх колераў, парушальнікаў гэтага адзінства, супроць ворагаў дыктатуры пролетарыята.

Далей аўтар спыняецца на прынцыпах комуністычнай этыкі і маралі і знаёміць з асновамі інтэрнацыянальнага выхавання комуніста. Дадаткам змешчан статут ВКП(б), прыняты XVII з'ездам партыі.

**Я. А. ЯКОВЛЕВ.** О примерном уставе сельскохозяйственной артели.

**М. А. ЧЕРНОВ.** О работе комиссии 2 с'езда колхозников-ударников по примерному уставу сельскохозяйственной артели. М. 1935. С. 95. Ц. 60 к.

Даклады т. т. Якаўлева і Чэрнова на 2 усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў з'яўляюцца важнейшымі дакументамі перамогі социялізма ў сельскай гаспадарцы, разгорнутай праграмай барацьбы за большэвіцкія калгасы і заможнае жыццё шырокіх калгасных мас. Змешчан таксама прыняты з'ездам сталінскі прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі, які вызначае далейшы шлях калгаснага сялянства СССР.

Гэтая кніга павінна быць настольнай для кожнага калгасніка, кожнага комуніста. Даклад т. Якаўлева і прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі выданы асобнымі брашурамі на беларускай мове.

**Совещание работников тяжелой промышленности.** Стенографический отчет Изд. НКТП СССР 1935 г. С. 398. Ц. 3 р. 50 к. Пер. 1 р.

Усесаюзная нарада работнікаў цяжкай прамысловасці, якая адбылася ў верасні 1934 года, была прысвечана барацьбе за перавыкананне плана 1934 года, за мабілізацыю магутных рэзерваў цяжкай прамысловасці, за большэвіцкую падрыхтоўку к поўнаму выкананню плана трэцяга года 2-й пяцігодкі.

Ва ўступнай прамове т. Орджанікідзе гаворыць аб тым, як мабілізаваць і прывесці ў рух багатыя і нескарыстаныя рэзервы цяжкай індустрыі. Аналізуючы ход выканання прамысловасцю 6-ці гістарычных умоў тав. Сталіна і дырэктыў XVII з'езда ВКП(б), ён заклікае работнікаў цяжкай індустрыі быць у авангардзе разгорнутага соцыялістычнага наступлення па ўсяму фронту ў 1935 годзе—трэцім годзе другой пяцігодкі. Выступленні гаспадарнікаў, інжынераў, тэхнікаў, партыйных і профсаюзных работнікаў цяжкай прамысловасці прысвечаны пытанням палепшання работы ў галінах цяжкай індустрыі. Змешчана таксама адозва нарады да ўсіх работнікаў цяжкай прамысловасці, дзе чотка сфармуляваны асноўныя кіруючыя ўказанні аб тым, як павінны працаваць нашы гаспадарнікі.

**Брыгада Бібліяграфічнага Інстытута БССР імя Леніна.**

# ПАСТАНОВЫ ЦК КП(б)Б

## Аб часопісу „Соцыялістычнае будаўніцтва"— орган Дзяржплана і УНХУ Беларусі

*Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б*

Прызнаць, што часопіс «Соцыялістычнае будаўніцтва», які павінен быў быць аперацыйным, мэтанакіраваным, зразумелым і блізкім раённаму гаспадарчаму кіраўніцтву, які дапамагаў-бы аўладаць сістэмай соцыялістычнага планавання, выяўленню крыніц далейшага разгортвання прадукцыйных сіл, арганізаваў-бы масы на барацьбу за выкананне рашэнняў партыі і ўрада,—на справе аказаўся *замкнутым* у канцэлярыях Дзяржплана, апалітычным, не толькі не здолеў своечасова ўскрываць антыпартыйныя і шкодніцкія ўстаноўкі ў галіне планавання, не змог паставіць важнейшых пытанняў соцыялістычнага будаўніцтва ў святле рашэнняў партыі і ўрада, але аказаўся трыбунай для пратасквання трацкісцкай кантрабанды.

Бюро ЦК КП(б)Б, адзначаючы гэта, лічыць, што часопіс «Большэвік Беларусі» (у № 5—6) своечасова і правільна даў крытыку работы рэдкалегіі часопіса «Соцыялістычнае будаўніцтва», ускрыўшы гэтым самым меўшыя месца факты пратасквання контррэволюцыйных тэорый на старонках часопіса.

Выходзячы з гэтага, Бюро ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Даручыць т. т. Любовічу, Коніку і Тавакальяну да 20/V г. г. падабраць і даць на зацверджанне кандыдатуру рэдактара часопіса «Соцыялістычнае будаўніцтва» (аслабанёнага) і 2-х членаў рэдкалегіі, не аслабанёных ад работы.

2. Абавязаць рэдакцыю часопіса і т. т. Любовіча і Владзімірскага забяспечыць перабудову работы часопіса ў такім напрамку:

а) каб часопіс сапраўды апіраўся на шырокія кадры творцаў соцыялістычнага грамадства, стварыць аўтарскі актыў з людзей, ведаючых эканоміку і тэхніку народнай гаспадаркі і бязмежна адданых справе соцбудаўніцтва;

б) каб ён стаў зразумелым і блізкім усяму раённаму гаспадарчаму кіраўніцтву;

в) каб пытанні планавання соцыялістычнай гаспадаркі былі ўзняты на агромную палітычную вышыню, г. зн.—часопіс павінен дапамагаць аўладаць сістэмай соцыялістычнага планавання, выяўляць крыніцы далейшага разгортвання прадукцыйных сіл у разрэзе раёнаў і рэспублік у цэлым і кантраляваць выкананне планаў;

г) часопіс павінен, даючы асноўныя паказчыкі кан'юнктуры соцыялістычнай гаспадаркі БССР, даваць асноўныя паказчыкі і па СССР і тых рэспубліках і абласцях, з якімі паасобныя галіны нашай гаспадаркі вядуць соцыялістычнае спаборніцтва.

3. Дазволіць Дзяржплану і УНХУ выдаваць часопіс дванаццаць нумароў у год, размерам 4 аркушы (замест 8-мі раней).

4. Пастанову апублікаваць у друку.

Сакратар ЦК КП(б)Б **Гікало.**

# Аб падрыхтоўцы тэхнічнай базы хлебазагатоўчай кампаніі па сістэме Заготзярно на 1935 г.

## (Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР)

Пастанова Соўнаркома СССР і ЦК ВКП(б) аб абавязковых пастаўках зярна дзяржаве калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі з ураджаю 1935 года ўскладае на хлебазагатоўчы апарат, райкомы, райвыканкомы асаблівую адказнасць за своечасовую падрыхтоўку матар'яльнай тэхнічнай базы Заготзярно да прыёмкі зярна.

ЦК КП(б)Б і Совет Народных Камісараў БССР **пастанаўляюць:**

1. Абавязаць Белзаготзярно—т. Нольдэ, загадчыкаў пунктамі Заготзярна правесці наступныя работы па падрыхтоўцы тэхнічнай базы:

а) закончыць новае будаўніцтва зернаскладаў на 50 тыс. тон да 10 мая 1935 года.

Правесці рамонт усіх старых зернаскладаў да 1 ліпеня г. г., дабіўшыся высокай якасці гэтай работы;

б) закончыць будаўніцтва новай зернасушылкі ў Гарадку і рамонту ўсіх старых зернасушылак і перад загатоўчай кампаніяй правесці дасканальную праверку іх работы;

в) закончыць да 1 ліпеня г. г. поўнае абсталяванне і механізацыю намечаных па плану зернаскладаў (установку новых механізмаў у Менску і рамонт старых механізмаў на астатніх пунктах;

г) адрамантаваць на тэрыторыі складаў пад'яздныя шляхі, чыгуначныя веткі і прычалы;

д) правесці дэзінфекцыю ўсіх складаў Заготзярна і тары, з праверкай вынікаў дэзінфекцыі ДХІ, у частцы знішчэння амбарных шкоднікаў;

е) правесці абеззаражванне зярна мінулага года і своечасова скарыстаць нястойкае зярно шляхам выдачы яго спажыўцам, а таксама перапрацоўкі на млынах;

ж) правесці рамонт, правільнае размеркаванне і пераразмеркаванне ўсяго наяўнага інвентара (вагавога, зернаачышчальнага, супроцьпажарнага), у прыватнасці рамонт і кляймение ваг так, каб забяспечыць кожны пункт гэтым інвентаром, таксама набыць нехапаючы вагавы, зернаачышчальны, лабараторны і супроцьпажарны інвентар;

з) укамплектаваць поўнасцю штаты пунктаў Заготзярна добрасумленнымі кваліфікаванымі работнікамі, узмацніўшы ў сістэме Заготзярна класавую пільнасць, праверыўшы склад хлебазагатоўчага апа-

рата, выкрыць і выгнаць класава-варожыя, разлажыўшыяся, непрацаздольныя элементы сістэмы.

Падрыхтаваць і перападрыхтаваць праз курсы кадры пунктаў Загтзярна: прыёмшчыкаў, якаснікаў, рахунковых работнікаў і інш.—140 чалавек, а таксама праз тэхмінімум, без адрыву ад вытворчасці, усіх работнікаў сістэмы;

і) прывесці ва ўзорны, культурны і санітарны стан тэрыторыі пунктаў Заготзярна;

к) для забяспечання культурнага абслугоўвання хлебаздатчыкаў падрыхтаваць на пунктах Заготзярна чайныя, устанавіць радыё, арганізаваць таварныя ларкі і газетныя кіёскі;

л) своечасова забяспечыць загатоўчыя пункты хлебнымі квіткамі, ордэрамі, бланкамі і формамі справаздачнасці і ўсімі неабходнымі інструкцыямі ва ўстаноўлены тэрмін;

м) зацвердзіць цвёрдую сетку пунктаў сістэмы Заготзярна па БССР у колькасці 83, з прымацаваннем да іх раёнаў як па хлебапастаўках, так і па снабжэнню, з якіх 36 асноўных пунктаў з закончанай справаздачнасцю, 47 падсобных па лініі Заготзярна і 8 пунктаў па лініі спажыўкааперацыі;

н) абавязаць т. Нольдэ прыняць ад кааперацыі прыёмныя прыстанцыйныя пункты: Капцэвічы, Пціч, Ельск, Жыткавічы на тых-жа ўмовах, на якіх гэтыя пункты былі перададзены кааперацыі;

о) прыняць да ведама заяву т. Нольдэ аб тым, што беларуская сістэма Заготзярна ўключылася ў абвешчаны Камітэтам загатовак пры СНК СССР, цэнтральнымі камітэтамі саюза мукамолаў і У/А Заготзярна ўсесаюзны конкурс-спаборніцтва на лепшую падрыхтоўку тэхнічнай базы да хлебапаставак.

2. Абавязаць сакратароў райкомаў і старшынь райвыканкомаў узяць пад свой нагляд падрыхтоўку матар'яльнай, тэхнічнай базы Заготзярна і аказаць максімальную практычную дапамогу пунктам Заготзярна ў падрыхтоўцы матар'яльна-тэхнічнай базы з заключэннем поўнай падрыхтоўкі да ўстаноўленага тэрміну (дапамога ўкамплектавання людзьмі, набор рабочай сілы на новае будаўніцтва, рамонт складаў, дапамога ў загатоўцы мясцовых (нефандзіруемых) будматар'ялаў і падвозка іх, а таксама арганізаваць рамонт пад'ездных шляхоў, вядучых да складаў Заготзярна).

3. Абавязаць ЦС Асоавіяхіма—тав. Дубіна правесці дэзінфекцыю і газацыю зярна і складаў Заготзярна на падставе заключанага дагавора з Беларускай канторай Заготзярна. Гэтую работу поўнасцю скончыць да 1 ліпеня г. г.

4. Абавязаць НКМясцпром—тав. Балціна да 1 ліпеня г. г. адрамантаваць у сваіх майстэрнях вагавы, лабараторны інвентар пунктаў Заготзярна.

5. Абавязаць Наркамат земляробства—т. Бенека, уп. Наркамсоўгасаў—т. Жолудава, дырэктароў трэстаў уп. НК соўгасаў арганізаваць поўную ачыстку і абеззаражванне ад амбарных шкоднікаў (кляшча, доўганосіка і інш.) у соўгасах, калгасах і аднаасобных гаспадарках—токаў, гумнаў, свірнаў, малацільнага, перавозачнага і тарнага інвентара.

6. Абавязаць старшыню Белкаапсаюза тав. Баскіна, дырэктара Белдзяржспірта тав. Кузьмічова, дырэктара Лесбела тав. Шапіра поўнасцю падрыхтаваць сваю складскую плошчу да прыёмкі хлеба ад хлебаздатчыкаў, не пазней 1 ліпеня г. г. з прымяненнем усіх мерапрыемстваў, якія ўжываюцца пры падрыхтоўцы тэхнічнай базы на пунктах Заготзярна.

7. Абавязаць рэдактара газеты «Звязда» тав. Стэрніна асвятляць ход падрыхтоўкі тэхбазы па БССР і спаборніцтва між паасобнымі пунктамі Заготзярна, а таксама спаборніцтва па падрыхтоўцы тэхбазы ў БССР з Заходняй областю.

Сакратар ЦК КП(б)Б **Гікало.**

Старшыня СНК БССР **Галадзед.**

Уп. Галоўлітбел № 3306.
Тыраж 8540.
226.800 друк. зн. (6 арк.)
Здана ў набор 10|V—35 г.
Падпісана да друку 25|V—35 г.

*Рэдкалегія* К. Мінкін (адказны рэдактар), Д. Конік, Г. Рубінштэйн

Менск, друк. імя Сталіна. Зак. № 469.



# Да ведама чытачоў „БОЛЬШЭВІКА БЕЛАРУСІ“

На аснове пастановы Бюро ЦК КП(б)Б часопіс

„БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“

з 1-га красавіка г. г. будзе выходзіць АДЗІН РАЗ У МЕСЯЦ. У сувязі з гэтым намечаны рэдакцыяй аддзел „Партыйнае жыццё“ у якасці самастойнага аддзела друкавацца не будзе, і ўсе матар'ялы, звязаныя з гэтым аддзелам, будуць змяшчацца ў агульным парадку.

У сувязі з пераходам часопіса на штомесячнік, чытачам, якія падпісаліся на другі квартал або на большы час, ПАДПІСКА на часопіс „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“ АЎТАМАТЫЧНА ПРАЦЯГВАЕЦЦА, адпаведна з розніцай унесенай падпісной платы.

**РЭДАКЦЫЯ.**

ЦАНА 40 кап.




**Інстытут масавага завочнага навучання партактыва пры**

455

*„... Без глыбокага і ўсебаковага вывуч... партыі нельга авладаць ленінска-сталінс... нельга зразумець і разабрацца ў бягучай палітыцы нашай партыі, нельга навучыцца па-бальшэвіцку выкрываць класавага ворага, якой-бы маскай вораг ні прыкрываўся.*

*... Пры вывучэнні гісторыі партыі асобая ўвага павінна быць аддана пасляокцябрскаму перыяду гісторыі нашай партыі".*

*(З пастановы пленума Ленінградскага ГК ВКП(б) ад 29-III—35 г.).*

**Інстытут пры ЦК КП(б)Б перадае па радыё**

цыкл лекцый па пасляокцябрскаму перыяду

# ГІСТОРЫІ ВКП(б)

# СЛУХАЙЦЕ

## Ў МАІ 1935 г.

23-га — Першыя крокі савецкай улады.

27-га — Барацьба партыі з „левымі" комуністамі і трацкістамі за рэволюцыйны выхад з імперыялістычнай вайны.

29-га — Партыя—правадыр і арганізатар перамог на франтах грамадзянскай вайны.

## У ЧЭРВЕНІ 1935 г.

5-га — Партыя ў барацьбе з трацкізмам і групай дэмакратычнага цэнтралізма ў гады ваеннага комунізма.

7-га — Пераход к нэпу і барацьба партыі з трацкізмам і „рабочай апазіцыяй".

11-га — Партыя ў аднаўленчы перыяд і барацьба з трацкізмам у 1923—24 гг.

17-га — Барацьба партыі з „новай апазіцыяй" (Каменеў—Зіноўеў) і контррэволюцыйным трацкісцка-зіноўеўскім блокам (1925—27 гг.).

23-га — Разгорнутае соцнаступленне па ўсяму фронту і барацьба партыі з правым апартунізмам, як галоўнай небяспекай у той перыяд.

27-га — Партыя ў перыяд паміж XVI і XVII з'ездамі і барацьба з права-лявацкім двурушніцкім блокам.

29-га — Барацьба партыі за бяскласавае соцыялістычнае грамадства і задачы павышэння бальшэвіцкай пільнасці.

*„... Няма лепшага сродку выхавання нашай моладзі ў духу марксізма-ленінізма, чым гісторыя нашай партыі" (Кагановіч).*

**Радыёлекцыі слухайце праз Менскую радыёстанцыю на хвалі 1442 метры з 19 г. 30 м. да 20 г. 30 м.**

Запісвайцеся на арганізаванае слуханне курсу лекцый па пасляокцябрскаму перыяду гісторыі ВКП(б).

Слухайце ў спецыяльна абсталяваных радыёаўдыторыях пры партгабінетах, у калгасах, соўгасах, а таксама праз індывідуальныя радыёпрыёмнікі і радыёточкі.

Спраўкі аб тым, дзе арганізавана слуханне лекцый і па іншых пытаннях завочнага навучання, Вы атрымаеце ў райкоме КП(б)Б або непасрэдна ў Інстытуце масавага завочнага навучання пры ЦК ВКП(б).

**Пытанні, а таксама заўвагі і водзывы аб праслуханых лекцыях накіроўвайце па адрасу: г. Менск, в. К. Маркса, 47-30, Інстытут пры ЦК КП(б)Б, радыёсектар.**

*ДЫРЭКЦЫЯ ІМЗО пры ЦК КП(б)Б.*